

*Лукас Кранах Старэйшы. Рай.*
*1530. Дрэва, алей. 81x114 см.*
*Вена, Музей гісторыі мастацтва.*



# Анёл дабрыні

Давайце збірацца ў такія суполкі,
дзе будуць на месцах пачэсных анёлкі.

Збярэмся, каб вечнасць штовечара слухаць,
спакой і натхненне ад Божага Духа!
Спрачацца не будзем, а верыць і думаць.

А дзеці малыя растуць, як анёлы...
Ды зло іх таксама хапае за полы...
Таму што анёлы — заўжды навасёлы.

А злыя не маюць апошняга слова,
бо іх перамога заўсёды часова.

І нават, як сэрца згарыць на агні,
то зло пераможа анёл дабрыні.

*Данута Бічэль*



У нумары 2/2010

## НАША ВЕРА

# Лукас Кранах Старэйшы. Рай



Лукас Кранах (1472—1553) з'яўляецца старэйшым у дынастыі нямецкіх мастакоў, якая згасне толькі ў XVII стагоддзі. Каб адрозніць ягонага сына, таксама Лукаса, сучаснікі, а потым і мастацтвазнаўчая навука зрабілі спадчынніку дадатак да імені — Малодшы. Кранах Старэйшы ніколі на працягу амаль паловы тысячагоддзя, што прамінула пасля яго смерці, не пакідаў Алімп нямецкага Рэнесанса. І многія нават выказвалі думку, што менавіта Кранах з'яўляецца найбольш яркім выразнікам нямецкага духу ў мастацтве. У шэрагу музейных калекцый захоўваюцца многія творы гэтага плённага майстра. І сапраўды, мільёны людзей у свеце пазнаюць праз іх непаўторны вобразны лад і характар нямецкага светаўспрымання. Румынская даследчыца Адзіна Нану так вызначыла месца мастака ў ягонай эпосе: «Рысавальшчык і каларыст аднолькавай сілы, Кранах валодаў з рэдкай вытанчанасцю як магчымасцямі экспрэсіі, уласцівай гатычнаму стылю, так і магчымасцямі экспрэсіі Рэнесанса. Ён стварыў вобраз свету з імпэтам гуманіста, закаханага ў гармонію і раўнавагу, але не пазбегнуў у сваёй творчасці таксама і ўсплёскаў спрадвечнай жыццёвай моцы»[1].

Лукас Кранах Старэйшы нарадзіўся ў мястэчку Кронах, што ў Верхняй Франконіі, у сям'і мастака. Даследчыкі мяркуюць, што яго сям'я мела прозвішча Зюндэр. Прозвішчам Кранах Лукас пачаў падпісвацца каля 1504 года ў гонар роднага горада. Першыя ўрокі малюнка і жывапісу ён атрымаў у свайго бацькі. У тыя часы людзі сталелі значна раней, чым у наш век. Юнак у якасці падмасцер'я прайшоў з брыгадай мастакоў па ўсёй Германіі, а ў 1493 годзе здзейсніў пілігрымку ў Святую Зямлю. У 29 гадоў мастак пасяліўся на тры гады ў Вене. Яго творы гэтага перыяду належаць да стылю Дунайскай школы, адным з лідэраў якой у гісторыі мастацтва зацвердзіцца сам Кранах. Мастакам гэтай школы (Альбрэхт Альтдорфэр, Вольф Губэр і іншыя) былі ўласцівыя інтарэс да прыроды, таямнічая яе трактоўка, «казачнасць» вобразаў. Плеяду гэтых творцаў можна назваць першымі рамантыкамі ў мастацтве нямецкага Рэнесанса. У гэтыя ж гады пачынаецца сяброўства мастака з выдатнымі нямецкімі гуманістамі і будучымі дзеячамі Рэфармацыі. У 1505 годзе імя Кранаха ўпершыню згадваецца ў дакументах горада Віттэнбэрга, дзе ён засноўвае сваю майстэрню з вучнямі і паслядоўнікамі, а таксама працуе прыдворным мастаком курфюрста саксонскага Фрыдрыха Разумнага.У 1508 годзе курфюрст пасылае Кранаха з дыпламатычнай місіяй у Нідэрланды. Мастака прымаюць і замаўляюць яму свае партрэты імператар Максімільян І і ягоны сын, будучы імператар Карл V. У Віттэнбэргу Кранах быў важнай і ўплывовай асобай, займаў высокія пасады ў гарадскім магістраце. Акрамя таго, ён валодаў аптэкай, гандляваў кнігамі і паперай, друкаваў кнігі. З ім, як з роўным, сябравалі Дзюрэр і Тыцыян. У 1547 годзе ў жыцці мастака адбываецца значны паварот. У бітве пры Мюльбэргу пацярпеў паразу ягоны патрон герцаг Ёган Фрыдрых Велікадушны, якога ўвязніў пераможца імператар Карл V. Кранах (ужо пажылы чалавек) не пакідае свайго дабрадзея і, перадаўшы мастацкую майстэрню сыну, накіроўваецца за герцагам — жыве і працуе побач з ім на выгнанні ў Аўгсбургу, Інсбруку, а потым у Ваймары.

Лукас Кранах памёр у Ваймары ў доме сваёй дачкі Барбары. Дарэчы, нямецкія даследчыкі высветлілі, што менавіта ад гэтай Барбары пайшоў род маці геніяльнага Гётэ. Такім чынам, вялікаму нямецкаму паэту Кранах быў прадзедам у сёмым калене.

Карціна «Рай» з венскага музея належыць да позняга перыяду творчасці Лукаса Кранаха. Тэма эдэмскай гармоніі жыла ў мастацтве на працягу ўсяго Сярэднявеч-

ча. Прыкметна, што сярэднявечныя мастакі амаль выключна ў рамках гэтай тэмы дазвалялі сабе адлюстраванне аголенай чалавечай натуры. Кранах — чалавек Рэнесанса, ён намаляваў шэраг палотнаў на антычную тэматыку, стварыў вобраз Венеры. Прыкладна ў той жа перыяд, калі быў намаляваны «Рай» (каля 1530 года), з-пад яго пэндзля выйшла карціна «Сярэбраны век»: адлюстраванне раніцы роду чалавечага, які жыў, яшчэ не ведаючы Боскай ісціны, у палоне неўтаймаваных інстынктаў і жарсцяў. Пасярод дзікай расліннасці мастак паказаў сцэну бойкі старажытных мужчынаў за валоданне жанчынамі. Аголеныя целы ў рэзкіх ракурсах, гульня напружаных мускулаў — гэта захапляла мастака, які, безумоўна, атрымаў урокі італьянскага мастацтва. Але Кранах не змог (хутчэй, не хацеў) пераадолець наіўнасць трактоўкі чалавечай фігуры, уласцівую паўночнаму мастацтву. Яго звычайна параўноўваюць з Дзюрэрам. Па-нямецку просталінейна гэта робіць, напрыклад, мастацтвазнаўца Курт Глазэр: «Жанчыны Дзюрэра шыракакостныя і спелыя. Яны цалкам развітыя ў сваёй жаноцкасці. Жанчыны Кранаха маюць дзявочую пабудову юнага цела, крохкага і няспелага. І мужчыны Кранаха таксама яшчэ вытанчаныя і грацыёзныя, з слабой мускульнай пабудовай»[2].

Аднак тое, што на словах можа падацца блізкім да негатыўнай ацэнкі, у карціне «Рай» успрымаецца вельмі адэкватна, як цудоўнае раскрыццё тэмы. На першым плане і ў цэнтры карціны мастак адлюстраваў самае галоўнае — зварот Бога да створаных ім мужчыны і жанчыны. Постаць Стваральніка ўвасабляе сабой мудрасць і строгі закон быцця. Ягоную павучальную прамову выслухоўваюць Ягоныя дзеці, інфантыльна-даверлівы выраз твараў якіх не бянтэжыць нас, як і вытанчаная грацыёзнасць, крохкасць іх фігураў. Яны — як маладыя кветкі пасярод зялёнай расліннасці Эдэмскага саду. Мастак вельмі чулліва перадаў светлы стан бязгрэшнасці і паслухмянасці. Каб быць паслядоўным, Кранах змясціў каля ног першых людзей выяву белага сабакі (сярэднявечны сімвал вернасці).

Выява атачэння галоўнай сцэны — гэта творчы гімн кожнага мастака Дунайскай школы. Менавіта гэтая плеяда майстроў у сваім захапленні прыродай зрабіла смелыя крокі да стварэння ў еўрапейскім жывапісе пейзажнай карціны як такой. Прысады і дрэвы намаляваны Кранахам з веданнем справы, як жанру натурных замалёвак, хаця некаторыя мастацтвазнаўцы адзначаюць у карціне «Рай» большую, чым у ранейшых творах, абагульненасць трактоўкі краявіда, крыху «цацачны» выгляд гор на фоне. Эрмітажны даследчык Мікалай Нікулін пісаў пра венскую работу Кранаха: «Яна нагадвае нам дзіцячы малюнак або народную ксілаграфію. У ёй ёсць нешта ірэальнае і фантастычнае. Карціна ўражвае нас сваёй прастадушнасцю і лірызмам»[3].

У райскім садзе пануюць спакой і суладдзе. На першым плане кампазіцыю ўраўнаважваць фланкуючыя фігуры белага каня і аленя. Звяры і птушкі бясклапотна жывуць ва ўсіх кутках карціны, але мастак парушае гармонію серыяй мізансцэнаў, у якіх адлюстроўваецца ўся эдэмская драма першых людзей. Малыя кампазіцыі на сярэднім плане карціны існуюць сінхронна. Гэта парэштткавы прыём сярэднявечных майстроў, які канчаткова будзе перададолены пазнейшымі рэнесансавымі мастакамі. Справа мы бачым сцэну стварэння Богам Адама. Потым (у парушэнне сюжэтнага шэрагу) — спакушэнне людзей нячысцікам-змеем з чалавечым торсам. Потым стварэнне Евы з рабра Адама. Яны хаваюцца ад Бога, зведаўшы плод пазнання. І ўрэшце каля левага краю кампазіцыі анёл гоніць прэч грэшных людзей. У нябёсах у яркім ззянні, аточаны воблакам — твар Бога, які ўсё бачыць і выносіць суровы прысуд парушальнікам запавету.

Нягледзячы на знешнюю шматслоўнасць сюжэта карціна не распадаецца на фрагменты. Моцным вузлом кампазіцыю трымае цэнтральная сцэна, найбольш выразная, жывая і па-майстэрску выкананая. І, безумоўна, звязуючым з'яўляецца вобраз прыроды, флоры і фаўны, у якіх мастак бачыць сапраўднае адлюстраванне райскага стварэння. Яблыня спакушальна красуе пладамі, што гараць сярод лісця, як ліхтарыкі. З радасцю намаляванае неба: тонкі пераход ад светлай палоскі над дальнімі кронамі дрэваў праз лёгкі блакіт да сіні ў вышыні.

Каларыстыка карціны надзвычай чулая, тыпова кранахаўская. Пяшчотныя фарбы карнацыі гучаць мацней сярод больш шчыльных і халодных зялёных тонаў. Чырвань мантыі Бога з'яўляецца самым напружаным каларыстычным элементам, які выступае ў некалькіх месцах кампазіцыі.

Справядліва кажуць, што любы час для творцы — складаны і драматычны. Для пакалення мастака і на працягу наступных стагоддзяў «Рай» Кранаха быў і застаецца прыўкрасным адлюстраваннем хрысціянскага ідэалу, да якога павінна імкнуцца чалавецтва і ўсё жывое.

*Валеры Буйвал*

[1] A. Nanu. Cranach. Bucuresti, 1972. С. 6.
[2] C. Glaser. Lukas Cranach. Leipzig, 1921. С. 190–191.
[3] N. Nikulin. Lukas Cranach. Leningrado, 1980. С. 16.

**Валеры Буйвал** – мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,
Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, доктар тэалогіі

# Дэкларацыя «*Nostra aetate*»
## і развіццё хрысціянска-юдэйскага дыялогу*

Сёння, калі ўвесь свет усё часцей сутыкаецца з вельмі небяспечнымі выклікамі часу, людзі розных веравызнанняў павінны зрабіць усё магчымае, каб разам на іх адказаць. Гэта наш маральны абавязак. Мы павінны паказаць свету, які заграз у бездухоўнасці, секулярызме, маральным рэлятывізме, ксенафобіі, карупцыі, бясконцых ваенных канфліктах, тэрарызме, цвярджэнні цывілізацыі смерці, што рэлігійныя каштоўнасці, усеагульнае паразуменне, дыялог і талерантнасць паміж людзьмі розных веравызнанняў з'яўляюцца шляхам для лячэння яго сучасных праблемаў.

Чатыры гады таму назад Каталіцкі Касцёл адзначыў 40-ю гадавіну з дня заканчэння Другога Ватыканскага Сабору (1962–1965), які карэнным чынам змяніў не толькі разуменне Касцёла, але і яго стаўленне да іншых канфесій, рэлігій і навакольнага свету.

Асноўнымі мэтамі Сабору былі: развіццё самасвядомасці Касцёла, літургічная рэформа, адзінства хрысціянаў і дыялог Касцёла са светам (пар. ENCh Vat, I, p. 103). У час гэтага касцёльнага форуму Сабор адказаў на галоўнае пытанне: «Ecclesia quid dicis de teipsa?» (пар. AnCr, X, s. 215). Прычым адказаў у двух аспектах: «ad intra» і «ad extra», г. зн. «унутраным» і «знешнім». Гэта было штосьці новае, чаго дагэтуль не бачылі ў жыцці Каталіцкага Касцёла.

Адным з дакументаў, які быў прыняты на Саборы і вызначыў адносіны Касцёла да навакольнага свету, з'яўляецца дэкларацыя пра адносіны да нехрысціянскіх рэлігій «Nostrae aetate».

Гэты дакумент пачаў фармавацца толькі ў 1964 г., г. зн. на III сесіі Сабору. Першапачаткова ў праекце дакумента пра экуменізм у яго асобным раздзеле ішла таксама размова пра адносіны да юдэяў і да іншых нехрысціянскіх рэлігій. Аднак такая схема востра крытыкавалася айцамі Сабору, якія хацелі мець асобны дакумент, прысвечаны нехрысціянскім рэлігіям.

У выніку быў падрыхтаваны праект дэкларацыі, якая складалася з пяці параграфаў: уступ, адносіны з нехрысціянскім светам, адносіны з мусульманамі, з юдэямі і ўсеагульнае братэрства людзей, якое адмаўляецца ад дыскрымінацыі і асуджае яе.

Гэта стала яскравым сведчаннем дынамічнасці Каталіцкага Касцёла, які, пазнаючы сябе, адкрываецца таксама і нехрысціянскаму свету.

У выніку схема дэкларацыі была дапрацаваная ў адпаведнасці з пажаданнямі айцоў Сабору, разгледжаная і прынятая на IV яго сесіі ў 1965 г. (пар. Lambert, NOK, s. 193; LThK Vat II, II, S. 472–474; LThK Vat II, III, S. 649).

Дакумент датычыць наступных васьмі тэмаў.

1 — пра адзіную супольнасць, што складаюць усе народы, у якіх ёсць адна мэта — Бог;

2 — пра розныя нехрысціянскія рэлігіі. Пра натуральную — заснаваную на прызнанні рознымі народамі нейкай патаемнай сілы, якая праяўляецца ў падзеях чалавечага жыцця (у тым ліку — прызнанні Найвышэйшага Боства), — рэлігію. Пра індуізм, у якім людзі даследуюць боскую таямніцу і прадстаўляюць яе ў міфах і філасофскіх разважаннях. Пра будызм, які вучыць уменню дасягаць стану дасканалай свабоды, або найвышэйшага прасвятлення ўласнымі сіламі ці пры найвышэйшай дапамозе;

3 — пра паважлівыя адносіны да мусульманаў, якія пакланяюцца адзінаму Богу, жывому і самаіснаму, міласэрнаму і ўсемагутнаму, Стварыцелю неба і зямлі, якія прызнаюць Абрагама і пракокаў;

4 — пра агульную духоўную спадчыну хрысціянаў і юдэяў;

5 — пра прынцыповую недапушчальнасць калектыўнай адказнасці юдэяў за смерць Хрыста;

6 — пра тое, што габрэйскі народ не можа лічыцца адкінутым Богам;

7 — пра недапушчальнасць вучыць таму, што не адпавядае праўдзе Евангелля і духу Хрыста;

8 — пра асуджэнне дыскрымінацыі і прыгнёту людзей з-за іх нацыянальнай прыналежнасці, расы, грамадскага становішча ці веравызнання і пра неабходнасць стварэння агульначалавечага братэрства (пар. NA).

Такім чынам, дэкларацыя «Nostra aetate» распачала новы перыяд ва ўзаемаадносінах Каталіцкага Касцёла з нехрысціянскімі рэлігіямі.

Хоць дэкларацыя «Nostra aetate» з'яўляецца самым кароткім дакументам Другога Ватыканскага Сабору, тым не менш яна і па сваім змесце, і па сваім духу найлепш адпавя-

** Рэферат быў прачытаны на міжнароднай канферэнцыі «Хрысціянска-юдэйскі дыялог <...>», Мінск, лістапад, 2009 г.*

дае імкненню Сабору весці дыялог Касцёла з навакольным светам, у нашым выпадку — з нехрысціянскімі веруючымі. Яе палажэнні лагічна вынікаюць з вучэння асноўнага саборнага дакумента — дагматычнай канстытуцыі пра Касцёл «Lumen gentium» («Святло народам») пра новы Божы народ, у які пакліканы ўсе людзі (пар. LG 13).

У сваім вучэнні дэкларацыя падкрэслівае тое, што з'яўляецца агульным і аб'ядноўвае Каталіцкі Касцёл з нехрысціянскімі рэлігіямі. А менавіта, імкненне адказаць на пытанні пра тое, кім ёсць чалавек, які сэнс яго жыцця, што такое дабро і грэх, адкуль узнікае цярпенне і навошта яно, дзе шукаць шлях да сапраўднага шчасця, што такое смерць, суд і адплата пасля смерці, чым ёсць апошняя і невымоўная таямніца, з якой мы бярэм пачатак і да якой мы імкнемся (пар. NA 1). Яна таксама падкрэслівае імкненне да наладжвання братэрскіх адносінаў з людзьмі іншых нацыянальнасцяў і веравызнанняў (пар. NA 5).

Асноўным і цалкам новым у вучэнні Каталіцкага Касцёла з'яўляецца прызнанне ў іншых рэлігіях, асабліва ў юдаізме, духоўных і маральных вартасцяў, а таксама сацыяльна-культурных каштоўнасцяў (пар. NA 2).

Вучэнне дэкларацыі пра габрэяў і юдаізм можна акрэсліць у трох наступных пунктах (пар. NA 4):

1. Аб'ектыўна існуе цесная сувязь паміж Касцёлам і габрэйскім народам. Хрысціянаў і юдэяў аб'ядноўвае Стары Запавет. Хрыстус, Марыя, Апосталы і першыя хрысціяне былі габрэямі. Гэта значыць, што дэкларацыя асабліва падкрэслівае агульную спадчыну юдэяў і хрысціянаў.

2. Дэкларацыя фармуе цалкам новы погляд на адказнасць габрэяў за смерць Хрыста. Яна вучыць, што хоць юдэйскія ўлады настаялі на смерці Езуса, аднак нельга абвінавачваць у гэтым усіх без выключэння тагачасных ці сучасных юдэяў і таму іх нельга лічыць адкінутымі Богам.

3. Каталіцкі Касцёл асуджае і аплаквае нянавісць, пераслед і ўсе праявы антысемітызму, якія былі скіраваныя калі-небудзь і кім-небудзь супраць юдэяў.

Такім чынам, дэкларацыя «Nostra ætate» абвяшчае канец сумнаму часу супрацьстаяння, калі да веравызнаўцаў нехрысціянскіх рэлігій каталікі адносіліся з пагардаю, а часам нават з нянавісцю.

Прымаючы гэтую важную дэкларацыю, Каталіцкі Касцёл зрабіў яшчэ адзін крок у развіцці вельмі неабходнага міжрэлігійнага дыялогу. Ён заклікае ўсіх людзей пераадольваць рэлігійныя канфлікты, разам пашыраць маральныя каштоўнасці, імкнуцца да міру, справядлівасці і свабоды. Дэкларацыя прызнае ўтоеную ў кожным чалавеку глыбокую прагу боскага. Нехрысціянскія рэлігіі, прызнаючы існаванне найвышэйшай сілы, адпавядаюць прынцыпам чалавечай мудрасці. Хрысціянства і юдаізм прапаноўваюць сваё бачанне Бога, аднак заўсёды Адзінага Стварыцеля, які стварыў чалавека і адплаціць яму па яго справах.

Дэкларацыя «Nostra aetate» сапраўды стала паваротным пунктам Каталіцкага Касцёла ў адносінах да нехрысціянскіх рэлігій. Упершыню ў гісторыі Касцёла яна на найбольш высокім і аўтарытэтным узроўні, якім з'яўляецца Сабор, вызначыла да іх сваё пазітыўнае стаўленне — і гэта неабходна асабліва падкрэсліць.

Такім чынам, Другі Ватыканскі Сабор аказаў вялікі ўплыў на развіццё міжрэлігійнага дыялогу, адкрыў шлях да прымірэння і ўсталявання якасна новых адносінаў з прадстаўнікамі іншых рэлігій.

У наш час, калі мінула ўжо больш за 40 гадоў з дня прыняцця гэтага дакумента, мы яшчэ больш востра ўсведамляем яго неабходнасць і важнасць.

Усё больш людзей разумее, што для пераадолення негатыўных з'яваў сучасны свет мае вялікую патрэбу ў дыялогу і талерантнасці як паміж дзяржавамі, эканамічнымі сістэмамі, культурамі, так і паміж сусветнымі рэлігіямі.

Гуманізацыя адносінаў паміж рознымі людзьмі зыходзіць перадусім з жадання зразумець іншага чалавека. Таму духоўнасць з'яўляецца найбольш важнаю крыніцаю пераўтварэння свету і патрабуе развіцця міжрэлігійнага дыялогу, які, у сваю чаргу, павінен адыгрываць усё больш істотную ролю ў будучым развіцці чалавецтва.

У цяперашні час таксама і працэсы глабалізацыі заклікаюць да ўзаемасупрацоўніцтва і дыялогу.

Дыялог прадугледжвае ўзаемную адкрытасць, павагу да думак іншага боку і адмовы ад манаполіі на праўду, валадаром якой з'яўляецца Стварца. Ён патрабуе цярплівасці, шчодрасці, добрай волі, павагі, адкрытасці і шчырасці ў адносінах да супрацьлеглага боку.

Дыялог — гэта наш шанц для стварэння новых узаемаадносінаў, якія прывядуць да пашырэння супрацоўніцтва, вельмі неабходнага і самім рэлігіям, і свету перад абліччам выклікаў сучаснасці, каб будаваць «цывілізацыю любові».

Каталіцкі Касцёл у апошні час звяртае асаблівую ўвагу на развіццё не толькі міжхрысціянскага, але і міжрэлігійнага дыялогу, у тым ліку з юдаізмам. Асаблівая заслуга ў гэтым належыць Другому Ватыканскаму Сабору, пантыфікам Яну XXIII, Паўлу VI, Яну Паўлу II і ў апошні час — Бэнэдыкту XVI. З мэтаю далейшага развіцця пачатага Саборам працэсу былі створаны спецыяльныя папскія рады па садзеянні хрысціянскаму адзінству і па міжрэлігійнаму дыялогу.

Варта асабліва падкрэсліць пантыфікат папы Яна Паўла II, які быў адзначаны развіццём адносінаў з юдаізмам у духу вучэння Другога Ватыканскага Сабору і вялікіх папярэднікаў Папы. Трымаючыся гэтага кірунку, ён ішоў на сустрэчу з вызнаўцамі юдаізму з уласцівым яму пачуццём павагі і жадання дапамагчы. Дастаткова згадаць, што ён быў першым у гісторыі Каталіцкага Касцёла Пантыфікам, які ў 1986 г. наведаў сінагогу ў Рыме.

Неабходна асабліва падкрэсліць, што менавіта Ян Павел II назваў юдэяў «старэйшымі братамі па веры» (пар. ППН, с. 84).

На малітоўныя сустрэчы рэлігійных лідэраў у Асізі ў 1986 і 2002 гадах Пантыфік запрасіў прадстаўнікоў не

толькі іншых хрысціянскіх канфесій, але і нехрысціянскіх рэлігій, у тым ліку і юдэяў.

У Апостальскай адгартацыі «Ecclesia in Europa» («Касцёл у Еўропе») Ян Павел II заклікаў да ўсведамлення асаблівай ролі Ізраэля ў гісторыі выратавання, а таксама разумення існавання агульных каранёў хрысціянства і габрэйскага народу, пакліканага Богам да запавету, які ніколі не будзе адменены (пар. Рым 11, 29; ЕЕ 56).

З уласцівым яму энтузіязмам Ян Павел II развіваў вучэнне дэкларацыі «Nostra aetate» пра тое, што іншыя рэлігіі таксама «адлюстроўваюць промень Праўды, якая асвячае ўсіх людзей» (NA).

Цяперашні папа Бэнэдыкт XVI працягвае лінію Другога Ватыканскага Сабору і свайго Вялікага папярэдніка.

19 жніўня 2005 г. у Кёльне, у Германіі, Бэнэдыкт XVI наведаў сінагогу, дзе заклікаў юдэяў і хрысціянаў да развіцця шчырага і даверлівага дыялогу і запэўніў у тым, што Каталіцкі Касцёл застаецца верным ідэям цярпімасці, павагі, сяброўства і міру паміж усімі народамі, рэлігіямі і культурамі. Галоўны рабін сінагогі Нетанэль Тайтэльбаму адзначыў, што візіт Папы ў сінагогу — гэта крок насустрач міру паміж народамі і знак пераадолення былога антысемітызму хрысціянаў (пар. CE—ChL с. II—III).

Выключна важным было наведванне Бэнэдыктам XVI у маі 2006 г. былога канцэнтрацыйнага лагера ў Асвенціме, дзе ў газавых камерах загінулі мільёны непавінных людзей розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, у тым ліку і габрэі. На гэтым святым месцы, дзе чалавецтва прайшло праз «цёмную даліну», Папа, як сын нямецкага народа, гаварыў, што, знішчаючы Ізраэль і ажыццяўляючы Шаах, гітлераўцы насамрэч хацелі вырваць карані хрысціянскай веры і замяніць яе верай ў панаванне моцнага чалавека. Там ён маліўся словамі псальма як малітвы Ізраэля і хрысціянаў: «Пан — мой Пастыр, ні ў чым не буду мець нястачы. Ён дазваляе спачываць мне на зялёных пашах. Да водаў спакойных вядзе мяне, Ён душу маю пажыўляе. Накіроўвае мяне на сцежкі справядлівасці дзеля Імя свайго. Калі нават пайду далінай смяротнага ценю, не буду баяцца зла, бо Ты са мною. Твой жэзл і Твой посах мяне суцяшаюць... і пасялюся я ў доме Пана на доўгія дні» (Пс 23(22) 1—4.6) (пар. http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi_spe_20060528_auschwitz-birkenau_pl.html).

У маі гэтага года Папа здзейсніў пілігрымку ў Святую Зямлю, дзе ён таксама прысвяціў шмат увагі сустрэчам з вызнаўцамі юдаізму. Папа наведаў мемарыял ахвярам Халакосту «*Яд ва-Шэм*», нанёс візіт у Вялікі Рабінат, маліўся каля Сцяны Плачу. У мемарыяле ён сказаў, што, як і яго папярэднікі, падтрымлівае задачу Касцёла маліцца і бесперапынна дзейнічаць для таго, каб зло больш ніколі не панавала ў сэрцах людзей (пар. http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi_speeches_2009/may/documents/hf_ben-xvi-spe_20090511_yad-vashem_it.html). Звяртаючыся да рабінаў у Вялікім Рабінаце, Папа сказаў, што Касцёл, згодна з Дэкларацыяй «Nostra aetate», працягвае высока ацэньваць агульную хрысціяна-юдэйскую спадчыну і жадае паглыбляць яе і праз біблейска-тэалагічныя даследаванні, і праз дыялог сяброўства. Ён таксама падкрэсліў, што юдэі і хрысціяне маюць аднолькавую зацікаўленасць у забеспячэнні пашаны да святасці чалавечага жыцця, цэнтральнай ролі сям'і, выхаванні моладзі, свабоды рэлігіі і развіцця маральна здаровага грамадства (пар. http://www.vatican.va/holy_father/benedict_xvi_speeches_2009/may/documents/hf_ben-xvi-spe_20090512_rabbini_it.html).

Выклікі нашага часу патрабуюць новага, больш дынамічнага падыходу да развіцця як экуменічнага, так і міжрэлігійнага дыялогу, у тым ліку з юдэямі. Гэты дыялог павінен праходзіць з удзелам грамадства з мэтаю абмеркавання яго штодзённых праблемаў і пошуку шляхоў іх вырашэння. У сувязі з гэтым трэба асабліва адзначыць стварэнне ў 2009 г. Грамадскай рады па праблемах маралі ў Рэспубліцы Беларусь, у якую разам з грамадскімі дзеячамі ўвайшлі прадстаўнікі праваслаўя, каталіцызму, лютэранства, юдаізму і ісламу.

Асноўны шэраг праблемаў, выкліканых працэсамі секулярызацыі і маральнага рэлятывізму, — гэта праблемы, што ўзнікаюць па прычыне духоўнага вакууму, які стаў выклікам для паслядоўнікаў усіх рэлігій. Таму мы павінны імкнуцца да дасканаласці і сваім жыццём паказваць прыклад адкрытасці, дыялогу і талерантнасці, а таксама сцвярджэння рэлігійных каштоўнасцяў у жыцці сучаснага свету, памятаючы пра тое, што зямля для ўсіх нас — агульны дом.

Гэта дазволіць усім рэлігіям, асабліва хрысціянству і юдаізму, унесці свой пасільны ўклад у сцвярджэнне агульных маральных каштоўнасцяў з мэтаю развіцця ўзаемапавагі ў грамадстве, каб кожны мог сказаць: «Як добра братам жыць разам» (пар. Пс 133(132), 1) і дзеля ажыццяўлення закліку дэкларацыі «Nostra aetate» «жыць у згодзе з усімі людзьмі» (пар. Рым 12, 18), каб сапраўды стаць дзецьмі Айца Нябеснага (пар. Мц 5, 18) (NA 5).

*Спіс выкарыстанай літаратуры і прынятыя скарачэнні*


1. Enchiridion Caticanum. Documenti ufficiali del Vaticano II (12), Bologna, 1981... (Ench Vat).
2. II Ватыканскі Сабор. Дагматычная канстытуцыя пра Касцёл «Lumen gentium» (LG).
3. II Ватыканскі Сабор. Дэкларацыя пра адносіны Касцёла да нехрысціянскіх рэлігій «Nostra aetate» (NA).
4. Lexikon fur Theoligie und Kirche. Das Zwaite Vatikanische Koncil. Dokumente und Komentare, I–III, Freiburg im Breisgau, 1967–1968 (LThK Vat II).
5. Analecta Cracoviensis, Kraków, 1969 ... (AnCr, X).
6. B. Lambert (red.). Nowy obraz Kościoła po Soborze Watykańskim II, Warszawa, 1968 (Lambert, NOK).
7. Ян Павел II. «Пераступіць парог надзеі», Рым–Люблін–Мінск, 1997 (ППН).
8. Иоанн Павел II. Апостольское обращение «Ecclesia in Europa» (EE).
9. Приложение к газете «Свет Евангелия»: «Christifideles Laici», 3(10), 28 августа 2005 г. (CE-ChL).



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XXXVIII**

*Як святы Францішак даведаўся ў духу сваім, што брат Ілля будзе асуджаны на пакуты пекла і памрэ па-за ордэнам; таму па просьбе брата Іллі памаліўся за яго Хрысту і быў пачуты*

Аднойчы святы Францішак і брат Ілля начавалі разам у адным францішканскім кляштары, і Бог адкрыў святому Францішку, што брат Ілля асуджаны на пакуты пекла і павінен сысці з ордэну і ўрэшце памерці па-за ордэнам. З-за гэтага святы Францішак стаў адчуваць да яго такі вялікі жаль, што перастаў да яго звяртацца і размаўляць з ім; а калі здаралася так, што брат Ілля ішоў да яго, то святы Францішак збочваў ды рушыў у іншы бок, каб не сустракацца з ім.

З-за гэтага брат Ілля пачаў думаць, што святы Францішак не мае да яго прыязнасці, і, жадаючы даведацца аб прычыне, аднойчы наблізіўся да святога Францішка, каб пагаварыць з ім; а пакольki святы Францішак хацеў ухіліцца ад размовы, то брат Ілля ўтрымаў яго сілай, але далікатна, і пачаў настойліва прасіць яго расказаць аб прычыне, па якой ён так пазбягае яго кампаніі і размовы з ім. І святы Францішак сказаў: «Прычына такая: адкрыта мне было Богам, што ты з-за сваіх грахоў пакінеш ордэн і памрэш па-за ордэнам, а яшчэ мне Бог адкрыў, што ты асуджаны на пакуты пекла».

Пачуўшы гэта, брат Ілля адказаў наступным чынам: «Ойча мой паважаны і найшаноўнейшы, прашу цябе дзеля любові да Хрыста, каб ты перастаў з-за гэтага пазбягаць мяне і ўцякаць ад мяне; але як добры пастух па прыкладзе Хрыстовым знайшоў і прыняў авечку, якая загіне, калі ты ёй не дапаможаш, і прасіў за мяне Бога, калі магчыма, адклікаць мой прысуд і маё асуджэнне на пакуты пекла; бо вядома, што Бог можа змяніць прысуд, калі грэшнік адкупіць свой грэх; а я маю такую вялікую веру ў твае малітвы, што калі б нават я быў пасярод пекла, а ты маліўся за мяне Богу, я б адчуў некаторую прахалоду; таму я і прашу цябе памаліцца за мяне, грэшніка, Богу, які прыйдзе, каб уратаваць грэшнікаў, прыняць мяне пад сваю

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

ласку». І казаў гэта брат Ілля з вялікай пабожнасцю і слязьмі, пасля чаго святы Францішак паабяцаў яму, як літасцівы бацька, што памоліцца Богу; так і адбылося.

І молячыся за яго Богу найпабожнейшым чынам, святы Францішак зразумеў, дзякуючы Божаму адкрыццю, што яго малітва была Богам пачутая ў тым, што датычыцца адмены прысуду аб асуджэнні брата Эліі і што ўрэшце душа яго не будзе асуджаная, але ён, несумненна, пакіне ордэн і памрэ па-за ордэнам. Так і адбылося. Таму калі Фрыдрых, кароль Сіцыліі, паўстаў супраць Касцёла і Папа адлучыў яго і ўсіх, хто даваў яму дапамогу ці параду, памянёны брат Ілля, якога лічылі адным з самых мудрых людзей на свеце, быў пакліканы Фрыдрыхам, далучыўся да яго і паўстаў супраць Касцёла і адступіўся ад ордэну: таму ён быў адлучаны Папам і пазбаўлены габіту святога Францішка.

А пасля ў стане такога адлучэння ён цяжка захварэў; адзін з братоў даведаўся аб гэтай хваробе, то свецкі брат, які застаўся ў ордэне і быў чалавекам прыкладнага жыцця і сумленнасці, пайшоў яго наведаць і між іншым сказаў яму: «Брат мой дарагі, вельмі мне балюча ад таго, што цябе адлучылі і выгналі з ордэну, і так і памрэш; але калі ты ведаеш шлях і спосаб, якім бы я мог вызваліць цябе з гэтай небяспекі, я б ахвотна пераадолеў для цябе ўсе перашкоды». Адказаў яму брат Ілля: «Брат мой, я не бачу іншага спосабу, як толькі пайсці да Папы і папрасіць яго дзеля любові да Хрыста і да яго слугі святога Францішка, дзеля вучэння якога я пакінуў свет, каб адклікаў назад адлучэнне і вярнуў мне назад габіт веры». Сказаў тады брат, што ахвотна гэта зробіць дзеля яго выратавання: і пасля таго, як пайшоў ад яго, упаў да ног Святога Айца, просячы яго пакорліва, каб зліtаваўся з яго брата дзеля любові да Хрыста і да святога Францішка. І па волі Божай Папа дазволіў, каб той вярнуўся, і, калі брат Ілля будзе яшчэ жывы, каб пазбавіў яго ад імя Папы ад адлучэння і вярнуў яму габіт. Таму брат выправіўся ў дарогу радасны і з вялікай хуткасцю вярнуўся да брата Эліі, і застаў яго жывым, але ўжо на мяжы са смерцю, і вызваліў яго ад адлучэння; і калі апранали на яго габіт, то ён пайшоў з гэтага жыцця, а душа яго была выратаваная дзякуючы заслугам святога Францішка і дзякуючы яго малітве, на якую брат Ілля вельмі моцна спадзяваўся.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXIX**

*Пра цудоўную пропаведзь, якую казаў святы Антоній Падуанскі, брат мінарыт, у кансісторыі*

Цудоўны сасуд Духу Святога, святы Антоній Падуанскі, адзін з найабранейшых паслядоўнікаў і паплечнікаў святога Францішка, якога святы Францішак называў сваім біскупам, прапаведаваў аднойчы ў кансісторыі перад Папам і кардыналамі, і былі ў гэтай кансісторыі прадстаўнікі розных народаў: грэкі, італійцы, французы, немцы, славяне і ангельцы, а таксама носьбіты многіх іншых моваў свету. Духам Святым натхнёны Антоній пачаў выкладаць слова Божае так унікліва, так пабожна, так далікатна, так ясна і так зразумела, што ўсе, хто быў у кансісторыі, не зважаючы на тое, што размаўлялі на розных мовах, дакладна зразумелі кожнае яго слова, быццам ён гаварыў адразу на ўсіх мовах, і ўсе былі ўражаныя, і здавалася, што паўтарыўся той старажытны цуд Апосталаў падчас Пяцідзесятніцы, калі яны гаварылі дзякуючы Святому Духу на ўсіх мовах.

І пачалі яны казаць з захапленнем адзін аднаму: «Ці не з Іспаніі часам той, хто прапаведвае? І як так мы чуем у яго гаворцы мову нашых земляў?». І Папа таксама, слухаючы і дзівячыся глыбіні яго словаў, сказаў: «Насамрэч ён — скарбонка Запавету і сховішча Святога Пісання».

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XL**

*Пра цуд, які Бог зрабіў, калі святы Антоній прапаведаваў марскім рыбам у Рыміні*

Аднойчы Хрыстус благаслаўлёны пажадаў паказаць вялікую святасць свайго найвярнейшага слугі святога Антонія і тое, якія пабожныя былі яго пропаведзь і святое вучэнне; і неяк Ён на прыкладзе самых неразумных сярод жывёлаў, а менавіта рыбаў, асудзіў няверных ерэтыкоў гэтаксама, як у старажытнасці

ў старым Запавеце Ён праз асліцу асудзіў неадукаванасць Валаамаву.

Знаходзіўся аднойчы святы Антоній у Рыміні, дзе была вялікая колькасць ерэтыкоў, і жадаючы прывесці іх да сапраўднай веры і да сапраўднага святла, на працягу многіх дзён ён ім прапаведаваў і распавядаў пра веру Хрыстову і пра Святое Пісанне, але яны не толькі не слухалі яго святых размоваў, але найперш, як упартыя і ачарсцвелыя, і не жадалі яго слухаць; тады нарэшце святы Антоній па Боскім натхненні пайшоў да вусця ракі каля самага мора; і стоячы на яго беразе, пачаў гаварыць з рыбамі, нібыта прапаведаваў ад імя Бога: «Слухайце слова Божае, вы, рыбы марскія і рачныя, бо няверныя ерэтыкі адварочваюцца і не слухаюць». І як толькі ён гэта сказаў, адразу прыплыло да берага да яго такое вялікае мноства вялікіх, сярэдніх і дробных рыбаў, што ніколі ні ў гэтым моры, ні ў гэтай рэчцы не бачылі, і ўсе яны высунулі галовы з вады і павярнулі іх у бок святога Антонія, і ўсе яны сцішыліся ў вялікім спакоі, парадку і лагодзе: і папэрадзе ўсіх калі берагу былі рыбкі малыя, а пасля былі рыбы сярэднія, а пасля, там, дзе была глыбокая вада, спыніліся самыя вялікія рыбы.

І вось калі рыбы застылі такім чынам і парадкам, святы Антоній пачаў прапаведаваць і казаць: «Сёстры мае рыбы, вы заўжды гатовыя, згодна з вашымі магчымасцямі, падзякаваць вашаму Стварыцелю, які даў вам такую высакародную стыхію для вашага існавання, бо, як вы і любіце, маеце ваду прэсную і салёную, і маеце шмат сховішчаў, каб перажыць буры; яшчэ вам дадзены празрыстая і ясная стыхія і ежа, дзякуючы якой вы можаце жыць. Бо шчодры і добразычлівы Стварыцель, ствараючы вас, даў вам запавет расці і памнажацца, і даў вам сваё благаслаўленне. Потым, калі здарыўся сусветны патоп, усе іншыя звяры загінулі, адных вас Бог захаваў некранутымі. Нават даў вам крылы, каб вы маглі рухацца, куды вам захочацца. Вам было дазволена, па запавеце Божым, назіраць за прарокам Ёнам і на трэці дзень выкінуць яго на бераг жывога і здаровага. Вы падалі грошы нашаму Пану Езусу Хрысту, які, быццам апошні бядняк, не меў чым заплаціць мыту. Вы будзеце ежай вечнага цара Езуса Хрыста перад уваскрашэннем і пасля яго дзякуючы асаблівай таямніцы. І за ўсе гэтыя рэчы вы павінны хваліць і благаслаўляць Бога, які даў вам столькі міласці, як ніякім іншым стварэнням».

На гэтыя ды іншыя словы і павучанні святога Антонія пачалі рыбы адкрываць рот і нахіляць галаву, і такімі ды іншымі знакамі пашаны, на якія згодна са сваімі магчымасцямі былі здольныя, славілі Бога. Тады святы Антоній, пабачыўшы такую павагу рыбаў да Бога, парадаваўся ў душы сваёй і сказаў моцным голасам: «Хай будзе вечна благаслаўлёны Божа, бо славяць Яго рыбы водныя так, як не славяць людзі ерэтыкі, і лепей чуюць Яго слова звяры неразумныя, чым людзі няверуючыя». І чым больш святы Антоній прапаведаваў, тым большая колькасць рыбаў збіралася, і ніводная рыба не кранулася з таго месца, дзе стаяла.

Гэты цуд пачаў заўважаць гарадскі люд, сярод якога былі найперш вышэйпамянёныя ерэтыкі, якія, бачачы такі цудоўны і відавочны цуд, і закранутыя ў самыя свае сэрцы ўпалі да ног святога Антонія, каб паслухаць яго пропаведзь. І тады святы Антоній пачаў казаць пра каталіцкую веру, і так высакародна пра яе распавядаў, што ўсе ерэтыкі перажылі навяртанне і вярнуліся да сапраўднай веры Хрыста, а ўсе веруючыя былі ў вялікай радасці суцешаныя і ў веры ўмацаваныя. Пасля чаго святы Антоній адпусціў рыбаў з благаслаўлення Божага і ўсе яны паплылі прэч, цудоўным чынам выказваючы сваю радасць, гэтаксама , як і людзі.

Потым святы Антоній прабыў у Рыміні яшчэ многа дзён, прапаведваючы і збіраючы багаты духоўны ўраджай сэрцаў людскіх.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XLI**

*Як шаноўны брат Сымон вызваліў ад вялікай спакусы брата, які з-за яе хацеў пайсці з ордэну*

Яшчэ на пачатку існавання ордэну, калі быў жывы святы Францішак, прыйшоў у ордэн юнак з Асізі, якога звалі брат Сымон; Бог яго ўпрыгожыў і надзяліў такой ласкаю і такой сузіральнасцю і ўзвышанасцю розуму, што згодна са словамі людзей, якія доўгі час былі з ім, усё яго жыццё стала люстэркам святасці. Рэдка яго бачылі па-за келляй, і калі час ад часу ён быў з братамі, то заўсёды гаварыў пра Бога.

Ён ніколі не вучыўся грамаце, і тым не менш так глыбока і так узнёсла гаварыў пра Бога і пра любоў да Хрыста, што яго словы здаваліся звышнатуральнымі. Аднойчы вечарам ён пайшоў у лес з братам Якубам з Масы, каб пагаварыць пра Бога, і, размаўляючы найлагоднейшым чынам пра Боскую любоў, яны правялі так у размовах цэлую ноч, а раніцай ім здалося, што прайшло вельмі мала часу, згодна з тым, што расказаў брат Якуб.

У згаданага брата Сымона здараліся ў такой асалодзе і пяшчоце Святога Духу Боскія прасвятленні і поўныя любові наведванні Бога, і часта, калі брат Сымон прадчуваў іх надыход, то клаўся ў ложак, бо спакойная асалода ад сыходу Святога Духа патрабавала ад яго не толькі разумовага адпачынку, але найперш цялеснага. І ў час такіх Божых наведванняў ён быў шмат разоў Богам захоплены і рабіўся амаль неадчувальным да ўсяго цялеснага. Вось аднойчы, калі ён быў так захоплены Богам і абыякавы да свету, што, палаючы ў душы Боскай любоўю і цялеснымі адчуваннямі, не адчуваў нічога звонку, адзін брат, жадаючы пераканацца, ці насамрэч было так, як здавалася, пайшоў і ўзяў распалены вугаль, і паклаў яму на голую нагу: а брат Сымон зусім гэтага не адчуў, і не засталося на яго назе ніякага следу, хоць і праляжаў вугаль доўгі час, аж пакуль сам па сабе не згаснуў.

А брат Сымон, калі заходзіў у рэфектар, перш чым узяць ежу цялесную, браў ды іншым даваў духоўную ежу размовамі пра Бога. З-за гэтых пабожных прамоваў перажыў навяртанне адзін юнак з Сан-Севярына, высакароднай крыві і вельмі далікатны целам сваім, які сярод людзей быў пустым і свецкім. І брат Сымон, прымаючы гэтага юнака ў ордэне, пакінуў яму свецкую вопратку, а той застаўся з братам Сымонам, каб даведацца ад яго, як выконваць статут. Таму шатан, які геніяльна практыкуецца ў тым, каб пашкодзіць любой добрай справе, наклаў на яго такое моцнае ўзбуджэнне і такое палымянае спакушэнне цела, што той ніякім чынам не мог супраціўляцца. Таму ён пайшоў да брата Сымона і сказаў яму: «Вярні маю свецкую вопратку, бо я не магу болей супраціўляцца цялеснай спакусе», а брат Сымон, маючы да яго вялікае спачуванне, адказаў яму: «Пасядзі трохі каля мяне, сын мой». І пачаў гаварыць яму пра Бога, і ўся спакуса адышла; і потым, калі юнака адольвала спакуса і ён прасіў назад вопратку, брат Сымон праганяў спакусу размовамі пра Бога.

І так адбылося некалькі разоў, нарэшце ўночы зноў моцна адолела яго тая спакуса і не мог ён болей ніякім чынам трываць, таму ён ізноў пайшоў да брата Сымона і настойліва прасіў сваю свецкую вопратку, бо ніяк не выпадала яму болей заставацца. Тады брат Сымон з-за вялікага спачування, што меў да яго, узняў вочы да неба і, найпабожнейшым чынам молячыся за яго Богу, быў напоўнены захапленнем і Богам пачуты; а пасля таго, як ён апрытомнеў, юнак адчуў, што назаўсёды пазбавіўся ад спакусы, быццам ніколі яе не адчуваў.

Больш за тое, пасля таго, як агонь спакусы ператварыўся ў агонь Святога Духа, бо юнак нібы сядзеў каля палаючага вугаля, а менавіта каля брата Сымона, то і сам стаў палаць любоўю да Бога і да бліжняга; настолькі, што калі аднойчы быў схоплены адзін злодзей і яму павінны былі выкалаць вочы, ён з-за спачування да яго пайшоў да намесніка на пасяджэнне суда і прасіў яго пабожна і з моцнымі слязьмі выкалаць адно вока злодзею, а другое — яму, каб той не застаўся зусім без вачэй. Але калі намеснік суда пабачыў такую палымяную літасць гэтага брата, то дараваў абодва вокі.

Аднойчы быў брат Сымон у лесе і маліўся, а калі стаў адчуваць вялікае суцяшэнне ў душы сваёй, зграя варонаў крыкамі пачала назаляць яму; таму брат Сымон загадаў ім у імя Езуса ляцець прэч і не вяртацца. І пасля таго, як птушкі паляцелі прэч, ніколі іх болей не бачылі і не чулі, ні ў лесе, ні ва ўсёй акрузе. І гэты цуд стаў вядомы ва ўсёй вобласці Ферма, дзе было тое месца.

Слава Хрысту. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы*
*Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

## АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

### Разьдзел XLII
*Уласнага супакою апіраць на людзях не належыць*

**1.** Сыне, калі спадзяешся на супакой ад нейкага чалавека, таму што з ім думаеш ты аднолькава ды жывеш у вадных абставінах — нятрывалкі і нядоўгі будзе супакой гэны.

Калі, аднак, схіляешся да заўсёды жывое ды вечнае праўды — дык не зазнаеш суму, калі кіне цябе або памрэ твой прыяцель.

Няхай на Мяне апіраецца прыяцельская любоў і дзеля Мяне трэба любіць таго, хто здаецца табе добрым ды надта мілым у гэтым жыцьці.

Без Мяне мала вартая ды нядоўга і пратрывае кожная прыязьнь; няпраўдзівая і нячыстая міласьць, якой Я не злучу.

Памры для ўсіх пачуцьцяў да людзей, якіх любіш, каб, наскольні гэта ад цябе залежыць, пажадаў ты жыць зусім свабодным ад усякай лучнасьці з людзьмі.

Чалавек настолькі робіцца бліжэйшым Богу, наскольні кідае самога сябе ды сабою больш пагарджае.

**2.** А той, хто прызнаецца да нейкага дабра ў сабе, перапыняе толькі дарогу ласцы Бога да сябе, бо ласка Духа Сьвятога заўсёды шукае пакорнага сэрца.

Калі б здолеў ты зусім сябе адрачыся ды асвабадзіцца ад усянюткага каханьня зямнога, тады б Я прышоў да цябе з вялікаю ласкаю.

Калі пачынаеш заглядацца на стварэньні — прападае Тварэц з вачэй тваіх.

Вучыся ўва ўсім перамагаць сябе дзеля Тварца і тады патрапіш сьцяміць рэчы Божыя.

Калі што нават добрае грэшна любіш ці пажадаеш, гэтым самым пляміш душу і ад найвялікшага дабра яе аддаляеш.

### Разьдзел XLIII
*Аб пустой і сьвецкай навуцы*

**1.** Сыне, няхай ня зводзяць цябе прыгожыя ды дасьціпныя гутаркі людзей: *Бо ж Валадарства Божае ня ў гутарках, а ў цноце* (1 Кар 4, 20).

Зважай на словы Мае, якія запальваюць сэрцы, асьвячаюць думкі, прыводзяць жаль за грахі ды розную супацеху пакідаюць у душы.

Ніколі ня чытай Маіх слоў дзеля таго, каб выглядаць больш вучоным ці мудрэйшым.

Думай аб тым, каб замарыць усе благія нахілы свае, бо гэта табе шмат карысьней, чымся веданьне многіх найтруднейшых рэчаў.

**2.** Хоць шмат прачытаеш і зьведаеш, усё роўна да аднаго Пачатку заўсёды вярнуцца табе трэба.

Я той, які вучу чалавека мудрасьці і простым розум асьвячаю лепш, чымся хто з людзей патрапіў бы зрабіць гэта.

З кім Я гавару — той хутка будзе разумным і шмат лепшым станецца духам.

Блага тым, што ў людзей разьведваюць надта цікаўна аб усім, а мала турбоцяцца, каб спазнаць шлях службы Божай.

Прыдзе пара, калі з'явіцца Вучыцель над вучыцелямі — Хрыстус, Пан Анёлаў, каб паслухаць, чаго хто навучыўся, гэта значыць — прагледзець сумленьне кожнага.

І тады *шукаць будзе Ерузалем з сьвечкамі* (Саф 1, 12), *і будуць яўнымі справы, схаваныя ў цемры* (1 Кар 4, 5), і змоўкнуць закіды языкоў людзкіх.

3. Я той, які ў вадну хвіліну падымаю пакорнага розум так, што шмат больш ён сьцяміць вечнае праўды, чымся хто іншы па дзесяцёх гадох навукі ў школах.

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2009 гг. і ў 1 за 2010 г.*

Я вучу бяз гоману слоў, бяз заблытанасьці ў думках, бяз пыхі, бяз калатні ў доказах.

Я той, які вучу пагарджаць усім зямным, не зважаць на дачаснае, а глядзець вечнага, да яго імкнуцца; гонараў староніцца, зьнявагі цярпець, спадзявацца толькі на Мяне, нічога не жадаць апрыч Мяне і больш за ўсё Мяне любіць.

**4.** Бо ж шмат хто з тых, што палюбіў Мяне шчыра, навучыўся Божых спраў і гаварыў цудоўныя рэчы.

Карысьней зрачыся ўсяго, чымся дасьледжваць рэчы дасьціпныя.

Але адным кажу Я агульна толькі, а другім адумысна; адным міла аб'яўляюся знакамі і вобразамі, а другім зноў у вялікім сьвятле аказваю свае тайніцы.

Голас сьв. Кнігаў адзін для ўсіх, ня ўсіх, аднак, ён аднолькава вучыць: бо Я сам вучу праўду ўнутрана, сэрца наскрозь праглядаю, думкі ўсе спазнаю, пабуджаю да чынаў і надзяляю кожнага паводле справядлівасьці Маёй.

## Разьдзел XLIV
## *Ня трэба захоплівацца зашмат вонкавымі рэчамі*

**1.** Сыне, шмат у чым трэба табе астацца нясьведамым і глядзець на сябе, быццам на памёршага на зямлі і якому ўвесь сьвет ёсьць укрыжаваны.

Такжасама шмат на якія справы трэба быць табе глухім, каб больш мог ты думаць аб сваім супакоі.

Карысьней адварочаць вочы ад нямілых табе рэчаў і пакінуць кожнаму свой на іх пагляд, чымся ўдавацца ў злосныя сваркі.

Калі ты добра з Богам жывеш ды ўважаеш на Ягоныя прысуды, лягчэй стрываеш усякае паніжэньне.

**2.** О Пане! Да чаго ж мы дайшлі? Вось плачам над дачаснымі шкодамі, дзеля маленькае карысьці працуем і турбуемся, а забываемся аб шкодах духовых або надта позна пачынаем аб іх думаць.

Уважаем на тое, што мала або і зусім некарысна, а тое, што нам найбольш неабходнае, кідаем, бо расьцярушваецца чалавек у вонкавых справах і калі загадзя не агледзіцца — ахвотна ў іх астаецца.

## Разьдзел XLV
## *Ня трэба ўсім верыць; памылка ў словах надта лёгкая*

**1.** *Памажы мне, Божа, у турботах маіх, бо марны ратунак чалавечы* (Пс 59, 13).

О, як часта ня бачыў я вернасьці там, дзе думаў, што ёсьць яна!

І колькі ж разоў там яе знайшоў, дзе зусім не надзееўся!

Дык марная надзея на людзей, бо ў Табе, о Божа, збаўленьне справядлівых.

Будзь бласлаўлёны, Пане, Божа мой, ува ўсім, што толькі нам трапляецца.

Нядужыя мы і мала трывалкія, хутка нам абмануцца і пераменіцца.

**2.** Дзе ж такі чалавек, каторы б так асьцярожна і прадбачна сьцярог сябе, што ніколі не памыліўся ці не заблытаўся?

Але хто Табе, о Пане, верыць і шукае Цябе з чыстым сэрцам, той ня так хутка спатыкнецца.

І калі на'т трапіцца яму нейкая турбота, калі нейкім чынам і заблытаецца, хутчэй яго падымеш і супацешыш, бо ж Ты навекі не пакідаеш таго, хто на Цябе спадзяецца.

Мала калі трапляецца гэткі верны прыяцель, каб не пакінуў прыяцеля ўва ўсіх турботах ягоных.

Ты ж, Пане, адзін самы верны ўва ўсім, і апроч Цябе няма нікога, каб можна было прыраўняць яго з Табою.

**3.** О, як разумна думала тая сьвятая душа, якая казала: *сэрца маё ўмацавана і ўгрунтавана ў Хрысце* (св. Агата).

Калі б гэтак і са мною было, ня так лёгка агартаў бы мяне сполах перад людзьмі і не зварухнулі б мяне калючыя іхнія словы.

Хто здолее ўсё прадубачыць, хто здолее схавацца ад будучых бедаў? Калі і прадбачаныя нас мучаць часта, дык як жа ж сражэй удараюць на нас тыя, што неспадзеўкі зьяўляюцца.

Чаму ж, аднак, няшчасны я лепш не падумаю? І чаму зноў так хутка іншым я паверыў?

Але людзі мы і да таго людзі ўломныя, хоць многія за анёлаў нас маюць і завуць анёламі.

Каму ж паверу я, Пане? Каму ж, калі не Табе? Ты ж праўда, якой немагчыма ані самой абмануцца, ані яе абмануць!

І наадварот: *лгар кожны чалавек*, слабы, нятрывалкі і надта мыляецца ў словах, так што немагчыма зразу яму верыць, на'т і тады, калі, здаецца, воблік ягоны шчыры і праўда на ім.

**4.** О, як мудра Ты напамінаў, што трэба сьцерагчыся людзей і што *ворагамі чалавека хатнія яго* (Мц 10, 34), і што ня трэба верыць, калі б хто казаў: *вось тутака ёсьць Хрыстус або вунь тамака*! (Мц 24, 23)

Навучыла ўжо мяне ліха маё; о, каб было яно на вялікшую асьцярожнасьць, а не на новую бяду!

Будзь асьцярожным, не адзін мне казаў, будзь асьцярожным і нікому не пераказвай таго, што я табе кажу. І пакуль я маўчу і трымаю сакрэт, ён сам ня здолеў змаўчаць таго, аб чым прасіў не гаварыць, але пашоў і здрадзіў і мне, і сабе.

Ад гэткіх гутарак ды неаглядных людзей — сьцеражы мяне, Пане, каб ня трапіў я ім у руку ды сам ніколі не зрабіў гэтак.

Слова праўдзівае і непераменлівае дай вуснам маім, а языку майму шчырасьць і прастату.

Чаго ў іншых цярпець не магу, прадусім сам мушу гэтага сьцерагчыся.

**5.** О, колькі ж дабра і супакою ў маўчанцы аб іншых, і калі не даваць веры ўсяму, што гавораць, і калі не распаўсюджваць далей таго, што сам пачуў.

Мала каму нележыць гаварыць аб сабе, але Цябе заўсёды трэба клікаць на сьведку свайго сэрца.

Ня трэба глядзець, куды дзьме вецер слоў людзкіх, але глядзець трэба таго, каб усё звонку і ўнутры было роблена паводле спадобы волі Тваёй.

О, як карысна, дзеля захаваньня ласкі Тваёй, уцякаць ад усялякае пазорнасьці, ня імкнуцца да таго, чым звычайна захопліваюцца людзі, але як мага імкнуцца да таго, што дае папраўу жыцьця і жарлівасьць духа.

О, як многім людзям зашкодзіла тое, што цнота іх была ведамая і прадчасна хваленая.

О, якая багатая карысьць з ласкі, аб якой ніхто не разгалашаў у гэтым гаротлівым жыцьці, якое ёсьць заўсёднай спакусай і безупынным змаганьнем.

## Разьдзел XLVI
### *Трэба спадзявацца на Бога, калі бічуюць нас словамі*

**1.** Сыне, стой сьмела і спадзейся на Мяне. Бо што гэта словы? Словы дый толькі.

Лётаюць яны праз паветра, аднак каменя не зварухнуць.

Калі ты вінаваты, дык падумай, каб хутчэй справіцца, калі ж ты чысты перад Богам — падумай, што ўсё ахвотна трэба сьцярпець дзеля Бога.

Мей прынамсі хоць гэтую малую заслугу, што часамі стрываеш прыкрае слоўка, калі нічога цяжэйшага яшчэ ня здолееш.

І чаму гэткая дробязь цябе аж за сэрца хапае? Ці ж ня дзеля таго, што надта яшчэ ты цялесны і на людзей уважаеш больш, як трэба?

Баішся пагарды і таму ня хочаш, каб цябе папракалі за твае паступкі, і адгаворкамі хочаш засланіцца.

**2.** Глянь, аднак, лепш на сябе, а ўбачыш, што жыве ў табе яшчэ сьвет ды марная ахвота падабацца людзям.

Бо калі выкручваешся ад дакораў ды закідаў за свае заганы, даказываеш, што ты яшчэ сапраўды не спакарыўся, не памёр яшчэ для сьвету, і сьвет для цябе ня ёсьць укрыжаваны.

Слухай толькі слоў Маіх, а не спалохаешся і дзесяці тысяч слоў людзкіх.

Вось, калі б гаварылася насупроць цябе, што толькі магчыма выдумаць, дык што гэта табе пашкодзіць, калі ты гэтага зусім ня будзеш слухаць ды будзеш глядзець на ўсё гэта, быццам на ліхі пыл з мякіны? Ці ж гэныя словы хоць бы адзін волас змаглі табе вырваць?

**3.** Але хто не замыкае свайго сэрца ды ня мае Бога перад вачыма, той словамі заганы парушаецца лёгка.

А хто на Мяне спадзяецца і не апіраецца на сваіх уласных думках — той вольны будзе перад людзьмі ад страху людзкога.

Бо Я ж судзьдзя і ведаю ўсе таёмнасьці людзей, Я ведаю, як што сталася, Я ведаю, хто скрыўдзіў і хто церпіць.

Ад Мяне гэта вышла слова, за Маім дапушчэньнем гэтак сталася, *каб думкі з многіх сэрцаў сталіся яўнымі* (Лк 2, 35).

Я судзіць буду вінаватага і бязвіннага, але прад усім Я хацеў спрабаваць аднаго і другога таёмным судам.

**4.** Сьвядоцтва людзей часта мыльным бывае, але Мой прысуд праўдзівы, ён будзе трываць, і ніштo яго не скране.

Часта ён няведамы і мала каму аб'яўляецца, ніколі, аднак, ня мыляецца дый мыляцца ня можа, хаця людзям здаецца ён неразумным і несправядлівым.

Дык да Мяне па ўсякі суд зварочвацца трэба, а не спадзявацца на свой розум.

*Ня стрывожыць справядлівага чалавека ўсё тое, што здарыцца яму ад Бога* (Прып 12, 21).

Няхай і няпраўду хто на яго гаворыць, мала будзе зьвяртаць на тое ўвагі.

Але ня будзе такжа весяліцца, калі іншыя яго і па праўдзе бараніць будуць.

Бо падумае ён, што гэта ж *Я, які бачу ўсё ў глыбіні сэрца і ўнутры* (Пс 7, 10), які ня суджу паводле выгляду ды паказнасьці чалавецкае.

Бо часта тое, што пахвальнае ў людзей, перада Мною грэшнае.

**5.** Пане і Божа, судзьдзя справядлівы, магутны ды цярплівы, які ведаеш нядужасьці людзей і іхнія благацьці — будзь сілаю маею ды ўсенькаю надзеяю маею: бо не хапае мне сумленьня майго.

Ты ведаеш, чаго я ня ведаю, і дзеля таго трэба мне спакарыцца перад дакорамі ды цярпліва іх трываць.

Будзь для мяне міласьцівым, калі я рабіў інакш, і дай мне ласку большае цярплівасьці.

Бо ж лепшая мне Твая вялікая міласэрнасьць дзеля апраўданьня майго, чымся мая магчымая справядлівасьць дзеля абароны таго, што тоіцца ў сумленьні маім.

*Калі б на'т ня бачыў я ў сабе віны, гэтым апраўдывацца яшчэ было б мала* (1 Кар 4, 4), бо калі забярэш Ты міласэрнасьць сваю — *ніхто з жывых не апраўдаецца перад Табою* (Пс 142, 2).

*Працяг будзе.*




Слуга Божы Ян Павел II у сваёй энцыкліцы *Redemptoris missio* піша: «Усе святары павінны мець місійнае сэрца і розум, павінны быць адкрытымі на патрэбы Касцёла і свету, павінны клапаціцца пра тых, хто знаходзіцца найдалей, а асабліва пра нехрысціянскія групы ў сваім асяроддзі».

Святар з місійным сэрцам — гэта святар з вялікім сэрцам, адкрытым на патрэбы кожнага чалавека. Такім святаром быў святой памяці ксёндз Станіслаў Жук. У цяжкія для Касцёла ў Беларусі часы ён не баяўся распачаць ахвярнае і бескараслівае святарскае служэнне. Прыкладам уласнага жыцця, напоўненага малітваю, поўным даверам да Бога, адданым выкананнем святарскіх абавязкаў і служэннем кожнаму чалавеку ён стараўся не толькі захаваць веру сярод даручанага яму народу, а таксама перадаць яе маладому пакаленню, што ў тыя часы было нялёгкаю справаю і пагражала вялікай небяспекай. Улады маглі нават забараніць выконваць святарскія абавязкі.

Варта ўзгадаць пэўны факт з яго жыцця. Баючыся, каб нямецкія войскі не спалілі касцёл у Будславе, кс. Станіслаў забірае Найсвяцейшы Сакрамэнт і разам з вернікамі ідзе ў лес, каб схаваць яго. На працягу ўсёй ночы ён моліцца аб захаванні Божага дома, і нямецкія войскі абмінаюць Будслаў. Цяпер Будслаў стаў Нацыянальным марыйным санктуарыем...

Я перакананы, што святарская праца святой памяці ксяндза Станіслава Жука, поўная самаахвярнасці і падпарадкавання Божай волі, як і многіх іншых слугаў алтара, якія працавалі ў той час у Беларусі і ў былым Савецкім Саюзе, дасць вялікі плён і апору для далейшага адраджэння Касцёла. Без іх не было б нас і не было б адраджэння веры.

Выказваючы словы шчырай удзячнасці Дануце Жук за падрыхтоўку гэтага тэксту дзеля захавання памяці пра жыццё кс. Станіслава Жука, якое было цалкам прысвечана служэнню Богу, спадзяюся, што гэты матэрыял дапаможа сённяшняму чалавеку лепш пазнаць рэаліі часу пераследу веры, ацаніць мужнасць і самаадданасць тагачасных людзей, каб браць з іх прыклад барацьбы з вельмі небяспечнымі выклікамі сучаснасці і абараняць хрысціянскія каштоўнасці.

*З благаслаўленнем*
*арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч,*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.*

*Мінск, 8 верасня 2008 г.*
*Свята Нараджэння Марыі.*



# НА ВАРЦЕ ВЕРЫ

## Асоба ксяндза Станіслава Жука, непахіснага святара часоў праследу рэлігіі ў Беларусі

*У 80-ю гадавіну святарскага пасвячэння і 25-ю гадавіну з дня смерці*

*Успаміны пра ксяндза Станіслава Жука, які працаваў у Беларусі ў перыяд камуністычнага тэрору, — гэта спроба выратаваць ад забыцця ахвярнае жыццё ўсіх святароў, якія ў надзвычай цяжкіх умовах гераічна выконвалі свае душпастырскія абавязкі.*

*Я выкарыстала шматлікія цытаты з лістоў ксяндза, абмежаваўшы сябе роляю рэдактара, які спалучае фрагменты лістоў у адно тэматычнае цэлае. Усведамляла, што дзякуючы гэтаму ўспаміны будуць мець характар аўтэнтычнага сведчання пра святара шчырай малітвы, апекуна ўбогіх і хворых, пра «вязня канфесіянала», як напісалі пра яго на памятнай шыльдзе ўдзячныя парафіяне.*

*Дзякую Ганне Пеціў, Яўгеніі Твардаш і Люцыі Касач за тое, што сваімі ўспамінамі яны дапоўнілі сабраны матэрыял і дапамаглі рэалізаваць агульную працу.*

*Гэтую працу пра жыццё майго дзядзькі святара прысвячаю ўсім яго знаёмым, якія захавалі добрую памяць пра свайго святара.*

*Хачу, каб адрасатамі маіх успамінаў сталі парафіяне, якія памятаюць яго з часоў барацьбы з Богам, а таксама ўсе тыя, хто цяпер карыстаецца рэлігійнаю свабодаю.*

*У лістах кс. Станіслава, асабліва 1960–1970 гадоў мінулага стагоддзя, не згадваліся ні прозвішчы святароў, ні назвы мясцовасцяў. Спадзяюся, што людзі, якія жывуць на тэрыторыі Віленскай архідыяцэзіі (цяпер Мінска-Магілёўскай) дапоўняць інфармацыю, якой не хапае.*

*Усім святарам, якія захоўвалі веру на гэтай тэрыторыі, не раз цаною свайго жыцця, выказваем нашу павагу і ўдзячнасць. Спадзяемся, што за сваю вернасць яны атрымалі ўзнагароду ў небе.*

*Данута Жук*

## Біяграфія ксяндза Станіслава Жука

Ксёндз Станіслаў Жук нарадзіўся 21 сакавіка 1902 г. у Свянцянах на Віленшчыне.

У 1910 г. Станіслаў распачаў навучанне ў расійскай пачатковай школе, а потым на працягу двух гадоў вучыўся ў расійскай гімназіі ў Свянцянах. Яго вучобу перапыніла вайна і трохгадовая нямецкая акупацыя. Каб дапамагчы бацьку ўтрымліваць сям'ю з дзесяці чалавек, ён пачынае працаваць лесарубам, а потым — веставым (ардынарцам) у ваеннага бургамістра.

У 1919 г. пасля адыходу нямецкіх войскаў Станіслаў працягвае вучобу ўжо ў польскай гімназіі ў Свянцянах, а пасля вайны 1920 года — у Торуні. Да атрымання атэстата сталасці ў 1923 г. на сваё жыццё ён зарабляе сам, даючы прыватныя ўрокі. Марыць атрымліваць адукацыю ў Варшаўскім політэхнічным універсітэце. Змена рашэння адбылася перад атрыманнем атэстата сталасці падчас велікапосных рэкалекцый у касцёле св. Якуба ў Торуні. Там ён адчуў сваё пакліканне да служэння Богу ў святарстве.

У кастрычніку 1923 г. Станіслаў Жук быў прыняты ў Віленскую духоўную семінарыю. 24 сакавіка 1928 г. ён атрымаў святарскае пасвячэнне з рук арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага.

Пасля святарскага пасвячэння ксёндз Станіслаў Жук распачаў душпастырскую працу на тэрыторыі Віленскай архідыяцэзіі ў Беластоку, Гродне, Кузніцы Беластоцкай, Ашмянах, Ракаве, а ў 1938–1946 гг. працуе пробашчам у Будславе. Пасля заканчэння вайны ён стаў дэканам Віленскай акругі і пробашчам у Касцяневічах, дзе адбудаваў спалены касцёл і дзе ў самы складаны перыяд барацьбы з рэлігіяй працаваў да канца свайго жыцця. Ксёндз Станіслаў узяў пад сваю душпастырскую апеку парафіі ў Даўгінаве і Будславе, якія засталіся без святара. Памёр 7 сакавіка 1983 года.

## Шлях да святарства

*«Гавары, Пане, бо слухае слуга Твой»*
(1 Сам 1, 10)

Успаміны кс. Станіслава Жука пра шлях да святарства былі адрасаваныя пляменніцы і навучэнкам Каталіцкага інстытута ў Гетшвалдзе, якія толькі адчулі сваё пакліканне, вучыліся давяраць Богу і падпарадкоўвацца Яго волі. Аповед пра дзяцінства і маладосць багатыя на падзеі, якія з перспектывы часу кс. Жук ацаніў як праявы Божага Провіду. У гэтым аповедзе пастаянна прысутнічае рэфлексія пра бязмежную Божую дабрыню і любоў. Выбіраючы цытаты з тэксту кс. Станіслава Жука, я імкнулася звярнуць увагу на тыя ўрыўкі, якія гавораць пра духоўную падрыхтаванасць выконваць вялікія задачы.

*«Misericordias Dei aeternum cantabo»*

«Калі з перспектывы 63 гадоў жыцця і 37 гадоў працы на „Божай ніве“ я азіраюся на сваё мінулае жыццё, ясна і выразна бачу, як праз гэта жыццё чырвонай стужкай пляцецца асаблівая Божая любоў і дабрыня, Яго бязмежная міласэрнасць да мяне і выключная шчодрасць у адорванні ласкамі, нягледзячы на маю недасканаласць, няўдзячнасць і нявернасць. Менавіта каля гэтай чырвонай стужкі Божай дабрыні ідзе чорная стужка маёй няўдзячнасці. Пакідаючы гэту цёмную паласу жыцця майму сумленню, маім спаведнікам і Найвышэйшаму Суддзі, просячы Яго аб міласэрнасці да мяне, тут пра гэту чырвоную стужку Божай любові і дабрыні буду пісаць „Misericordias Dei...“

Выключная Божая дабрыня і міласэрнасць да мяне праявіліся ад міласэрнага Божага намеру паклікаць мяне да жыцця і вызначыць уласны жыццёвы шлях. Тут, на зямлі, гэтая стужка пачала плесціся ў сям'і. Бог даў мне простых, бедных бацькоў, якія шчыра верылі і аддана служылі Богу. Яны далі нам моцную веру і прывілі любоў да рэлігійных практыкаў. Бог шчодра надзяліў мяне здольнасцямі: добрай памяццю, цягаю і схільнасцю да вучобы, талентам красамоўства, кемлівасцю. Асаблівым Божым дарам стала цяга да рэлігійных практыкаў, таму яшчэ з дзяцінства пачалі гаварыць, што Стась будзе святаром. А шлях да гэтага быў такі доўгі і няпросты. <...>

Дома нас навучылі чытаць па-польску, а менавіта маліцца па малітоўніку. У 1910 годзе мяне паслалі ў рускую пачатковую школу без аніякіх перспектываў на будучыню. Калі я закончыў тры класы пачатковай школы, Бог узяў справу ў свае рукі і ўчыніў тое, што здавалася немагчымым. У 1913 г. у Свянцянах адчынілі рускую дзяржаўную гімназію. Школа была платная — 50 рублёў штогод, да гэтага прыгожая форма і ўсе школьныя прылады. „Малаверны, чаму засумняваўся ты? Для Бога няма нічога немагчымага“. Бацька ў гэты час быў кіраўніком клуба служачых. У гэтым клубе было



Касцёл у Касцяневічах. Фота пач. XX ст.

прынята рашэнне выдзеліць адну стыпендыю. О цуд! За сумленную працу бацькі рускія ўзяліся аплачваць вучобу сына ў рускай гімназіі. Ці ж гэта не Божы Провід? Тут ужо ў першы год навучання трэба было здаць экзамен па рэлігіі. У гімназіі было ўсяго некалькі католікаў. Нас пачалі прымушаць наведваць урокі па рэлігіі, якія праводзіў праваслаўны святар. Мы ўцякалі з урокаў. Выклікалі да дырэктара, зачынялі ў класе, тады ўцякалі праз акно. Нялёгкаю і няроўнаю была барацьба з уладаю. Пасля шматразовых спробаў уцячы нас пакінулі ў супакоі. На ўрокі па рэлігіі мы хадзілі тайком на плябанію. Радасць ад вучобы доўжылася толькі два гады. У 1914 г. выбухнула сусветная вайна, а ў 1915 г., калі я павінен быў вучыцца ў трэцім класе гімназіі, прыйшлі немцы і пачалася трохгадовая акупацыя з голадам, эпідэміямі і масавым выміраннем людзей. Трэба было шукаць працу, каб дапамагчы бацьку ўтрымліваць сям'ю з 10 чалавек (2 дачкі і 6 сыноў). Я пайшоў разам з іншымі пілаваць дрэвы для ўстановаў. Бургамістрам горада тады быў ваенны чалавек. Нас паслалі пілаваць дрэвы для яго пакою. Пасля двух гадоў навучання ў школе я крыху ведаў нямецкую мову, відаць таму капітан прызначыў мяне асабістым веставым (ардынарцам). У гэтым было новае праяўленне Божай апекі і дабрыні. Матэрыяльнае становішча ўсёй сям'і палепшылася. Гэта быў час жудаснага голаду. Мне ўдалося вырвацца з не надта добрага асяроддзя, у якім знаходзіўся, калі працаваў лесарубам, і трапіць пад уплыў кухаркі майго гаспадара, якая дала мне прачытаць „Жыціе святых“. Мне захацелася наследаваць адразу ўсіх святых. Так было да канца 1918 года, а пасля адыходу немцаў мы трапілі пад панаванне савецкай улады. Пра вучобу я ўжо не марыў, не было дзе і за што вучыцца. А Божы Провід ізноў распарадзіўся маім лёсам.

У Свянцянах арганізавалі польскую гімназію. І насуперак вялікаму адчаю і магчымасцям я прыйшоў на здачу экзаменаў у III клас, умеючы добра чытаць і не надта добра пісаць па-польску, а іншыя прадметы ведаючы толькі на рускай мове. Аднак Бог так учыніў, што ўсё склалася добра. Навярстаўшы прапушчанае ў III і IV класах, V закончыў нармальна.

1920 год — вайна, эвакуацыя выкладчыкаў і часткі вучняў. Пасля заканчэння вайны новыя людзі пачалі арганізоўваць гімназію, але V класа не было. Сяброўка намовіла ехаць у Торунь, бо там у гімназіі працаваў выкладчыкам гісторыі наш былы дырэктар. Я знайшоў сабе адпаведнага сябра з нашага класа, і мы рушылі ў дарогу. Наш дырэктар пасадзейнічаў залічэнню ў гімназію. На паддашку нам далі пакойчык, трэба было яшчэ навярстаць упушчанае. Сумненне адразу закралася ў нашые сэрцы, а ці здолеем? Але Бог дазволіў перадолець гэтыя цяжкасці.

Аднак нас напаткалі іншага тыпу праблемы — настаў эканамічны крах. Тое, што нам павінна было хапіць да канца года, закончылася за некалькі месяцаў. Паколькі ў гімназіі я меў ужо добрую рэпутацыю, то дзякуючы дапамозе выкладчыкаў удалося даваць прыватныя ўрокі. Працы было шмат, бо трэба было даваць шмат урокаў, каб зарабіць на жыллё, харчаванне, адзенне, праезд і інш. Але гэта неяк добра ішло, нават з запалам і добрым настроем. Пасля заканчэння VI класа паехаў на канікулы да дому. Усё лета разам з бацькам мы за-

раблялі, вывозячы будаўнічы лес на чыгунку. Праца была цяжкая, і спаць не было калі, але мы добра зарабілі. На агульны наш заробак купілі другога каня, а мне нічога не засталося. На дарогу і першы тыдзень у мяне яшчэ засталося ад прыватных урокаў. Пачатак зноў аказаўся складаны, урокаў не было. У такім становішчы я пратрымаўся да канца першага перыяду. Выкладчыкі, ведаючы маё становішча, накіравалі да мяне больш ахвотнікаў на прыватныя ўрокі, чым я мог бы справіцца. Распачалося нармальнае жыццё: раніцаю выходзіў з дому, заходзіў на абед, а потым вяртаўся ў 8–9 гадзін увечары і рыхтаваўся да сваіх заняткаў. Калі пісаць пра маё духоўнае жыццё ў гэты перыяд, то пачатак трэба было б назваць перыядам застою. У VII класе да нас накіравалі ксяндза прэфекта — сапраўданага святара. Ён адразу пакарыў нашыя сэрцы. Мы інакш пачалі трактаваць рэлігію. Мне пашчасціла бачыць сапраўднага святара.

Увесь час да атрымання атэстата сталасці сродкі на сваё жыццё я зарабляў дзякуючы прыватным урокам. Гэту празмерную перагрузку працаю я назваў Божаю ласкаю, бо яна захавала мяне ад многіх глупстваў. Дзякуючы Божай дапамозе пісьмовыя экзамены прайшлі добра, і разам з чатырма іншымі навучэнцамі я быў вызвалены ад вусных экзаменаў. Пасля маіх вялікіх высілкаў і адначасова шматлікіх праяваў Божай дабрыні ў 1923 г. я атрымаў атэстат сталасці.

На працягу ўсяго гэтага часу я марыў пра політэхнічны універсітэт, пра будаванне машынаў або мастоў, нават рыхтаваўся да конкурснага экзамену ў Варшаўскі політэхнічны універсітэт, а сябры маіх працадаўцаў прапанавалі мне жыллё ў Варшаве і ўтрыманне за апеку над іх дзецьмі. Аднак Бог распарадзіўся інакш і выбраў мяне, нявартага, для будаўніцтва іншых мастоў — мастоў у неба. Змены адбыліся на апошнім годзе навучання падчас велікапосных рэкалекцый. Гэта былі мае першыя сапраўдныя рэкалекцыі, калі гаварыць пра форму іх правядзення і маё ўспрыманне. У выніку я глыбей задумаўся над далейшай мэтай свайго жыцця і па сваёй наіўнасці зрабіў выснову, што лягчэй будзе забяспечыць сабе збаўленне, калі прысвяціць сябе служэнню Богу ў святарстве. Гэта было першае пакліканне.

Я адкрыў сваю таямніцу толькі на выпускным вечары, выклікаўшы здзіўленне ва ўсіх і радасць у ксяндза прэфекта, а таксама расчараванне і абурэнне ў выкладчыка фізікі. Так закончыліся мае цяжкія і разам з тым даволі мілыя гады жыцця ў Торуні. Пры развітанні ксёндз прэфект падарыў мне прыгожае выданне кнігі „Наследаванне Хрыста“ і сказаў: „Ні на якім іншым шляху няма столькі супярэчнасцяў, цяжкасцяў і чалавечай няўдзячнасці, як на гэтым, але таксама ні на якім іншым няма столькі ласкаў, як на ім“. Я заўсёды памятаю гэтыя словы і заўсёды пераконваюся ў іх слушнасці.


Інтэр'ер касцёла ў Касцяневічах. Фота пач. ХХ ст.

Цяпер перада мною паўсталі новыя цяжкасці. Навучанне ў духоўнай семінарыі патрабавала выдаткаў на адзенне, кнігі, платы за семінарыю і іншыя рэчы і разам з тым зачыняла шлях да працы. Я прыняў рашэнне запісацца на тэалагічны факультэт Віленскага універсітэта, самастойна прайсці курс тэалагічнага навучання, а толькі потым пайсці ў семінарыю. Я тады яшчэ не задумваўся над тым, што універсітэт дасць мне толькі веды, а не практычную падрыхтоўку да святарства. Зноў распачалося паўгалоднае студэнцкае жыццё. Семінарысты, якія



Абраз Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, які знаходзіўся ў касцяневіцкім касцёле. Фота пач. ХХ ст.

прыходзілі на факультэт, зацікавіліся мэтаю майго стараннага вывучэння тэалогіі. Яны таксама прыйшлі да высновы, што гэты шлях да святарства будзе вельмі доўгім, і параілі не марнаваць часу, а перавесціся ў семінарыю. Знайшлі магчымасць вырашыць фінансавыя праблемы. Сутану абяцалі даць з „Братэрскай дапамогі", і там можна было пазычыць падручнікі, а аплату за семінарыю адтэрмінаваць. Поўны новых надзеяў я пайшоў да рэктара семінарыі. Адказ быў такі: „Калі не навярстаеш мінулых двух месяцаў, звяртайся ў наступным годзе". Мае новыя апекуны заступіліся за мяне перад рэктарам, сцвярджаючы, што на працягу года пакліканне можа знікнуць. Гэта было пераканаўчым. 30 кастрычніка 1923 года мяне прынялі ў семінарыю. Распачалося нармальнае жыццё і вучоба. Умовы і ўтрыманне былі вельмі сціплыя, але для мяне, згаладалага, здаваліся цудоўнымі. Паціху ўсё з Божаю дапамогаю наладзілася. Экзамены за паўгоддзе я здаў не горш за іншых. Далей ужо ўсё пайшло сваім парадкам, пяць гадоў праляцелі незаўважна.

За час знаходжання ў семінарыі асаблівай увагі заслугоўвае наступнае:

1. У гэты перыяд адбылося першае знаёмства са св. Янам Віянэем, якое перарасло ў вялікае набажэнства і жаданне быць паслядоўнікам гэтага святога. Да сённяшняга дня гэта мой любімы святы і вялікі памочнік у працы.

2. Пачаў спецыяльна цікавіцца місійнаю працаю Касцёла, што паволі перайшло ў мары пра будучыя місіі.

3. Тры апошнія гады рэдагаваў тэксты лекцый па некалькіх прадметах для агульнага карыстання слухачоў. Потым „Братэрская дапамога" пачала друкаваць гэта для ўсіх. Гэта была праца для іншых і адначасова падрыхтоўка да экзаменаў.

4. У школьныя гады я быў вялікім аматарам тэатра. Цяпер ахвотна браўся за ўдзел у розных імпрэзах, прадстаўленнях, а таксама быў рэжысёрам.

Навуковай працай не цікавіўся, марыў або пра выезд на місіі або пра душпастырскую дзейнасць у парафіі. Падчас канікулаў іншыя захапленні займалі мой час — рамонтныя працы ў касцёле. Тады ў Свянцянах рамантаваліся касцёльныя вежы, а ў наступныя гады праводзіўся капітальны рамонт касцёла ў Даўгінаве, дзе пробашчам быў мой далёкі родзіч. Я набыў там шмат вопыту, які потым мне вельмі прыдаўся. Матэрыяльныя справы больш-менш складваліся. Меў кватэру і жыў на крэдыт. З семінарыі выйшаў з „хвастом" крэдыту, што між іншым стала перашкодаю для выезду на місіі (Божая воля). 24 сакавіка 1928 года атрымаў святарскае пасвячэнне».

*Кс. Станіслаў Жук. Успаміны пра шлях да святарства. Ліст ад 1965 года.*

*Пераклад з польскай мовы Іны Ламакі.*

*Паводле: «Na straży wiary», Ломжа, 2006.*

*Працяг будзе.*

Пётра Рудкоўскі

# Мова як культурная і этычная праблема

### 4. Адказнасць Касцёла за адраджэнне мовы і падтрымку моўнай культуры

Паколькі абмеркаванне гэтай падтэмы прадугледжвае ўлічванне спецыфікі паасобных канфесіяў, абмяжуюся рыма-каталіцтвам.

Для Касцёла мова можа быць аб'ектам зацікаўлення з дзвюх прычынаў: 1) як сродак евангелізацыі і 2) як культурная каштоўнасць.

### 4.1. Мова як сродак евангелізацыі

Пра мову як сродак евангелізацыі некалькі разоў гаворыцца ў актуальным Кодэксе Кананічнага Права. Хачу звярнуць увагу на два моманты. 249 канон гаворыць, што ў праграме духоўных установаў (якія рыхтуюць кандыдатаў да святарства) павінна быць прадугледжана, каб алюмны «*родную мову дакладна вывучылі*» (*linguam patriam accurate edoceantur*).

А ў каноне 257, § 2 маецца ўказанне адносна падрыхтоўкі святароў да выезду ў іншую краіну: «Дыяцэзіяльны біскуп павінен падбаць пра тое, каб духоўныя асобы, якія маюць намер пакінуць уласны Касцёл партыкулярны, каб працаваць у Касцёле партыкулярным іншай краіны, былі адпаведным чынам падрыхтаваны да выконвання там святой службы, *а менавіта, каб вывучылі мову дадзенага рэгіёну, а таксама пазналі яго інстытуцыі, грамадскія ўмовы, спосаб жыцця і звычаі*» (*курсіў мой. — П.Р.*). Арыгінальнае лацінскае гучанне апошняй часткі ўказання больш красамоўнае: *ut* <...> *eiusdem institutorum, condicionum socialium, usuum et cosuetudinum intelligentiam habeant*. "Intelligentiam habere» — значыць літаральна: мець глыбокае, грунтоўнае разуменне чагосьці.

Святары, якія збіраюцца ехаць працаваць у іншую краіну, абавязаны не толькі вывучыць мову той краіны, але і грунтоўна пазнаць звычаі, грамадскія ўмовы, лад жыцця (usus), карацей кажучы, грамадска-культурную спецыфіку дадзенай краіны. Пазнанне — гэта перадумова любові, а любоў — перадумова евангелізацыі. Святар, які з нелюбоўю альбо з пагардаю ставіцца да мовы і культуры таго народа, сярод якога мае намер прапаведаваць, не можа быць добрым прапаведнікам. А прычынаю пагардлівага стаўлення да іншых культураў найчасцей ёсць ігнараванне, недахоп пазнання і разумення тых іншых культураў.

Святары мясцовага паходжання павінны грунтоўна (*accurate*) вывучыць сваю родную мову. Гэта не толькі ўмова паспяховай камунікацыі з суайчыннікамі, але таксама ўмова разумення і шанавання іншых культураў. Той, хто абыякава ставіцца да сваёй мовы і свайго народа, наўрад ці зможа належным чынам шанаваць іншыя народы.

### 4.2. Мова як культурная каштоўнасць

Святы Аўгустын калісьці заявіў: *Deum et animam sciere cupio. Et nihil plus? Nihil plus*. «Бога і душу ведаць прагну. І нічога больш? Нічога больш». Гэтае аўгустыянскае крэда можна лічыць лапідарнай экспрэсіяй місіі паўсюднага Касцёла, дзе праслаўленне Бога і служэнне чалавечым душам з'яўляюцца двума ўзаемазвязанымі актамі евангелічнай вернасці, якія надаюць сэнс і мэту існаванню Касцёла. Гэтыя два акты можна акрэсліць адным і тым жа словам: *cultus*, якое злучае ў сабе два паняцці: служэнне развіццю і праслаўленне-ўзвялічанне. Так, дзеяслоў *colere*, ад якога *cultus* бярэ пачатак, азначае гэтыя дзве рэчы: 1) спрыяць росту (напр., пшаніцы), абрабляць поле, каб нешта магло расці, гадаваць, выхоўваць, клапаціцца і 2) праслаўляць, маліцца, звяртацца да Бога. *Cultus Dei* і *cultus animi* — гэта, так бы мовіць, два стратэгічныя напрамкі дзейнасці Касцёла:




*Cultus animi* — гэта зварот, які шмат разоў з'яўляецца ў знакамітай энцыкліцы Яна Паўла II *Centesimus annus* («Сотая гадавіна»), выдадзенай у 1991 годзе. У якім значэнні ўжыты там гэты зварот? Гэты зварот у большасці перакладаў перададзены словам «культура»

*Заканчэнне. Пачатак у 1.*

і не без рацыі, калі зважаць на першапачатковы сэнс гэтага слова. *Cultura* — гэта дзеепрыметнік дзейснага стану будучага часу (Participium Futuri Activi), утворанага ад вядомага нам ужо дзеяслова *colere*, у сувязі з чым паняцце *cultura* можна было б літаральна перакласці так: спрыяючае развіццю.

Для нас, абывацеляў паслякамуністычнага рэгіёну, асабліва важным можа быць пяты раздзел згаданай энцыклікі. У гэтым раздзеле Папа гаворыць пра ролю культуры (*cultus animi*) у кантэксце пераадолення таталітарнага мінулага, а акрэслівае яе як прастору шукання ісціны (не забываючы ўказаць на дыялог як прыярытэтны метад гэтага шукання — пункт 49). А ў 50-м пункце чытаем: «*З гэтага адкрытага і ўзнаўлянага ў кожным пакаленні шукання ісціны атрымлівае свой характар культура народа*».

Зноў жа, варта звярнуць увагу на некаторыя моўныя нюансы, а менавіта фразеалогію, якая маецца ў лацінскім тэксце энцыклікі. Там гаворка ідзе не проста пра «культуру народа», а пра *cultus et humanitas Nationis* — культ(ура) і «чалавечнасць» Народа.

Нацыянальная культура паказана тут як фактар «учалавечання», гэта значыць, раскрыцця ў чалавеку яго духоўнага патэнцыялу. А Касцёл не можа ігнараваць таго, што мае непасрэдную сувязь з духоўным развіццём чалавека. Ян Павел ІІ кажа: *У гэтым кантэксце неабходна нагадаць, што евангелізацыя таксама іграе сваю ролю ў культуры розных народаў, падтрымліваючы культуру ў яе поступе ў накірунку ісціны і дапамагаючы ў яе ачышчэнні і ўзбагачэнні*» (пункт 50).

Касцёл, памятаючы пра евангелізацыю як першае і галоўнае сваё заданне, мусіць таксама памятаць пра згаданую вышэй «культуру і чалавечнасць Народа». А паколькі нацыянальная мова з'яўляецца адным з галоўных скарбаў гэтай культуры, Касцёл павінен не толькі падтрымаць імкненні да адраджэння гэтай каштоўнасці, але й будзіць людзей да дзейснай адказнасці за гэтую каштоўнасць.

**5. Беларуская мова ў Касцёле сёння**

Сітуацыю з беларускай мовай у Каталіцкім Касцёле ў Беларусі я б акрэсліў парадаксальна як аптымістычна-песімістычную. Неадназначнасць вынікае з таго, што яе можна ацэньваць з дзвюх перспектываў: 1) на фоне агульнай сітуацыі з мовай у краіне і 2) прымяняючы пэўныя «мета-крытэры», напр., ступень выкарыстання Касцёлам свайго духоўнага і інстытуцыйнага патэнцыялу для адраджэння мовы. Вось жа на фоне агульнай сітуацыі з беларускай мовай у краіне Каталіцкі Касцёл явіцца як інстытуцыя вельмі спрыяльная гэтай мове, што нярэдка падкрэсліваюць прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Але ёсць яшчэ пытанне пра тое, наколькі выкарыстаны патэнцыял Касцёла *як інстытуцыі, арыентаванай на найвышэйшыя каштоўнасці*? Як выглядае ўнёсак Каталіцкага Касцёла на Беларусі ў адраджэнне мовы, калі супаставіць яго з унёскам Касцёла ў Польшчы ў адраджэнне польскасці, Касцёла ў Літве ў адраджэнне літоўскасці або Грэка-каталіцкай Царквы на Украіне ў адраджэнне ўкраінскасці? Тут ужо ацэнка будзе, бадай, менш аптымістычная.

Паспрабуйма ў такім выпадку выявіць моцныя і слабыя бакі культурнай місіі Каталіцкага Касцёла на Беларусі і прааналізаваць фактары, якія абумоўліваюць менавіта такі стан рэчаў. Унёсак той ці іншай установы ў прасоўванне і развіццё беларускай мовы можна разглядаць у трох аспектах, беручы пад увагу: а) ступень пашыранасці мовы ўнутры дадзенай установы; б) ступень сімвалічнай акцэптацыі мовы як каштоўнасці; в) быццё фактарам развіцця беларускамоўнай культуры.

(*А*) Я не валодаю актуальнай статыстыкай рэпрэзентацыі ў беларускім Касцёле розных моваў, маю адно толькі вынікі сацыялагічных даследаванняў навукоўцаў з Люблінскага каталіцкага універсітэта — Юліі і Алега Гарбанюкоў. Даследаванні праводзіліся ў 2003 годзе. За гэтыя сем гадоў не было значных «моўных» зрухаў, адно толькі паўстала ва ўсходнім рэгіёне некалькі новых парафіяў (пераважна двухмоўных), а на Гарадзеншчыне дзенідзе з'явіліся беларускамоўныя Імшы (але гэта адзінкавыя выпадкі). У звязку з гэтым можам, думаю, абаперці карціну моўнай рэпрэзентацыі ў Касцёле на даследаванні спадарства Гарбанюкоў.

Паводле стану на 2003 г. у 54% касцёлаў на Беларусі літургія адбывалася *выключна* па-польску. У звязку з увядзеннем у некалькіх касцёлах Гарадзеншчыны беларускамоўнай Імшы для моладзі (як правіла, раз у тыдзень), можам адзін-два адсоткі адняць. У 30% касцёлаў богаслужэнні праходзяць на дзвюх мовах (з рознымі прапорцыямі: часам пераважае беларуская, часам польская). У 16% касцёлаў — толькі па-беларуску. Адносна трэцяй катэгорыі трэба дадаць, што большасць з гэтых «толькі-беларускамоўных» касцёлаў — гэта святыні «карлікавых» парафіяў, якія налічваюць па некалькі дзесяткаў вернікаў, у адрозненне ад «толькі-польскамоўных» касцёлаў Гарадзеншчыны, якія ў большасці засяроджваюць вакол сябе па некалькі тысяч парафіянаў.

(*Б*) Хоць ступень пашыранасці беларускай мовы ў касцёлах Беларусі асаблівага захаплення — гледзячы на прыведзеныя вышэй дадзеныя — не выклікае, але ўсё ж варта памятаць, што для замацавання ў грамадстве дадзенай каштоўнасці вялікае значэнне мае *сімвалічная акцэптацыя* дадзенай каштоўнасці. Пад сімвалічнай акцэптацыяй я разумею сукупнасць публічных дзеянняў, якія адназначна ўспрымаюцца як сігналы падтрымкі для дадзенай каштоўнасці. Вось красамоўны прыклад такой акцэптацыі. Аднойчы мне трапіўся ў рукі пэўны нумар за 2003 год *Acta Apostolicae*

*Sedis* (афіцыйны орган прэсы Ватыкана), дзе між іншым была змешчана прывітальная прамова тагачаснага Папы Рымскага Яна Паўла II да біскупаў з Беларусі, якія тады прыбылі да Пантыфіка з візітам *ad limina*. І на якой мове, вы думаеце, там была змешчана прамова? На беларускай. Тое, на якой мове *фактычна* была зроблена прамова, тут не мае вялікага значэння — важна тое, што Каталіцкі Касцёл на найвышэйшым узроўні сігналізуе беларусам і свету, што беларуская мова і культура ўспрымаюцца ім як важная каштоўнасць. Ведаем, што Ватыканскае радыё вяшчае на Беларусь па-беларуску, кожны з нас, напэўна, чуў неаднойчы беларускамоўныя прывітанні і віншанні з вуснаў папаў рымскіх, як Яна Паўла II, так і Бэнэдыкта XVI. Пастыры Беларусі, выступаючы ў СМІ, зазвычай выкарыстоўваюць беларускую мову, на афіцыйным сайце Канферэнцыі беларускага епіскапату catholic.by беларуская мова з’яўляецца галоўнай, у Віцебскай дыяцэзіі і Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі гэтая мова паволі набывае характар афіцыйнай (дамінуючай у справаводстве і афіцыйных зносінах). Усё гэта сведчыць пра даволі высокую ступень сімвалічнай акцэптацыі.

(*B*) Шмат чаго можна сказаць таксама пра Каталіцкі Касцёл як фактар развіцця беларускамоўнай культуры. Такія выданні, як «Наша вера» або «Ave Maria» з’яўляюцца не толькі месцам беларускамоўнай евангелізацыі, але і прасторай для развіцця айчыннай гуманістыкі. Многія касцёльныя інстытуцыі сталіся своеасаблівымі «лабараторыямі», у якіх распрацоўваюцца багаслоўскія тэрміны, перакладаюцца кнігі, ствараюцца рэлігійныя песні, апрацоўваюцца літургічныя тэксты і біблейныя чытанні. Мноства мерапрыемстваў музычнага, літаратурнага або навуковага характару — у большасці выпадкаў у атмасферы беларускамоўя — арганізуецца пад эгідай Каталіцкага Касцёла. Гэта радуе.

**6. Пост-рэчпаспалітальны стан: неабходнасць пераадолення**

Прадставіўшы прыблізна фактычны ўзровень удзелу Касцёла ў развіцці беларускамоўнай культуры, варта б цяпер вярнуцца да пытання пра ступень выкарыстання свайго *патэнцыялу* для падтрымкі гэтай каштоўнасці. Гляньма вось на гэтую мапу:



Гэтая мапа, падрыхтаваная амерыканскімі аналітыкамі для Кангрэсу ЗША, адлюстроўвае абшары пашыранасці беларускай мовы. Як бачым, найбольшая канцэнтрацыя носьбітаў мовы (пазначаная цёмным колерам) маецца на поўдні і захадзе краіны, а гэта якраз тыя рэгіёны, дзе Каталіцкі Касцёл найбольш польскамоўны! На Гарадзеншчыне Касцёл амаль цалкам польскамоўны, на Берасцейшчыне — у значнай ступені.

Атрымліваецца, што Касцёл прамаўляе па-беларуску пераважна ў русіфікаваных рэгіёнах краіны, гэта значыць там, дзе патэнцыял для фармавання беларускамоўнай публічнай прасторы невысокі. А вось у тых рэгіёнах, дзе гэты патэнцыял высокі, дзе беларуская мова, хоць і інфектаваная «трасянкай», усцяж застаецца жывой і ужыванай, Касцёл цураецца мовы, замацоўваючы гэткім чынам і так ужо моцны ў людзях комплекс непаўнавартасці.

Гэты прыкры парадокс мае сваё тлумачэнне. Прынамсі паспрабую яго прадставіць тут у скароце.

Хоць ужо 20 гадоў мінула з часу адраджэння каталіцтва ў Беларусі і ўтварэння адміністрацыйных структураў Касцёла ў межах Рэспублікі Беларусь, але ўсё ж беларускі каталіцызм усцяж прабывае ў стане, які можна назваць *пост-рэчпаспалітальным станам*. Гэтым тэрмінам я акрэсліваю ступень укаранёнасці Касцёла на Беларусі ў культурныя, ідэалагічныя і палітычныя рэаліі Другой Рэчы Паспалітай. Праяўляецца гэта 1) у дамінаванні польскай мовы ў касцёльным жыцці; 2) у захаванні абрадава-літургічнай сімволікі, якая сцвярджае сімбіятычную еднасць польскасці і каталіцкасці (абавязак адзначэння свята Марыі, Каралевы Польшчы ў Гарадзенскай дыяцэзіі, захаванне адпаведнага ўскліку ў Літаніі Ларэтанскай); 3) у культываванні шэрагу ідэалагемаў, узятых жыўцом з дзяржаўнай дактрыны Другой Рэчы Паспалітай (напр., імплікацыя паляк ® католік, тэза пра «негістарычнасць» беларускага народа); 4) ва ўспрыманні Заходняй Беларусі як страчаных польскіх земляў (гэта характэрна для значнай часткі, але наўрад ці большасці каталіцкага духавенства) і 5) у ідэйнай залежнасці значнай часткі духавенства ад асяроддзя радыё «Марыя», якое адкрыта дэкларуе адданасць ідэалам міжваеннай эндэцыі.

Ясна, што ў розных дыяцэзіях Беларусі па-рознаму прэзентуецца гэтая рэчпаспалітальная культурна-ідэалагічная спадчына: на захадзе яна наймацнейшая, у цэнтры і на ўсходзе слабейшая і падатлівая на трансфармацыю ў каталіцызм, арыентаваны на беларусаў. У найбольш «чыстым» выглядзе рэчпаспалітальная спадчына захавалася, бясспрэчна, на Гарадзеншчыне. Гарадзенская дыяцэзія, дзе, як вядома, маецца найбольшая канцэнтрацыя католікаў, з’яўляецца своеасаблівай рэінкарнацыяй міжваеннай Віленскай архідыяцэзіі — абшарам цудоўных культурна-рэлігійных традыцый, але таксама, на жаль, месцам інтэнсіўнай асіміляцыі беларускага і літоўскага насельніцтва. Пастыр міжваеннай Віленшчыны

арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі вельмі энергічна працаваў над умацаваннем польскасці на падуладнай яму тэрыторыі. Успаміны выбітных святароў-асветнікаў, такіх як Пётра Просты, Казімір Сваяк, Адам Станкевіч, Язэп Германовіч, поўныя болю і драматызму. Забароны прапаведаваць па-беларуску, скіроўванне беларускіх святароў на працу ў этнічна польскія рэгіёны, увядзенне ліміту беларусаў, якія маглі навучацца на тэалагічным факультэце Віленскага універсітэта, ачарняльныя абвінавачанні беларускіх каталіцкіх дзеячаў у «бальшавізме» — усё гэта было сумным складнікам пастырскай дзейнасці Ялбжыкоўскага.

Нельга, аднак, глядзець на Касцёл міжваеннай Польшчы выключна скрозь прызму яго асіміляцыйнай функцыі. Польскі каталіцызм міжваеннай пары стаўся таксама абшарам небывалага росквіту якаснай хрысціянскай думкі і паўстання моцнай душпастырскай, адукацыйнай і дабрачыннай інфраструктуры. Каталіцкі люблінскі універсітэт, Каталіцкая акцыя, разнастайныя згуртаванні каталіцкай інтэлігенцыі, немалая сетка якасных рэлігійных выданняў — усё гэта нарадзілася ў Другой Рэчы Паспалітай. Цяжка ўявіць сёння Каталіцкі Касцёл без такіх персонаў, як Караль Вайтыла, Стэфан Вышынскі, Альберт Кромпец, а гэта былі «кветкі», якія прараслі на глебе міжваеннага польскага каталіцызму.

Беручы пад увагу сілу польскага каталіцызму міжваеннай пары, слабасць беларускага каталіцкага руху, а таксама тое, што пасля вайны аж да дзевяностых гадоў уся краіна была ахоплена бальшавіцкай праўна-палітычнай і ідэалагічнай сістэмай, няцяжка зразумець, чаму адроджаны Каталіцкі Касцёл у Беларусі спантанна звярнуўся да міжваенных каталіцкіх традыцый з усімі іх плюсамі і мінусамі. Нават вельмі свядомыя ў сваёй беларускасці католікі, маючы за сабой горкі досвед пераследу савецкай пары, пасля адраджэння Касцёла ў Беларусі вельмі талерантна і з разуменнем паставіліся да выразна прапольскага ўхілу Рыма-каталіцкага Касцёла. У выніку найбольш каталіцкія (і, як мы бачылі, найбольш беларускамоўныя) рэгіёны Беларусі сталіся абшарамі найбольш інтэнсіўнай рэ-паланізацыі, легітымізаванай пры дапамозе ідэалагемы: *Polak — katolik*.

Раўнанне «паляк = католік» сталася часткай ідэалагічнай экспансіі польскага нацыянальнага руху яшчэ задоўга да паўстання Другой Рэчы Паспалітай. Ужо ў эпоху рамантызму (першая палова XIX ст.), калі пад уплывам нямецкай філасофіі пачаў фармавацца польскі нацыяналізм, мясцовы каталіцызм набыў гэту двайную функцыю: процідзейнічаць расейскай (і нямецкай) асіміляцыі і адначасова быць фактарам нацыянальнай асіміляцыі народаў (перадусім славянскіх) былога Вялікага Княства Літоўскага. Нашы дзяды, становячыся абывацелямі Другой Рэчы Паспалітай, *ужо былі другім, а то і трэцім пакаленнем*, якое чула ад ксяндзоў і біскупаў, што яны — палякі, *паколькі* католікі.

У Другой Рэчы Паспалітай прасоўванне гэтай ідэалагемы сталася больш эфектыўным, бо польскае духавенства магло дзейнічаць у тандэме з магутным апаратам дзяржаўнай улады. Вельмі красамоўнымі з'яўляюцца некаторыя асаблівасці перапісу насельніцтва ў 1930 годзе. Вось як пра гэта згадвае Антон Шукялойць, які, будучы тады гімназістам, браў удзел у перапісе: «*А загадана было запісваць так: каталік, гаворыш пацеры па-польску — паляк. Мова ня важная. Ня мае значэньня, на якой мове гаворыш. Гэта была афіцыйная польская ўстаноўка*»[1].

А вось не менш красамоўная вытрымка з дакумента 5-га Дэпартамента Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і грамадскай апекі Другой Рэчы Паспалітай:

«*Беларускі народ дзеліцца на католікаў і праваслаўных. Колькасць беларусаў-католікаў, для якіх айчыннай мовай з'яўляецца беларуская, дасягае ва ўсходніх правінцыях Польшчы да 1 млн чалавек. Беларусы-католікі, засведчваючы іх рэлігійную ідэнтычнасць (агульнасць) з палякамі, роўна як і сведчачы таму, што польская мова несправядліва ўключана ў касцёле, разглядаюцца як элемент, які паддаецца паланізацыі, у сувязі з чым польскія статысты залічылі ўсіх католікаў-беларусаў да палякаў*»[2].

Беларускі (а таксама літоўскі і ўкраінскі) «казус» стаўся цёмнай плямай польскага *risorgimento*: *жыццяносны* элемент (адраджэнне свайго народа) сышоўся са *смерцяносным* элементам (паглынанне іншага этнасу).

Але сёння задача стаіць не ў тым, каб фармуляваць абвінавачанні ў той ці іншы бок, а каб цвяроза і больш глыбока глянуць на факт, што многія беларускія католікі заяўляюць пра сябе як пра «палякаў», хоць большасць іх нічога супольнага з польскасцю, апрача прыналежнасці да Каталіцкага Касцёла, не мае. Той факт, што сярод 400 тыс. беларускіх палякаў ажно 80% лічаць сваёй роднай мовай беларускую, а 56% размаўляе дома па-беларуску[3], многія заўзятары польскага руху інтэрпрэтуюць адназначна як эфект «беларусізацыі», якая, на іх думку, мела месца ў БССР. Слабасць такой інтэрпрэтацыі палягае, аднак, у наступным: па-першае, эпоха БССР усім вядомая як эпоха інтэнсіўнай русіфікацыі, а не беларусізацыі (за выключэннем кароткачасовага эпізоду ў 20-я гады), па-другое, аналіз аўтаідэнтыфікацыйных выказванняў палякаў выразна паказвае, што для значнай часткі (магчыма, большасці) катэгорыя польскасці не ёсць нацыянальным ідэнтыфікатарам, а *толькі* канфесійным. Зрэшты, было б дзіўна, калі б было інакш, зважаючы на тое, што некалькі пакаленняў мясцовага насельніцтва знаходзілася над уплывам прапагандысцкага пасылу: ка-

толік ® паляк. (Баючыся празмерна расцягнуць артыкул, не буду распачынаць аналізу суіснавання катэгорый «польскасці» і «каталіцкасці» ў Беларусі, але зацікаўленым магу рэкамендаваць артыкулы прафесара Эльжбеты Смулковай *O wieloznaczności pojęcia ‘polak’, ‘polski’ na Białorusi*, і *O stosunkach polsko-białoruskich*[4], кнігу Анны Энгелькінг (напісаную ў суаўтарстве з Э.Смулковай) *Język a tożsamość na pograniczu kultur*[5], а таксама мой аналіз *Anatomia polskiego dyskursu narodowego na Białorusi*[6].)

Тое, што большасць «палякаў» выяўляецца беларускамоўнай і схільнай да ўспрымання беларускай мовы як «роднай» (нават у выпадку неўжывання гэтай мовы) паказвае, што існуюць католікі, якія ў выніку асіміляцыйнай палітыкі Рэчы Паспалітай добра засвоілі раўнанне «католік = паляк», але ўнутрана засталіся беларусамі. Так, многія з іх (хоць далёка не ўсе) *хочуць* маліцца па-польску, бо польская мова існуе для іх як сакральная мова (сімвалічны эквівалент лацінскай або старацаркоўнаславянскай мовы) і ў гэтым яны не розняцца ад прыхільнікаў лацінамоўных Імшаў, хоць польская мова  ім больш зразумелая. Трактаванне іх як палякаў (у сэнсе нацыянальнасці) толькі па прычыне іх прывязанасці да польскай мовы ў літургіі — гэта тое самае, што залічванне ўсіх прыхільнікаў лацінамоўнай літургіі да лацінскай нацыянальнасці. «Паляк» у нашым рэгіёне найчасцей азначае тое самае, што «лацціннік» у сярэднявечнай Еўропе. Француз, англічанін, нарвег, абывацель Княства Літоўскага — усе яны ў свой час маглі быць «лацціннікамі», бо належалі да Рыма-каталіцкага Касцёла, дзе ў літургіі выкарыстоўвалася лацінская мова.

Захоўваючы павагу да прывязанасці беларускіх католікаў да многіх традыцый — у тым ліку і традыцыі выкарыстоўвання польскай мовы ў літургіі — Касцёл павінен расстацца з багажом стэрэатыпаў і ідэалагем, якія ён успадкаваў з эпохі Другой Рэчы Паспалітай. Трэба пакінуць у спакоі анахранічную дактрыну імплікавальнасці польскасці з каталіцызму і пачаць глядзець на беларускія рэаліі не як староннні (абыякавы?) назіральнік, а як той, хто су-адчувае, су-перажывае беларускія праблемы і цяжкасці. Патрэбна больш эмпатыі. Час увесці прынамсі па адной беларускай Імшы ва ўсіх (альбо ў большасці) касцёлах Гарадзенскай дыяцэзіі, а падчас такіх урачыстасцяў, як фэст у Тракелях *мусова* павінна быць хоць адна Імша па-беларуску. Няма патрэбы іранізаваць у выпадках, калі на беларускія набажэнствы збіраецца менш людзей, чым на польскія: пасля стольків дзесяцігоддзяў умацоўвання ў беларусах комплексу непаўнавартасці было б дзіўным, каб яны так хутка і раптоўна адчулі веліч і прыгажосць уласнай мовы. А хто ведае, ці не надышоў час, каб беларускі Епіскапат — беручы прыклад з польскага — выдаў аналагічны зварот да вернікаў з заклікам больш паважаць родную мову і пранікнуцца адказнасцю за яе адраджэнне?..

Так, тут патрэбна *педагогія*: Касцёл павінен *выхоўваць* беларусаў у любові да сваёй мовы і развіваць пачуццё адказнасці за яе.

* * *

«Настаўнік, якая запаведзь найбольшая ў Законе?»[7] — пытаўся калісьці кніжнік у Бога. «Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам тваім <…> і бліжняга свайго, як самога сябе»[8]. Рэалізаваць гэтае трайное прыказанне любові — да Бога, да бліжняга, да сябе самога — і выхоўваць у гэтым кірунку людзей —  галоўная місія Касцёла.

Павага і клопат пра родную мову — гэта своеасаблівае спалучэнне любові да сябе і да бліжняга. Любячы сваю мову, шануючы яе і развіваючы, чалавек праяўляе любоў адначасова да сябе і да бліжняга, а гэтыя дзве формы любові як бы зліваюцца ў адно ў акце любові й павагі да роднай мовы і свайго культурнага асяроддзя. І наадварот: непавага да сваёй мовы — гэта праява нелюбові да сябе і нелюбові да свайго суайчынніка. А колькі ж гэтай непавагі, гэтай нелюбові сярод беларусаў! Хто ім дапаможа аднавіць свой гонар, палюбіць сябе і суайчыннікаў і стацца моцнай духам, салідарнай і культурна развітай супольнасцю? Няўжо гэта не справа Касцёла?

Так, гэта справа Касцёла, але яна не зрушыцца з месца, калі Касцёл у Беларусі не пераадолее апісаны вышэй пострэчпаспалітальны стан. Калі і існуе якаясь перарваная традыцыя, якую трэба аднавіць, то гэта не традыцыя Другой Рэчы Паспалітай, а традыцыя уніяцкай Царквы, якая была брутальна перарваная ў XIX ст. Як сцвярджае гісторык Анатоль Грыцкевіч, пасля скасавання Уніі царскімі ўладамі трацина беларускіх уніятаў перайшла ў рыма-каталіцтва. Гэта азначае, што на Рыма-каталіцкім Касцёле ляжыць *маральны абавязак* захаваць і развіваць тое, што было характэрнае для гэтай сястрынай каталіцкай канфесіі, між іншым, павагу да беларускай мовы і дбанне пра шырокае яе выкарыстанне. Не 1939 год мае быць «пунктам вяртання» на лініі нашай гістарычнай каардынаты, а 1839. Не ад Рамуальда Ялбжыкоўскага мы павінны пераняць эстафету, а ад Язафата Булгака.

---

[1] Пазьняк, Зянон. *Гутаркі з Антонам Шукялойцем*. — Варшава: Беларускія ведамасьці. — Вільня: Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, 2003.

[2] Archiwum Akt Nowych w Warszawe. Ministerstwo Wyznań Religijnych. – Sygn. 436. – Mikrofilm D 9430. – Karta 145 (цытата ўслед за: Ярмусік Эдмунд. *Каталіцкі Касцёл і нацыянальныя праблемы XX ст. (на матэрыяле Беларусі)* // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Зборнік навуковых артыкулаў. — Гродна: ГрДУ імя Я. Купалы, 2008).

[3] Паводле перапісу 1999 г.

[4] Гэтыя артыкулы (як і шэраг іншых карысных на дадзеную тэму) можна знайсці ў зборніку Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie*. — Warszawa, 2002.

[5] Białystok: Katedra Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku, 2000.

[6] Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej. — Lublin, 2008.

[7] Мц 22, 36.

[8] Лк 10, 27.



# ПАД КАТЫНСКІМ КРЫЖАМ

Смерць кожнага чалавека — заўжды гора для яго сваякоў і сяброў. Але разам з тым кожная смерць — гэта і нейкі ўрок для нас, жывых. А калі ў адно імгненне гінуць 96 чалавек, сярод якіх Прэзідэнт Польшчы з жонкай, вядомыя польскія палітыкі, военачальнікі, святары? І калі гінуць яны ў авіякатастрофе на смаленскай зямлі, куды накіроўваліся ўшанаваць памяць сваіх загінуўшых суайчыннікаў у 70-ю гадавіну расстрэлаў у Катыні? Які маральны ўрок нясе для ўсіх нас гэтая катастрофа?

Чалавечы розум мае занадта сціплыя магчымасці, каб спасцігнуць найвышэйшы сэнс падзеяў. Але можна і трэба спачуваць, маліцца і — памятаць. У памяці, відаць, палягае ключ да адказу на пытанне пра маральны ўрок для ўсіх нас. Мільёны людзей, і не толькі ў Польшчы, але і ў суседніх краінах, ва ўсім свеце, выказваючы спачуванне ахвярам катастрофы і салідарнасць з польскім народам, адначасова тым самым шанавалі памяць ахвяраў катынскага злачынства. Можна пагадзіцца з тымі польскімі журналістамі і палітыкамі, якія казалі ў дні жалобы, што пасля авіякатастрофы праўда пра злачынства, вядомая датуль усім палякам, стала вядомая і ўсяму свету.

У дзень пахавання Прэзідэнта Леха Качыньскага і яго жонкі Марыі на Беларускім тэлебачанні выйшаў у эфір фільм Анджэя Вайды «Катынь». Фільм гэты, зняты знакамітым польскім рэжысёрам некалькі гадоў таму, да апошняга часу не выпускалі на шырокі экран у Беларусі і Расіі. У дзень жалобы, абвешчанай Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Д. Мядзведзевым 12 красавіка, «Катынь» паказалі на дзяржаўным канале РТР. У Беларусі прэм'ерны паказ фільма на 1-м канале быў запланаваны на 23 красавіка, але неспадзявана паказ адбыўся на тыдзень раней. І хоць у краіне не была абвешчаная жалоба (у той дзень, у нядзелю, было рэкамендавана толькі абмежаваць забаўляльныя тэлеперадачы), кіраўнік беларускай дзяржавы наведаў мінскі архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі і ўшанаваў памяць ахвяраў авіякатастрофы.

Паказ «Катыні» на дзяржаўным канале выглядае асабліва важным і сімвалічным. І не столькі з прычыны яго мастацкіх вартасцяў (хоць Вайда – сапраўдны майстар), а таму, што кінасцэнарый, кніга, паводле якой пастаўлены фільм, усе яго дэталі пабудаваныя на сапраўдных фактах і дакументах. І яшчэ гэты фільм афарбаваны асабістым стаўленнем Анджэя Вайды да тых падзеяў — яго бацька быў расстраляны сярод іншых польскіх афіцэраў у 1940-м пад Харкавам.

Катынь — найбольш вядомае месца расстрэлаў, але не адзінае. У Катынскім лесе былі расстраляныя 4400 польскіх афіцэраў, а ўсяго ў Катыні, Медным (каля Цверы) , а таксама пад Харкавам, у Кіеве і Мінску, іншых мясцінах былі расстраляныя НКУС каля 22 тысяч польскіх вязняў. Сярод іх былі каталікі і праваслаўныя, прадстаўнікі іншых канфесій, палякі, беларусы, рускія, украінцы па нацыянальнасці, але ўсе яны былі грамадзянамі даваеннай Рэчы Паспалітай. Былі сярод іх кадравыя вайскоўцы, прафесары вышэйшай школы, акторы, мастакі, вясковыя настаўнікі, святары — эліта польскага грамадства.

Фільм «Катынь» вельмі проста і жорстка расказвае пра тое, як гэта адбывалася — ад першых дзён трагедыі пасля 17 верасня 1939 года, калі Чырвоная армія ўвайшла на тэрыторыю Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія ўваходзілі ў склад Польшчы, і да апошніх, калі сталінскія каты забівалі польскіх вязняў стрэламі ў патыліцу. Адзін з герояў фільма ў першых кадрах гаворыць пра тое, што польскія афіцэры сталі ваеннапалоннымі, хоць афіцыйна вайна Польшчы з Савецкім Саюзам, у адрозненне ад Германіі, не абвяшчалася. Фактычна палонныя палякі сталі закладнікамі Сталіна.

5 сакавіка 1940 г. сталінскае палітбюро на падставе запіскі Берыі пра польскіх вязняў, якія ўтрымліваліся ў канцлагерах,

прыняла рашэнне аб знішчэнні гэтых людзей без суда і следства, нават без прад'яўлення абвінавачанняў. Рашэнне было завізаванае подпісамі Сталіна, Варашылава, Молатава, Мікаяна, Калініна, Кагановіча...

7 красавіка НКУС распачаў масавыя пакаранні ў Катыні. Сярод пахаваных там ёсць адна жанчына — Яніна Левандоўска, дачка генерала Левандоўскага, юная выпускніца ваеннай авіявучэльні ў Варшаве. На гэты факт звярнуў увагу расійскага кіраўніка Уладзіміра Пуціна польскі прэм'ер Дональд Туск падчас сумеснай жалобнай цырымоніі ў Катыні 7 красавіка гэтага года. Пуцін у той дзень у сваім выступленні прызнаў віну за гэтае злачынства сталінскай таталітарнай сістэмы, хоць і не назваў імя Сталіна. Не прасіў ён і прабачэння ў палякаў. Але ён устаў на калені побач з польскім прэм'ерам перад помнікам загінуўшым.

А ўсяго праз тры дні Пуцін ізноў сустрэўся з Тускам — на месцы жудаснай катастрофы пад Смаленскам. Ён казаў словы спачування ад імя расійскага народа і выказваў салідарнасць з палякамі ў момант іх усенароднага гора. Такія ж словы шчыра выказвалі ў той момант і вельмі многія расійцы, беларусы, украінцы.

У нейкі момант Пуцін абняў Туска. Гэты жэст, чым бы ён ні быў выкліканы, быў важней за тое, што расійскі бок з першага моманту сумесна з палякамі вёў расследаванне катастрофы, дапамагаў у арганізацыі прыезду сваякоў ахвяраў, у апазнанні і вяртанні целаў загінуўшых на радзіму.

Такая праява звычайнай чалавечнасці надзвычай важная для вяртання нармальных стасункаў паміж Польшчай і Расіяй. Гэтыя стасункі шмат дзесяцігоддзяў былі атручаныя (кажучы словамі У. Пуціна) «цынічнай маной» пра Катынь. Савецкі Саюз настойваў на версіі, што палякаў расстрэльвалі немцы ў 1943-м, а ў Польскай Народнай Рэспубліцы за спробы казаць праўду пра Катынь можна было трапіць у турму...

Пры Гарбачове, а затым пры Ельцыне Крэмль нарэшце прызнаў Катынь сталінскім злачынствам. Расійская пракуратура правяла маштабнае расследаванне, аднак большая частка яго вынікаў дагэтуль засакрэчаная.

Пра што ж хацеў сказаць Прэзідэнт Лех Качыньскі ў Катыні, куды ён ляцеў разам з вялікай дэлегацыяй, у тым ліку з нашчадкамі загінуўшых там палякаў? Захаваўся тэкст яго прамовы ў Катыні, над якім Прэзідэнт працаваў да апошняга дня і які так і не змог прачытаць. Фактычна той тэкст стаў яго палітычным запаветам. «Давайце ж зробім усё, каб рана Катыні нарэшце загаілася. Мы ўжо ідзем да гэтага... Усе абставіны катынскага расстрэлу мусяць быць цалкам вывучаныя і растлумачаныя. Важна, каб была пацверджаная юрыдычная невінаватасць ахвяраў, каб былі рассакрэчаныя ўсе дакументы, якія датычаць гэтага злачынства. Хлусня пра Катынь мусіць назаўжды знікнуць з грамадскай прасторы».

Пра тое ж фактычна казаў падчас памінальнай Імшы ў Кракаве, у Марыянскай базыліцы, кардынал Станіслаў Дзівіш (у мінулым — асабісты сакратар Папы Рымскага Яна Паўла II), які быў адным з ініцыятараў пахавання польскага Прэзідэнта на Вавелі, побач з польскімі каралямі. На цырымоніі, як вядома, прысутнічалі кіраўнікі шэрагу замежных дзяржаваў, у тым ліку Прэзідэнт Расіі Дзмітры Мядзведзеў, які прыляцеў на пахаванне, нягледзячы на небяспеку для палётаў, выкліканую вулканічнай хмарай над Еўропай. Перад адлётам з Кракава ён заявіў, што віна за Катынь адназначна ляжыць на Сталіне і яго паслугачах і што патрэбна далейшая праца па высвятленні ўсіх абставінаў гэтага злачынства.

«70 гадоў таму Катынь раз'яднала два народы, а хаванне праўды пра бязвінна пралітую кроў не дазваляла загаіцца балючым ранам, — сказаў кардынал Дзівіш. — Трагедыя (авіякатастрофа. — *В.Т.*) выявіла шмат прыкладаў дабра, якое захавалася ў людзях і нацыях. Спачуванне і дапамога, якія мы назіралі ў гэтыя дні з боку братоў-расійцаў, ажыўляе надзею на збліжэнне і паяднанне двух нашых славянскіх народаў — гэтыя словы я адрасую Прэзідэнту Расіі. Гэта задача нашага пакалення — выканаем яе шчыра, бо аб гэтым прасіў Прэзідэнт Качыньскі ў сваёй прамове, якую не змог прачытаць у Катыні. У той прамове гаварылася: «Дарогай, якая збліжае нашы народы, мы павінны ісці далей, не затрымліваючыся на ёй і не адступаючы».

...У 1990 годзе ў цэнтры Кракава быў усталяваны агромністы Катынскі крыж у памяць пра ахвяраў злачынства. Труны з целамі Леха Качыньскага і Марыі Качыньскай на іх апошнім шляху на Вавель правезлі побач з гэтым помнікам. Можна сказаць, што крыж памяці пра Катынь нёс у сваім жыцці Прэзідэнт Польшчы.

Гэты крыж памяці трэба спрабаваць несці і кожнаму з нас...

*Віталь Тарас*

**Віталь Тарас** — журналіст, пісьменнік. Нарадзіўся ў 1956 г. у Мінску. Скончыў вячэрняе аддзяленне журфака Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у тыднёвіках «Літаратура і мастацтва», «Культура», на тэлебачанні, у беларускай рэдакцыі Радыё Свабода ў Празе. Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча за 1996 год.

З 2002 г. — аглядальнік газеты «Наша Ніва». Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтар зборнікаў эсэ «Звыклае зло» (2007) і «Хроніка бягучых падзей» (2010).



Данута Бічэль

## ПІЛІГРЫМКА Ў КАТЫНЬ

У Катынь па нябёсах дарогі... Здаецца, дарог шмат...
Маглі вярнуцца, ды ў перамогі няма дарогі назад.
Іх кроў уквеціла ў чырвань увесь беспрасветны змрок.
Загінуўшых за Айчыну да сябе прытуляе Бог.

Людзі бяды баяцца. А Бог не баіцца бяды.
Ён дапамог ім узняцца, вярнуцца назад праз гады...
Заціснуць старую рану любоўю і дабрынёй
мужчын і жанчын, каханых, смерцю злучыць адной...

Раптам на лес і балота лягла густая імгла.
Вырай нябесных істотаў імгла затрымаць не змагла.
Выраем сэрцаў дужых ў нябёсы Катыні ўзляцець,
бессмяроццем прыгожых душаў паправіць нявінную смерць.

Смерць раззброеных вязняў, зганьбаваных маўчання ілжой,
апраўдаць у вачах нашчадкаў, ачысціць ахвярнай крывёй.
Таямніцаю складзеных жыццяў прыгожых публічных эліт,
добрым Богам узнятых у вечны нябёс аксаміт.

Людабойства, нянавісць, адчай, дратаванне крывавае, згінь!
Адвалены камень маўчання з сэрца твайго, Катынь!
На белым абломку світаннем гарэў акрываўлены шнар —
Гэта харугва Змёртвыхпаўстання і польскі штандар!

Што мог пасланць з самалёта загінуўшы бацька і муж?
Упрыгожвайце сцежкі сіротаў у вязанкі вясновых руж!
Чалавецтва яднаецца ў моцы ад ценяў тваіх, Катынь!
У малітве, у болю, у сонцы, у смутку святым...

— Простите нас, если можете! — сказаў расійскі прэм'ер...
Ці пакрыецца вечнаю ганьбай той вусаты раз'ятраны звер?
Ці прабачаны каты Катыні? Ці адпушчаны грэх?

Бог. Гонар. Айчына... Марыя. Лех...

Ірына Жарнасек

# Нашых дзён крыгаход

**Кніга з гарышча**

Старонкі гэтай кнігі сатлелі ад часу. Яны закругліліся і зрабіліся гэткія тонкія, што перагортваць іх трэба дзвюма рукамі, падтрымліваючы пальцамі зверху і знізу...

Кніга прыйшла на мой стол не з такой ужо і далёкай далечы — з 1943 года. Прынамсі, дваццатае стагоддзе... Але выгляд яна мае страшны, нібы сваім выглядам пацвярджае свой страшны змест. Яе шлях прайшоў праз цемру, цвіль, холад, страх. Дый ці мог быць шчаслівы лёс у кнігі з кароткай назвай «Катынь»?

Увесь гэты час яна праляжала на гарышчы аднаго майго земляка. Ён збярог яе, рызыкуючы... Чым рызыкаваў ён? Жыццём? Вольнай воляй? Сваім хутарам, з якога адкрываюцца такія прыгожыя ды шырокія далягляды? Калі б гэтая кніга трапіла свойчас у рукі пільных людзей, якія адно бачылі злачынствы іншых і нізавошта не жадалі прызнавацца ў сваіх, перад ягонымі вачыма маглі б паўстаць не блакітна-зялёныя далягляды, а калючы дрот. Мой зямляк ведаў гэта. Таму кніга і ляжала на гарышчы. Таму пра яе існаванне не ведалі не тое што суседзі, а нават і жонка.

Кніга-дакумент, кніг-абвінаваўца ацалела.

І прыйшла ў нашыя дні, каб дыхнуць на нас жудаснай трагедыяй і адначасна някідкай трываласцю такіх людзей, як мой зямляк. Ён не меў сваіх дзяцей. Не было ў яго, здаецца,




нікога і з радні, хто б мог легчы ў тыя жудасныя магілы ў смаленскім лесе. Што ж змушала яго гэтак берагчы яе, чытаючы ды перачытваючы? А кнігу чыталі. Бо калі б яна проста трухлела на гарышчы, яе старонкі гэтак бы не закругліліся. На іх, пажоўклых і змарнелых ад вільгаці, не засталося б адбіткаў пальцаў.

Перагортваю старонкі кнігі. Чытаю і не маю сілы чытаць. Гляджу на жудасныя здымкі і не магу глядзець. Свежыя сляды чытання — круглыя цёмныя плямкі на старонках. Адхінаюся. Не маю права псаваць кнігу-сведку: не для таго яе гадамі берагліі на гарышчы. Выціраю мокры твар. Зрэшты, на гэтай кнізе ў свой час не магло не быць мокрых плямаў ад слёз яе чытачоў. Высахлі. Не пакінулі па сабе следу.

Перагортваю старонкі. Чарапы, чарапы, чарапы... І маленькія, зусім маленькія дзірачкі ў іх... Як і на тых, з Курапатаў... А рукі звязаныя вяроўкамі. Не надта й тоўстымі. Вызваліцца з такіх повязяў вайскоўцу што за праца? Ды рукі ж, рукі звязаныя за спіною! Не разарвалі. Не змаглі сябе абараніць. Палеглі ў зямлю сыны Польшчы, нашы браты-славяне...

*...Кроў брата твайго на руках тваіх...*

*Браты...*

*Людзі...*

*Каіны...*

Перагортваю пажоўклыя старонкі. Магілы, магілы, магілы. Палякі называюць такія магілы масавымі, у нас жа больш прыжылося слова «братнія». А гэтыя як называць? Братнімі? Таму што браты пабілі братоў?!

*...Кроў брата твайго на руках тваіх...*

*Браты...*

*Людзі...*

*Нелюдзі...*

*1996 г.*

**Першы дырэктар**

Ён быў першым дырэктарам маёй школы — Стэфан Паўлоўскі. Я не магла быць ягонаю вучаніцаю — мы жылі ў розны час. А ў маленстве, калі я за хрушчоўска-брэжнеўскім часам вучылася ў Задарожскай васьмігодцы, пра першага дырэктара ні настаўнікі, ні тым больш піянеры-следапыты не згадвалі. І не дзіва. У школе мы тады маглі чуць і гаварыць толькі благое пра былую Польшчу на нашай зямлі і яе «панскія» парадкі. Бацькі ж, якія жылі пры той

**Ірына ЖАРНАСЕК** — пісьменніца, рэдактар часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай». Нарадзілася ў вёсцы Чаранкі на Глыбоччыне. Піша прозу, публіцыстыку, перакладае з польскай мовы. Аўтар кніг прозы «Ліст да сына», «Гульні над студняй», «Гадара», аповесці-казкі «Спрэчка анёлаў», рамана «Будзь воля Твая». Жыве ў Наваполацку.

Польшчы, паміж сабой прыгадвалі з таго жыцця штосьці зусім адваротнае, але дзяцей у такія гамонкі не падпускалі — далей ад бяды.

Стэфан Паўлоўскі прыехаў у Задарожжа «за польскім часам», і 1 верасня 1937 года была ўрачыста адчыненая наша Задарожская школа. У той святочны дзень яны былі такія шчаслівыя, радасныя, прыгожыя — першыя вучні, першыя настаўнікі, першы дырэктар!.. Такімі й засталіся на тым сонечным фотаздымку, што захаваўся ў кагосьці з першых вучняў...

Школа была пабудаваная да 70-гадовага юбілею Юзафа Пілсудскага — такі вось своеасаблівы падарунак для тутэйшага люду ад Маршалка, адзін з маёнткаў якога таксама знаходзіўся непадалёк, блізу Мосара. Школа была, вядома, польскаю. І першы дырэктар таксама быў палякам, і ягоная жонка, і двое дзяцей — сын Збышак, дачушка Дануся...

Ад таго шчаслівага верасня да страшнага 1939-га заставалася два гады, да 1940-га — тры...

Ніхто з маіх землякоў дакладна не ведае тае жудаснае гісторыі. Пра яе ўголас пачалі гаварыць зусім нядаўна — толькі па Гарбачове. Тады й прагучала страшнае слова «Катынь» у звязку з лёсам нашага першага дырэктара, які на пачатку Другой сусветнай вайны мабілізаваўся ў Войска Польскае. Я ж упершыню пачула пра трагічны лёс першага дырэктара маёй школы на святкаванні яе 70-годдзя. Найстарэйшыя шаноўныя госці тае ўрачыстасці, што дабрылі на юбілей, папіраючыся кульбамі, а ў трыццаць сёмым былі вяртлявымі ды смяшліва-раднаснымі першымі вучнямі, прыгадвалі свайго першага дырэктара ды скрушна ківалі галовамі: «У Катыні лёг, гаротнік...» Ды цешыліся за ягоную жонку, іхнюю колішнюю настаўніцу, за дзетак, з якімі некалі гулялі ў хованкі. Ім пашчасціла выехаць на радзіму, у Польшчу, — яны не зведалі Сібіры. Шчаслівыя...

*2007 г.*

**Кроў у разорах**

Іх — калону вязняў беразвецкай турмы — энкавэдысты расстралялі на абрывістым беразе Дзвіны, адразу ж за Улай, каля вёскі Мікалаева. Стаяў сонечны чэрвень 1941-га. На палях красаваліся рамонкі ды васількі, у лясах чырванелі першыя суніцы. А паміж Улай, чый дамініканскі касцёл з ампутаванымі саветамі вежамі ўпарта глядзеўся ў воды Дзвіны, і Мікалаевам, жанкі і мужчыны якога не менш упарта ішлі па нядзелях маліцца Богу да сценаў скалечанай святыні, заружавелася ад крыві Дзвіна. Пралілася там і святарская кроў — Станіслава Эліяша, Францішка Куксевіча.

...Людская кроў паплыла жывымі ручаінамі па разорах. Мікалаеўскія сяляне чулі крыкі ахвяраў, што стагналі, енчылі, курчыліся на зямлі. Чулі ашалелы брэх сабак, злосныя воклічы-загады канваіраў ды істэрычны лямант іхніх жонак, якія крычалі тутэйшым жанкам ды іхнім дзеткам, якія міжволі сталі сведкамі таго злачынства, каб яны не баяліся, іх не зачэпяць, бо тут страляюць па злачынцах...

Сярод тых, хто палёг на акрываўленым беразе Дзвіны, былі заможныя сяляне з Глыбоччыны, Мёршчыны, Браслаўшчыны, Пастаўшчыны, былі святары, касцёльныя актывісты, маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія належалі да моладзевых касцёльных арганізацый. Неўзабаве пасля прыходу бальшавікоў у 1939-м іх сагналі ў былы базыльянскі кляштар у Беразвеччы, што ператварыўся ў турму. Так новая ўлада вышуквала магчымых ворагаў. Арыштоўвала не за нейкія канкрэтныя ўчынкі, а на ўсялякі выпадак. Пра тое, што вязні выцерпелі ў засценках Беразвечча, яшчэ мусяць сказаць сведкі ды гісторыкі. За тых жа, чыя кроў сплывала 27 чэрвеня 1941 года па мікалаеўскіх разорах, сведчыць сама гэтая кроў. У гэты дзень тут быў выкананы чыйсьці загад. «Няма чалавека — няма праблемы», — любіў казаць Сталін.

І... здрыганулася ў жаху зямля.

А сярод мясцовага люду доўга пераказвалася потым чутка ды й цяпер яшчэ можна гэта пачуць, што каля Мікалаева канваіры «пабілі нейкіх палякаў». Ну так, гэта ж былі вязні з Заходняй Беларусі. Беларусь толькі што аб'ядналася, газеты яшчэ зусім нядаўна крычалі пра шчаслівую будучыню, што чакала беларусаў-заходнікаў, і таму над Дзвіною ніяк не выпадала расстрэльваць сваіх суайчыннікаў. Дык расстралялі «палякаў» — па чужых жа людзі менш плачуць, чым па сваіх. І менш задаюць пытанняў.

...Летась, у чэрвені 2009-га, на жалобнае штогадовае набажэнства ў мікалаеўскім лесе паехаў адзін мой знаёмы з Лужкоў, які да гэтага часу не траціць надзеі даведацца праўду аб лёсе свайго бацькі, што з прыходам саветаў у 1939-м быў арыштаваны ды кінуты ў беразвецкую турму. Пакуль што ягоныя пошукі не мелі поспеху, дык паехаў маліцца ў Мікалаева. «Хутчэй за ўсё, там лёг мой бацька...», — сказаў ён мне.

У Расіі нядаўна паабяцалі адкрыць усе архівы пра Катынь. Ужо трапілі ў прэсу дакументы з подпісамі злачынных палітыкаў, якія вырашылі лёс ахвяраў Катыні. Ці даведаюцца калі беларусы, хто аддаў загад расстраляць дзве тысячы чалавек у Мікалаеве? І калі будуць апублікаваныя спісы ахвяраў гэтага расстрэлу? Ці дачакаемся мы?

*2010 г.*

# Ян Чыквін



**Ян Чыквін** — паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Нарадзіўся 18 траўня 1940 г. у вёсцы Дубічы Царкоўныя Беластоцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Варшаўскага універсітэта. Доктар філалагічных навук, прафесар. Узнагароджаны Залатым медалём «Zasłużony kulturze Gloria Artis».
Сябра Саюза польскіх пісьменнікаў і ганаровы сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі.
З 1989 г. — старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», з 1990 г. — рэдактар выдавецкай серыі «Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа"», з 1998 — літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса «Тэрмапілы».
Друкуецца з 1957 года. Аўтар паэтычных зборнікаў «Іду» (Беласток, 1969), «Святая студня» (Беласток, 1970), «Светлы міг» (Мінск, 1989), «Жменя пяску» (Беласток, 2008) і інш.
Аўтар літаратуразнаўчых даследаванняў: «Далёкія і блізкія. Беларускія пісьменнікі замежжа» (Беласток, 1997), «Беларуская літаратура Польшчы. Бібліяграфічны даведнік. 1957–1998» (Беласток, 1998) і інш.
Асобныя творы паэта перакладаліся на польскую, рускую, украінскую, сербскую, англійскую і нямецкую мовы. Жыве ў Бельску Падляскім.

* * *

Поле з недаспелым жытам-хорам
Песнямі стварала шыр прасторам.

А пад намі вечнасць і над намі далі
Незавершанымі душу вабілі агнямі,
Вогнівам свяціла ў змроках на айчыне.

Але цела, сокамі бяроз напоенае, шумам соснаў,
Не хацела ні ўміраць, ні уваскроснуць
І спявала ў полі жытнімі вачыма.

Па шахліва-утрапёнай сферы быту
Поруч ты ішла ў маленні варажбітным
Нібыта анёл, што вядзе к жыцця берагавіне.

*1.02.2005*

* * *

*Народжанай ад Марыі-птахі*

Агню ўладарніца — на кухні, пры пліце —
Вадою хрысціць звонкае начынне,
Як быццам вяжа серабрыстых два канцы ніцей,
Як быццам сузірае нешта ў слёзных далячынях.

Вада, як час ў быцці-чарнавіку магутным,
Цячэ праз пальцы перламутрай.

Нібыта цені вадзяныя
Калышуць люстра маладосці —
І рвуцца прадзінкі жыцця жывыя
Ў руках князёўны-гаспадыні...
Ці новыя ўзоры ткуцца госцяй?

*19.01.2005*

* * *

Здаецца мне, што я іду па Саскім*.
Гады велікодныя ў сонечным ззянні,
Прыгожа варушыцца свет пакаяння,
Рэха разносіць мелодыі наскія.

Ах, гэты сад пад нядрэмным вокам Венеры
Мяне назаўсёды з Польшчаю вяжа.
І адсюль я адразу бачу ўсё разам,
Што ў замыслах боскіх, а што на паперы.

Здаецца, шлях у бясконцасць адкрыты, у нескаро-
насць,
Гады маладыя на ўзлёце сіл духа...
Ды чуеш, як цісне пацяху абруч сталёвы,
Як крыўда на сэрца кладзецца сваім невагомым
пухам.

І як ні ідзі ты, а будзе твой шлях заўжды па ўскрайку,
Бо ты адтуль, дзе толькі актавы болю і скрухі...
І ты, як кастрычнік, палка ўспылаўшы,
Сваю маладосць у вогнішча дзён ярэмных кідаеш.

*13.09.2005*

* * *

*...wunderliche Zeit*
*von Widerspruch zu Widerspruch reichend*
*Rainer Maria Rilke*

Сонца згінае ў дугу вялікае неба,
Вяжа ў вузел тугі ўсе супярэчы.
Мы рукамі разганяем цені
І глядзім на свет маўкліва,
Нібы свае, нібы чужыя людзі,
Як дзень глытае пыл серабрысты аблокаў,
Аблокаў...

Новых прадвызначэнняў у высях не будзе.
Замкнёныя ў прасторах Эўкліда
Раны жыцця адно жыццём і лечым —
Мо здарыцца душ перасяленне,
Мо зыдзе агонь святы здалёку...
Галя чытае мне голасам Рыльке: *O, Leben,*
*Leben...*

*7.04.2006*

* * *

О шчаслівыя жыцця бязмэтныя часіны!
Бацька зросся з возам, лес з кабылай,
Колы шорхна рушаць цёплы порах пылу;
Поўдзень. Час нібыта ў сне — то явіцца, то гіне;
Едзем па цячэнні дня ўсё той жа вечнай каляі-
най.

Цішынёй няспешліва-гаючай сцелецца дарога,
Бацька на калодах дрэмле, чуб адкінуўшы на
вецер...
Конь спакойна мерыць невымернае у конскім
свеце,
Роўна тоўхкае нагамі пыл, галавой трасе і
зірыць яблавока,
Як паперадзе паўз пыл вядуць нябожчыка да
Бога.

*20.04.2006*

* * *

Дзень пры дні — тужлівая жура,
Ўсё як бы разгублена й разбіта.
Вось дзе мне прыйшлося нарадзіцца й паміраць,
Вось той шлях ад крыку першага і да апошняе
малітвы.

Што зрабіў ты са сваім жыццём? — сябе пытаю.
Быццам ў поле выйшаў, дзе туман ляжыць...

То паўсюль, паўсюль жыццё жыццём дажджыць
І мяне ад берагоў сваіх яшчэ аберагае.

*2.06.2006*

* * *

Яблыні гнуцца ад яблык.
Гнуцца, ніяк не сагнуцца.
— Як твае дзеці завуцца?
Сын твой, можа, мой гэты Паўлік!?

Падаюць слівы пад сліву,
Як з чэрава коцяцца дзеці.
Нібы ў траве шукаю, дзе трэцяе...
Як без мяне ўсе раслі вы!?

Восень спеліць цукровыя грушы,
П'яна-салодкія шэрыя бэры.
Выспеліць — і зачыняцца дзверы
Ў гэты сад нязздзейсненых душаў.

*30.08.2006*

*З кнігі «Жменя пяску»,*
*Беласток, 2008.*

* Парк у цэнтры Варшавы.

Ірына Багдановіч



# «Да пашлі ж Ты, Божа, Праўду сваю...»

## Да 170-годдзя з дня нараджэння Францішка Багушэвіча

Францішак Багушэвіч (1840–1900) традыцыйна ўспрымаецца ў дзвюх творчых іпастасях: як пясняр сацыяльнай нядолі і нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Прынамсі аб гэтым гаворыць увесь ідэйны змест і пафас яго паэтычнай спадчыны, а менавіта два зборнікі вершаў — «Дудка беларуская» і «Смык беларускі». У літаратуразнаўчай інтэрпрэтацыі творчасці Ф. Багушэвіча, аднак, дагэтуль бракуе духоўнага складніка, а менавіта разумення таго, што яна ў сваёй сімвалічнай прытчавасці цалкам вырастае з Біблії, абумоўлена рэлігійнасцю і каталіцкім выхаваннем паэта, а сацыяльную нядолю беларуса і яго імкненне да нацыянальнага адраджэння Ф. Багушэвіч выказаў найперш праз біблейскія сімвалы і паняцці. Яго паэзія струменіцца тым духам натхнення, які можа даць толькі шчырая рэлігійнасць, і менавіта гэта надае ёй высокі і вечны сэнс. Пацверджанне нашай думкі знаходзім у некалькіх сведчаннях аўтарытэтных даследчыкаў ранейшага і сённяшняга часу.

Найперш добра разумелі гэта ксяндзы Адам Станкевіч і Кастусь Стэповіч (ён жа паэт Казімір Сваяк), якія пакінулі пра Францішка Багушэвіча спецыяльныя даследаванні яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Станкевіч пашыраў значэнне творчасці Багушэвіча на адраджэнне не толькі нацыянальнае і сацыяльнае, але і духоўнае. «Ф. Багушэвіч першы ў беларускім адраджэнні так глыбока і ўсестаронна і сапраўды па-мастацку раскрыў прад народам усю трагедыю яго жыцця нацыянальнага, сацыяльнага і рэлігійнага, а таксама глыбока, ясна і па-мастацку паставіў прад народам у гэтых жа галінах жыцця высокія ідэалы», — пісаў Адам Станкевіч [1].

Паэт і святар Казімір Сваяк падкрэсліваў значэнне Францішка Багушэвіча як прадвесніка маладой Беларусі і выразніка рэлігійнай псіхалогіі беларусаў. Апратка душы народа — не толькі мова, але і вера, менавіта яны фармуюць і захоўваюць высокія духоўныя ідэалы, не даюць разбурыцца і ўпасці народу. «Забіце ў душы народа Бога — перастане такі народ існаваць», — папярэджваў Казімір Сваяк[2]. Нібыта рэха, ён падхопліваў і развіваў далей думкі Францішка Багушэвіча з прадмовы да «Дудкі беларускай»: «Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная. <...> Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»[3]. Менавіта духоўна-хрысціянскі фактар працяглы час выпускаўся з поля зроку даследчыкаў пры гаворцы аб значэнні творчасці Ф. Багушэвіча, і ён патрабуе сёння больш глыбокай увагі.

У сучасных даследаваннях нам бачыцца важным таксама акцэнт не столькі на «антыпанскасці» або нават патрыятычнасці, колькі на духоўным правадырстве Ф. Багушэвіча, на тым, што ён быў Настаўнікам народа, даўцам яму, па словах Генадзя Кісялёва, «духоўнага хлеба»[4]. Духоўнае правадырства Францішка Багушэвіча ў справе нацыянальнага адраджэння падкрэсліваў у свой час і Максім Гарэцкі, аднак ён не развіваў гэты тэзіс у рэчышча рэлігійна-хрысціянскай напоўненасці вобразаў і сімвалаў Багушэвічавай паэзіі[5], што на той час не

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

лічылася актуальным.

З фармальна-мастацкага боку Ф. Багушэвіч быў майстрам метафарычнага і алегарычнага пісьма (іншасказання), якое прадугледжвала наяўнасць паралельных сэнсаў, схаваных за першапачатковым сэнсам на першы погляд рэальных, побытавых гісторый, расказаных ім. Менавіта такая форма пісьма давала магчымасць шырокага выкарыстання біблейскіх вобразаў і сімвалаў, на першы погляд незаўважных, глыбока зашыфраваных у тэксце твора. Іх можна было і не прачытваць у біблейскім кантэксце, пакідаючы ў сферы зямных, практычна-жыццёвых інтэрпрэтацый. У савецкі час такі падыход да творчасці Ф. Багушэвіча і быў адзіна існым як таму, што абумоўліваўся пануючай атэістычнай ідэалогіяй, так і таму, што ў выніку апошняй цэлыя пакаленні савецкіх людзей не былі практыкуючымі вернікамі і чытальнікамі Бібліі і не маглі без гэтай натуральнай перадумовы тлумачыць ідэйна-вобразны змест паэзіі Ф. Багушэвіча ў біблейскім ключы.

З іншага боку, метафорыка-алегарычныя прыёмы мастацкага пісьма надавалі творам Ф. Багушэвіча характар прытчавасці, што непасрэдным чынам падкрэслівае біблейскую традыцыю, на якую абапіраўся Мацей Бурачок. Ды і само імя Багушэвічавага літаратурнага героя, аўтара яго першага зборніка вершаў «Дудка беларуская» — Мацей — паўтарае імя евангеліста Мацвея, апостала Езуса Хрыста — таго, хто абвяшчае Добрую Навіну. На гэтую акалічнасць слушна звярнуў увагу даследчык Ігар Запрудскі, які правёў непасрэдную паралель паміж Евангеллем ад Мацвея і «Прадмовай» да «Дудкі беларускай» Мацея Бурачка: «Змястоўны бок „Прадмовы“ — гэта дабравесце, своеасаблівае Евангелле ад Мацея»[6].

Цікавыя біяграфічныя рэаліі ёсць у новай кнізе Уладзіміра Содаля. Так, ён піша пра каплічку на Багушэвічавай сядзібе: «Сваёй каплічкай Багушэвічы моцна апекаваліся. Яна для іх была сядзібнай святыняй. Ці то ехалі куды, ці вярталіся, заўсёды прыпыняліся ля яе, жагналіся, казалі малітвы, прасілі ў Бога дарогі без прыгодаў і толькі пасля гэтага выпраўляліся ў свой шлях»[7]. Цікавым фактам ёсць і тое, што з усёй Багушэвічавай бібліятэкі ацалела толькі адна кніга — і гэта Біблія 1869 года, выдадзеная ў Варшаве на польскай мове. Набыў яе Ф. Багушэвіч у Канатопе, на Украіне, калі знаходзіўся ў эміграцыі. У. Содаль падкрэслівае: «Багушэвіч добра ведаў Святое Пісанне, часта ў сваёй адвакацкай, ды і мірской практыцы спасылаўся на яго <...> З набытай на Украіне Бібліяй Францішак Багушэвіч не расставаўся. Яна ўсюды вандравала з ім, скрозь была ягонай першай кніжкай»[8]. Далей аўтар піша пра глыбокую рэлігійнасць сям'і Багушэвічаў, пра вялізны драўляны крыж з фігурай Хрыста пры бацькавым ложку, які пасля быў перанесены ў пабудаваную каплічку, пра хатні іканастас. Гэта ўсё вельмі важныя біяграфічныя рэаліі, якія дапамагаюць зразумець і сутнасную глыбіню Багушэвічавай паэзіі.

Першы зборнік Мацея Бурачка «Дудка беларуская», як вядома, пачынаецца праграмным вершам «Мая дудка», лірычны герой якога марыць «скруціць дудку», што будзе іграць «над народу доляй». Аднак апяванне народнай долі мае ў вершы не класава-антаганістычны і нават не сацыяльна-палітычны характар, а філасофска-гістарычны. Расшыфруем: абяздоленасць народа звязана тут не з галечай (бо гэта вынік), не з так званым «панскім прыгнётам», а з адсутнасцю Богам дадзенага права на выбар, гэта значыць – з адсутнасцю волі, якая прадугледжвае і ўсе астатнія каштоўнасці (выхад з беднасці, культурны росквіт і іншыя грамадскія даброты). Для таго, каб падкрэсліць галоўную ідэю волі, Францішак Багушэвіч скарыстоўвае метафару «жывой вады»: «Вадзіцы хоць каплю, // Ды такой вадзіцы, // Ды з такой крыніцы, // Што як хто нап'ецца, // Дык вольным стаецца»[9]. Вада, якая натоліць сасмяглых і ажывіць нявольнікаў, дасць ім шанц для вольнага развіцця і росквіту, у сімваліка-алегарычным плане мае значэнне біблейскага вобраза святой вады — вады хросту, што нясе духоўнае абнаўленне чалавеку, абвяшчае высокае прызначэнне яго жыцця на зямлі. «Міфалагема *жывой вады* — відавочна, евангельскага паходжання», — падкрэслівае Уладзімір Конан, — гэта «адзін з сімвалаў Ісуса Хрыста»[10]. Вобраз чароўнай дудкі ў творы таксама нясе ў сабе ідэю волі, бо дудка плача «над народу сконам» (а не проста прыгнётам, галечай) — і гэта ўжо гістарычны аспект народнай драмы, які выходзіць за межы сацыяльна-побытавога канфлікту. Скон народа і «жывая вада» як метафара адраджэння, такім чынам, складаюць два вызначальныя матывы верша, што перапляліся ў сімвалічным вобразе Бурачковай дудкі. І гэтыя матывы адсылаюць менавіта наўпрост да евангельскіх падзей укрыжавання-скону і змёртвыхпаўстання.

Музычным вобразам смыка пачынаецца і другі зборнік вершаў Францішка Багушэвіча, названы гэтак жа метафарычна — «Смык беларускі». Сэнс гэтага вобраза і яго значэнне ў гістарычным лёсе народа таксама глыбока звязаны з біблейскімі сімваламі. Смыкам дакранаецца Багушэвічаў музыка да дрэваў у лесе (дуба, хвойкі, бярозы) і чуе водгукам ад іх енк і стогн пакутаў народнай душы. Невыпадкова ў гэтым вершы народная душа асацыюецца з дрэвамі, бо дрэва ў евангельскай сімволіцы азначае крыж, знак пакуты і распяцця Хрыста, а таксама евангельскі сімвал Збаўлення. Сакральнасць смыка і грання, якое ён абуджае, Ф. Багушэвіч падкрэслівае параўнаннем яго з прарочай трубой, «Што пазве на суд // У астатні час // Увесь Божы люд»[11]. Смык — гэта інструмент, які здольны рабіць цуды пераўтварэння: ён іграе на сэрцах, аднаўляе і пераменьвае сэрцы. Такая пераўтваральная моц музыкі таксама суадносіцца з

Божым цудам і паклікана абвяшчаць Божае Валадарства, альбо збаўленне зняверaных і прагных адкуплення. Пяснярскі дар, паводле Францішка Багушэвіча, — гэта Божы дар. Менавіта ў такім рэчышчы паэт трактуе пяснярскае пасланніцтва ў невялічкім вершы «Хто над жалезнай струной запануе», напісаным у 1897 годзе. Гэты верш не ўвайшоў у прыжыццёвыя зборнікі, але з'яўляецца вельмі важным для разумення Багушэвічавай канцэпцыі песняра і творчасці:

*Хто над жалезнай струной запануе,*
*Аж яна плача, то грыміць, то стогне,*
*То так смяецца, рагоча, танцуе,*
*Што душа цвёрдая здрогне —*
*Той і над сэрцам панаваць можа,*
*Бо дар музыкі, то Твой дар, Божа!*
*Іграй жа свету, а хто ўчуе тоны,*
*Той не прапашчы, той будзе збавёны*[12].

Такім чынам, паэт — валадар дудкі і смыка, пан «жалезнай струны». Ён абуджае народ, пераменьвае сэрцы людзей і паказвае ім шлях да збаўлення. Францішак Багушэвіч лічыць паэта прарокам — прапаведнікам Божай праўды на зямлі. Вядома ж, на зямлі пануюць прымус і нядоля, злачынствы і здзекі. Але праўда застаецца праўдай, і яна — у Дэкалозе, у дзесяці Божых запаведзях. Гэта тая праўда, якая вядзе да святла і выбаўляе з цемры. Дзеля выбаўлення чалавека з гэтай цемры Бог паслаў на зямлю свайго Сына. «Пасылаў Ты Сына, Яго не пазналі, // Мучылі за праўду, сілай паканалі», — пісаў Багушэвічаў Мацей, разумеючы, што з часоў Месіі да ягонага ўласнага праўдашукальніцтва мала што змянілася ў адносінах людзей на зямлі да праўды і сілы. Ён просіць Бога аб пасланні Духа, «каб уся зямелька адну *праўду* мела»[13].

У свядомасці хрысціяніна-верніка, якім ёсць Багушэвічаў Мацей, паняцці Праўда і Бог лучацца між сабой, азначаючы Найвышэйшае. Шукае Праўду і Бога таксама дзівак Аліндарка — герой хрэстаматыйнай паэмы «Кепска будзе». У цэнтры яе — вобраз юнака, вонкавы лёс якога, паводле сюжэта, сапраўды адпавядае распрацаваным у літаратуразнаўстве сацыяльна-побытавым характарыстыкам: ён з ранніх гадоў «пазнаў горкую сірочую долю, несправядлівасць царскага суда, здзекі турэмнага начальства»[14].

Для разумення сутнасці твора важна на пачатку паэмы ўбачыць аўтарскі акцэнт не на тым, што Аліндарка застаецца «горкім сірацінай» (урэшце яму знайшоўся добры апякун — айчым), а тое, што ён, дзякуючы анекдатычна апісанаму «хрышчэнню», якога на самай справе не было, аказваецца не занесеным у рэвізскую казку, а значыць не мае ніякіх дакументаў. Па гэтай прычыне застаецца не засведчаным яго паходжанне і ідэнтыфікацыя асобы. Ён чалавек, які фактычна не мае імя. Сцэна бойкі з асэсарам, які абвінаваціў Аліндарку і айчыма ў няўплаце падаткаў і ўхіленні ад рэкруцкай павіннасці, мае чыста сюжэтны, вонкавы сэнс — гэта падстава для астрожнага зняволення героя. І вось тут пачынае гучаць асноўны матыў твора — матыў волі. Адна з празрыстых алегорый — гэта астрог. Аліндарка з айчымам знаходзяцца ў астрозе — у няволі, такім жа астрогам, няволяй для беларусаў, было знаходжанне іх у Расійскай імперыі. Багушэвіч, прафесійна добра абазнаны ў юрыдычных праблемах, умела акцэнтаваў увагу на дэталях астрожнага жыцця, але і тут мы маем справу не столькі з рэалістычнымі падрабязнасцямі, колькі з алегарычнымі намёкамі. Паказальна, што і ў астрогу герой застаецца вернікам-хрысціянінам, вера яго мацуе, дапамагае перажыць пакуты няволі. Вось як паводзяць сябе зняволеныя айчым і Аліндарка, кінутыя «у халодну»: «Заспявалі мы ражанец. // Пяём, плачым, аж галосім, // Божай ласкі — Праўды просім!»[15]. Неаднаразова яшчэ аўтар згадае пра «ражанец», які адгаворвае Аліндарка. Герой адчувае сябе пад Божай апекай, і гэта пазбаўляе яго страху.

Красамоўная сцэна допыту зняволеных айчыма і Аліндаркі спарадзіла правамерныя літаратуразнаўчыя акцэнты на тым, што гэтая сцэна ёсць мастацкім выкрыццём раўнадушша і кручкатворства царскага суда і чыноўнікаў. Згадаем фразу: «А ўсё піша, піша, піша і нагой усё калыша». Аднак сэнс гэтай сцэны, на нашу думку, апрача выкрывальніцкага, меў і сваю алегарычную паралель. У чым жа яна? Заўважым, якія былі вынікі «дазнання»: айчыма адпусцілі дадому, устанавіўшы яго асобу, а Аліндарку зноў вярнулі ў астрог як асобу «неўстаноўленую». І менавіта ў гэтай неўстаноўленасці, «нічыйнасці» хаваецца глыбокі сэнс Багушэвічавай ідэйна-мастацкай задумы твора. Заканчэнне сюжэтнай лініі звязана з хадайніцтвам айчыма аб дакументах для Аліндаркі. Дзеля гэтага хлопца вязуць у родную вёску, апытваюць суседзяў, урэшце адбываецца ідэнтыфікацыя яго асобы, што і дае яму асабістую свабоду — выхад з астрогу.

Як бачна, тэма няволі і астрогу развіваецца Ф. Багушэвічам прынамсі ў двух рэчышчах: рэалістычна-побытавым, дзе выяўляецца ўся непрыглядная машына царскага прыгнёту, і алегарычным, калі ўсёй сістэмай мастацкіх вобразаў аўтар сцвярджае думку, якая мае для лёсу беларусаў сімвалічна-сакрамэнтальны сэнс — бязродны, без каранёў, без усведамлення свайго паходжання чалавек і цэлы народ будуць зняволенымі рабамі, ахвярамі ўласнага няведання. Свабода і воля звязаны толькі з самаўсведамленнем асобы і шырэй — народа, нацыі, якія ведаюць сваё асабістае і гістарычнае імя. Таго, хто не ведае, не хоча ведаць, як і Аліндарку, чакае астрожная рэчаіснасць.

Такім чынам, Багушэвіч сваёй паэмай-прыпавесцю нібыта хоча сказаць: кепска будзе табе, беларус, не таму, што нарадзіўся «ў марцы», і не таму, што стаўся сіратою, а таму, што не маеш імя, ніяк не называешся ў гэтым свеце! Таму твая доля —

астрог, няволя. Як толькі назавешся, будзеш свядомы і годны свайго імені, будзеш яго шанаваць перад сабою і людзьмі — суседзямі, — тады будзеш вольным, шчаслівым, заможным. Гэта было глыбокім мастацкім прароцтвам Ф. Багушэвіча аб гістарычным лёсе беларусаў як нацыі, якую ён клікаў з забыцця да адраджэння, да прамаўлення свайго ўласнага імя ў свеце. Бо існуе толькі названае, толькі тое, што мае імя. І гэта таксама адпавядае высокай біблейскай праўдзе аб тым, што на пачатку было Слова.

Што датычыць *праўды*, то ў творчай спадчыне Францішка Багушэвіча гэта таксама канцэптуальны вобраз-сімвал з шырокім асацыятыўным полем, вакол якога групуюцца ключавыя ідэі, важныя для разумення светапогляду пісьменніка. Трэба зазначыць, што паняцце праўды было акрэслена яшчэ напярэдадні і падчас паўстання 1863 года Кастусём Каліноўскім у «Мужыцкай праўдзе» і «Лістах з-пад шыбеніцы». «Наша праўда», за якую нас пачаў караць Пан Бог, паводле Каліноўскага, гэта доля беларускага народа, а дакладней, яго абнядоленасць. Францішак Багушэвіч, як удзельнік паўстання, не мог не ведаць, не адчуваць і не падзяляць менавіта такой напоўненасці гэтага паняцця. У вершы «Праўда» паэт пісаў: «Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!»[16]. Ізноў жа згадаем, што паняцце праўды (ісціны), таксама як іншыя ключавыя вобразы-паняцці Багушэвічавай творчасці, звернуты да Бібліі. Вернасць Божаму Закону аберагае шляхі праўды, па якіх крочыць чалавек у сваім зямным жыцці. Асабліва выразна гэтая ісціна гучыць у прыпавесцях Саламонавых. Бог ахоўвае шляхі праўды, а мудрасць уваходзіць у сэрца чалавека і аберагае яго ад злога шляху і паўсюднай хлусні, каб ён не хадзіў «шляхамі цемры». Гэтую прытчавую семантыку шырока разгортвае Ф. Багушэвіч. У вершы «Праўда» ізноў актуалізуецца праблема бязмоўнасці беларуса, кінутага ў цемру нявольніцтва, таму пачатак верша гучыць як скарга, нараканне:

*Ой, нашто ж мне дана тая мая мова,*
*Як я не умею сказаць тое слова,*
*Каб яго пачулі, каб яго пазналі,*
*Каб яго, то слова, ды п р а ў д а й назвалі*[17].

Праўда беларускага шляху была, паводле К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча, у сцвярджэнні свабоднага і роўнага жыцця беларусаў сярод іншых народаў, у пазбаўленні ад ланцугоў, якімі бразгала айчына. Але Божая праўда для беларускага народа «схавалася недзе», як пісаў Ф. Багушэвіч у вершы «Як праўды шукаюць». У гэтым жа вершы паэт узнімаў і тэму царскага суда, які яшчэ больш заблытаў паняцце праўды для беларусаў. Вось тут менавіта прыдалася судовая практыка адваката Францішка Багушэвіча, які меў усе падставы ўсклікнуць вуснамі Мацея Бурачка: «Як камень у ваду, так праўда прапала!»[18]. А дзе ж, аднак, выйсце?



Капліца ў Кушлянах. Фота аўтара.

Яго, як ні дзіўна, паэт прапанаваў у вершы «Не цурайся» са зборніку «Смык беларускі».

Выйсце прачытваецца ўжо ў першых радках, якія традыцыйна ўспрымаюцца як заступніцтва Багушэвіча за беларускага селяніна перад панамі — трутнямі, што толькі карысталіся з сялянскай працы. Верш ад імя селяніна ставіць важныя грамадскія пытанні: і «гнілой» хаты, у якой жыве беларус, і адсутнасці асветы («А гдзе ж ксёнжка для нас, мужыкоў?»), што магла б даць магчымасць беларусу стаць дбайным гаспадаром у сваім краі, і спараджэння з-за адсутнасці гэтых элементарных дабротаў у сэрцы беларуса-селяніна злосці, нянавісці, «якія да здрады вядуць, ад праўды адводзяць»[19], — адводзяць ад канструктыўнага, не гвалтоўнага вырашэння грамадскіх праблемаў. Беларускі шлях да праўды — гэта шлях да адраджэння ў любові, а не ў нянавісці, зайздрасці і гвалце. Гэта шлях нацыянальнага і сацыяльнага пазітывізму, асвечаны высокім рэлігійным ідэалам Божай Праўды.

---

[1] Станкевіч А. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008. – С. 262.
[2] Сваяк К. Ф.Багушэвіч – пясняр беларускі // Крыніца, 1920, 22 лют.
[3] Багушэвіч Ф. Творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 16–17.
[4] Кісялёў Г. Францішак Багушэвіч // Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў: У 2 т. Т. 2 – Мінск: Бел. навука, 2007. – С. 387.
[5] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры – Мінск: Маст. літ., 1992. – С. 260–261.
[6] Запрудскі І. Евангелле ад Мацея, або таямніцы творчасці Францішка Багушэвіча // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Выпуск першы. – Мінск, 2001. – С. 24.
[7] Содаль У. Блаславёныя Кушляны. – Мінск: Кнігазбор, 2009. – С.18.
[8] Тамсама. С.37.
[9] Багушэвіч Ф. Творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 19.
[10] Конан У. Біблейскія архетыпы і сімвалы ў беларускай літаратуры // Беларусь паміж Усходам і Захадам. Праблема міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу, сінтэзу. Ч. 1. – Мінск: ННАЦ імя Ф.Скарыны, 1997. – С. 174.
[11] Багушэвіч Ф. Творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 66.
[12] Тамсама. С.106.
[13] Тамсама. С. 30
[14] Гісторыя беларускай літаратуры: XIX – пачатак XX ст. – Мінск: Вышэйшая школа, 1998. – С. 132.
[15] Багушэвіч Ф. Творы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – С. 54.
[16] Тамсама. С. 30.
[17] Тамсама. С. 29.
[18] Тамсама. С. 22.
[19] Тамсама. С. 87.



Аркадзь Шпунт

# Анёлы

## Нататкі рэстаўратара

*У тое, што ёсць троны, панаванні, начальствы і ўлады*
*ў нябесных святліцах, непарушна веру, і тое,*
*што яны адрозніваюцца паміж сабою, разумею без сумненняў;*
*але якія яны і ў чым менавіта адрозніваюцца, не ведаю...*

Святы Аўгустын

Анёлы — не там, дзе «Gloria mundi», якая «sic transit», але «на вышынях», «высакосцях», на нябёсах... і там, дзе прамяністая Слава — абраз Богаз'яўлення — завяршае святыя алтары...

Анёлы і херубімы пырхаюць, куляюцца, усядаюць на аблоках. І рэстаўратар працуе ў гэтым мілым анёльскім сонме, карпатліва вяртаючы нябесным істотам пазалоту іх крылаў і праменьчыкаў. Воблакі, пранізаныя «выпраменьваннем Яго моцы, звернутай да свету», набываюць святло срэбра, і сярод гэтых нябесных жыхароў раптам можна богабаязна ўявіць і сябе, нявартага, у надзорных палацах...

Па анёльскіх мерках гэтая вышыня зусім мізэрная, але чалавеку здаецца высокім усё, што «над зямлёю». Рэстаўратар у адзіноце працуе на рыштаваннях пад скляпеннем касцёла, дзе стагоддзямі збіраліся шэпты малітваў і гукі аргана, вібруючы, туліліся да тынкоўкі, прапітанай водарамі ладану і воску. Рэстаўратар працуе з выразанай з ліпавай драўніны паліхромнаю выяваю анёла і суправаджае сваю марудную працу дылетанцкім роздумам... пра анёлаў...

У прасторавым кантынууме прысутнасць анёла можна разглядаць як цалкавіты нуль, і колькі іх змяшчаецца на кончыку іглы — «вопрос, конечно, интересный» з незапамятных часоў... Але калі ў штодзённай мітусні, у клопатах пустых, і нават не пустых, вашая душа на імгненне (якое вы ўсё ж паспелі адзначыць) раптам адчула спакой і цішу, значыць да яе дакрануўся *ён* — Анёл Божы.

І калі, беручыся за справу, у сумненнях і ваганнях, вы раптам адчулі, што «немаведама адкуль» на вас нарэшце сышла патрэбная думка або ява, якая прынесла адзіна правільнае слова або рашэнне, простае, як усё геніяльнае, ведайце — гэта не вынік вашага мудравання, а гэта анёл агарнуў сваімі крыламі вас і вашу працу, гэта яго святло прасвятліла вашу душу. І калі вы за рулём аў-

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

тамабіля не імкнецеся абагнаць свайго анёла-ахоўніка, вам не пагражаюць «дарожна-транспартныя здарэнні»...

У крылатай істоце кожны з нас пазнае анёла, хоць і ніколі не бачыў яго. Пасланнікі нябесных сфераў, сыны і слугі Божыя, яны спраўна нясуць нам сваю вестку, папярэджваюць, ахоўваюць, атуляюць, але і выпрабоўваюць, і адварочваюцца, і пакідаюць, калі заслугоўваеш... Праз іх адбываецца судакрананне безаблічнага з тым, што мае аблічча. Яны лунаюць у свеце духу, далятаючы з хуткасцю імгненнай думкі ў наш час і нашу прастору. Галоўным камандуючым нябесным воінствам людзі далі імёны для ўласнай зручнасці — іх назвалі арханёлам Габрыэлем і арханёлам Міхалам для таго, каб па-чалавечы адрозніваць Божае благаслаўленне і Божую моц.

Менавіта анёл не дазволіў Абрагаму прынесці ў ахвяру Ісаака. Два анёлы «прыйшлі ў Садом увечары, калі Лот сядзеў каля варотаў Садома». Якуб нават змагаўся з анёлам і потым усё жыццё кульгаў. Майсей бачыў анёла ў палаючым кусце неапальным. Анёл вёў ізраэльцянаў праз бясплодную пустыню. І менавіта хор анёлаў у Святую ноч абвясціў Нараджэнне Пана нашага і Збаўцы — Езуса Хрыста... Але іх немагчыма ўбачыць нават самымі яснымі вачыма веры. Толькі біблейскія прарокі бачылі анёлаў у праявах Божых, калі раптам «расчыняліся нябёсы».

Усе геніяльныя думкі і прасвятленні паходзяць менавіта адтуль, з нябеснага прыстанку анёлаў. А можа анёлы — гэта свайго роду геніі? Або геніі — гэта анёлы, але адпалыя, сярод якіх ёсць і злыя, тыя, што ў працэсе пазнання вядуць чалавецтва немаведама куды?..

Геніі адкрываюць для смяротных усё новыя далягляды светабудовы і жыццё найдрабнейшай клеткі, яны расшчапляюць атам, ствараюць клоны і часцінкі небывалых на зямлі рэчываў, каб запоўніць пустыя месцы ў табліцы, аднойчы ўбачанай геніем у прарочым сне... а можа, паказанай яму ў сне анёлам?

Геніі ўмеюць здабываць з металічных і драўляных інструментаў пры дапамозе клапанаў і воласу з конскага хваста ўласным дыханнем або рукамі незямную, нечуваную ў прыродзе музыку. Яны ствараюць найпрыгажэйшыя мелодыі, падслухоўваючы іх у анёлаў, хоць гавораць, што анёлы іграюць адзін для аднаго Моцарта, і Пан Бог радуецца, слухаючы іх (так гаворыць Карл Барт, а яму гэта найлепш вядома).

Геніі адкрываюць нам невядомыя глыбіні і сэнсы роднай мовы, якой мы карыстаемся з маленства. Перадаючы ў фарбах свае ўяўленні, геніі нібы раскрываюць вялікія і малыя вокны ў свет нябачных і неспазнаных сутнасцяў, робячы іх хаця б бачнымі. Натхнёнае ўяўленне мастака стварае для нас увасоблены, бачны вобраз анёла.

У шэдэўрах сусветнага выяўленчага мастацтва анёлы — гэта ўсяго толькі чалавечая фантазія, творчае ўяўленне мастакоў пра нябачнае і бесцялеснае. Сваё ўяўленне пра нябесных жыхароў людзі больш ці менш пераканаўча ўвасобілі ў скульптуры, жывапісе і, вядома ж, у літаратуры.

*И тихо предо мной*
*Встают два призрака младые,*
*Две тени милые — два данные судьбой*
*Мне ангела во дни былые!*
*Но оба с крыльями и с пламенным мечом.*
*И стерегут... и мстят мне оба.*
*И оба говорят мне мёртвым языком*
*О тайнах вечности и гроба.*

Той, хто «духовной жаждою томим», сустрэўшы на раздарожжы шасцікрылага серафіма накшталт таго, што бачыў Эзэхіэль, становіцца пракам у выніку жорсткай аперацыі, зробленай херубімам у яго ротавай поласці. І тады слова паэта становіцца прарочым, і тлумачыцца, і растлумачваецца бясконца, і кожны спасцігае яго ў адпаведнасці са сваім розумам, са сваім узроўнем... так, менавіта ў адпаведнасці.

Напрыклад, знаўцы творчасці Аляксандра Пушкіна бачаць у адным з двух яго анёлаў цалкам канкрэтную даму (Амалію Рызніч), профіль якой паэт не раз накрэсліў на палях чарнавікоў «Яўгенія Анегіна». Пра другога анёла яны прыдумаць нічога не змаглі, а проста ўявіць, што геній меў на ўвазе менавіта анёлаў Божых, якіх ён, магчыма, і бачыў, ім перашкодзіла, па-першае, перакананасць у тым, што бачыць нябачнае немагчыма, бо яно нябачнае, а па-другое, уласная не геніяльнасць. Між тым, ім варта было б удзяляць больш увагі рэлігійнаму аспекту асобы Пушкіна і яго паэзіі. Аляксандр Сяргеевіч, вядома ж, толькі тое і рабіў, што вершы складаў, палежваючы на кушэтцы, ды за шлейфамі валачыўся, аднак асмелюся думаць, што не пра жанчынаў ідзе гаворка, *«когда для смертного умолкнет шумный день»*, і *«с отвращением читая жизнь мою, // Я трепещу и проклинаю... // И нет отрады мне...*

Зрэшты, нікому не прыходзіла ў галаву шукаць палюбоўніцаў каля Пятра Вяземскага, які таксама напісаў пра двух анёлаў:

*На жизнь два ангела нам в спутники даны*
*И в соглядатаи над нами:*
.......................................................................
*Поспешно добрых дел возносит список свой*
*Один к стопам Отца — Владыки,*
*Другой всё ждёт: авось раскаянья слезой*
*Не смоются ль на нас улики?*

* * *

...Серабрэнне акіслілася, пацямнела. Калісьці ясныя разьбяныя аблокі, якія сімвалізуюць Божую таямніцу і патаемнасць, ператварыліся ў змрочна-навальнічныя, а выявы анёлаў, страціўшы пад слаямі панаўленняў, пылу і копаці барочна-гуллівае аблічча, паныла глядзелі на мяне... у чаканні рэстаўрацыі.

У пінскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі не пералічыць гэтых крылатых і пуцатых насельнікаў алтарных аблокаў, сярод якіх ёсць і тыя, што музыцыруюць. Нават ксёндз Казімір збіўся, пералічваючы іх, у чым і прызнаўся Уладзіміру Караткевічу, які наведаў касцёл над Пінай-ракой падчас свайго падарожжа па Палессі.

Тады савецкая цэнзура не дазваляла пісьменнікам згадваць добрым словам святароў ці называць ксяндза ксяндзом. Слова «анёл», праўда, не забаранялася, бо бесцялеснае не страшыла чыноўнікаў атэістаў, якія намагаліся дазіраваць думкі і ў галовах «народнай масы», і ў галовах асобных грамадзянаў, якімі, зрэшты, яны і займаліся таксама асобна. Але гэта так, між іншым, як бывала казаў ксёндз Казімір... і як сёння часам гаворыць ксёндз кардынал Казімір Свёнтэк.

Ксёндз Казімір, несумненна, высветліў бы, колькі анёлаў у яго «гаспадарцы» — не такі ён чалавек, каб пакідаць важную справу незавершанай. Аднак, думаю, ён вырашыў, што анёлы, нават калі яны драўляныя, павінны быць вольнымі. А якая ж воля, калі ты на ўліку... Кардынал Казімір Свёнтэк ведае гэта як ніхто...

* * *

...Анёл, які благаслаўляе парафіянаў крыжам, зусім маленькі, але быццам цягне за сабою барочную грамадзіну амбоны фарнага гродзенскага касцёла. Ён злятае з парэнчаў катэдры ў напрамку да галоўнага алтара, рызыкуючы згубіцца ў мностве скульптуры і дэкаратыўнай разьбы.

Майстар, не прымацаваўшы анёлу крылаў, усё ж увасобіў яго ў палёце, надзяліўшы ліпавую цурку лёгкасцю і рухам. Бесцялесны жыхар неба, заляцеўшы ў запаведную прастору, абмежаваную касцёльнымі сценамі, назаўсёды застаўся ў настоі часу, быццам матэрыялізаваўся, набыўшы бачныя, асязальныя формы. Тонкі бязважкі крыж у руках анёла-пуцці здаецца больш важкім за яго самога з усімі яго цялеснымі складачкамі, перавязачкамі, акругласцямі. У гэтым ёсць нейкі падман зроку або эфект, якога дамогся майстар. Дзіўнае гэта ўменне разьбяра, яго майстэрства абыходзіцца з матэрыялам і інструментам, але пра гэта нават не задумваешся. Менавіта таму, відаць, і не задумваешся. Не йначай сам анёл Божы лунаў каля пляча майстра падчас працы, бо матэрыяльна-драўляная сутнасць скульптуры нясе ў сабе больш, чым дасканала зробленая выява.

Гэта напалову містычнае «больш» нельга ні ўзважыць, ні змерыць. Але, відаць, гэта якраз тое, што ператварае расфарбаваную драўляшку ў адухоўлены вобраз, сузіраннем якога немагчыма перанасыціцца... У тленным — нятленнае? Сапраўды: «Народжанае ў Духу ёсць Дух».

Раскрываючы з-пад запісу вытанчаны роспіс усмешлівага аблічча, рэстаўратар часам бярэ анёла на рукі і носіць яго, прыціскаючы да сябе, і перажывае пры гэтым тое, што амаль немагчыма перадаць словамі. Замілоўваешся да слёз, гледзячы на кранальныя складачкі-перавязачкі і на той падзіцячы непасрэдны рух, з якім анёл чыніць знак крыжа, і называеш яго словам ціхім, як ласкавы подых ветрыку, — «анел». Беларускае «анел», «анёл» больш пасуе гэтым нябесным стварэнням, чым вуглаватае рускае «ангел»...



Фрэска з пінскага катэдральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

* * *

*Рэцэпт настою часу.* Звыклы час, трапляючы з вуліцы ў прастору, абмежаваную сценамі двухсотгадовай і яшчэ большай даўніны, настойваецца сам па сабе. Але лепшыя настоі з выдатнымі лекавымі ўласцівасцямі атрымліваюцца ў навах старадаўніх Божых святыняў, дзе ў большую частку мінулага дадаецца, апрача сённяшняга, яшчэ і будучыня, аб гістарычных пераўтварэннях якой у «іншым свеце» нешта вядома хрысціянам.

Асаблівыя настоі, якія маюць нязвыклыя ўласцівасці, утвараюцца на святых рэліквіях і цудадзейных абразах, якія ўвесь час нябачна атуленыя анёламі і херубімамі, а сумесь мінулага, сённяшняга і будучага вакол іх атрымліваецца настолькі аднароднаю, што час, набываючы ўласцівасці экстракту, некалькі кропляў якога робяць яго цудоўным, увогуле спыняецца.

Каб атрымаць якасны настой часу, яго штодзённа «прыпраўляюць» меладычным перагукваннем срэбных званочкаў, якія абвяшчаюць пачатак набажэнства, а таксама таямнічым змрокам спавядніцаў і шызым дымам, што з веку ў век, адрываючыся ад разгайданага на ланцужках кадзіла, раствараецца ў часе, насычаючы яго хвалюючым пахам ладану.

Такія «інгрэдыенты», як гучанне аргана і хору агульнай малітвы, таксама надзвычай спрыяюць атрыманню якаснага настою, што ўвасабляецца ў бачным праяўленні анёлаў. Іх у касцёле заўсёды больш, чым парафіянаў, бо, апрача анёлаўахоўнікаў для кожнага, над галовамі людзей лунаюць анёлы-суцяшальнікі, выканаўцы розных просьбаў, дарадцы, лекары... Таму ў святынях столі такія высокія, каб у выпадку агульнага ўвасаблення анёлаў ім усім хапіла месца. У звыклым жа анёльскім стане яны, як вядома, здольныя ўсе разам змясціцца на кончыку іглы, бо не толькі ў прасторавым, але і ў часавым кантынууме звыклую прысутнасць анёла можна разглядаць як абсалютны нуль.

Настойваючыся, час мае ўласцівасць асядаць у ападак слаямі пылу, копаццю свечак і гарэччу малітваў пра нязбыўнае. Выдаленне ападку павінен рабіць кваліфікаваны спецыяліст-рэстаўратар. Калі ападак не выдаляць, час памутнее, страціць сваю моц. Шчыльнасць і вязкасць настою часу павінны быць такімі, каб анёл, трапіўшы ў яго, з'яўляўся ў бачных абрысах, а людзі набывалі стан дзіўнай бязважкасці і той дар провіду, пры якім «гісторыя вучыць»...

Такі настой, праз доўгія гады, сёння зноў утвараецца ў абноўленых, але не страціўшых памяць сценах мінскага архікатэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

300 гадоў для анёлаў увогуле не тэрмін, але для чалавека, асабліва беларускага, у гэтых стагоддзях было мноства пачаткаў без пачатку, і канца ім не відаць. Колькі разоў «раскідалі камяні і збіралі камяні?» Ужо ніхто і не падлічыць. Гісторыя катэдральнага касцёла ў Мінску — яскравае ілюстрацыя да гісторыі нашай Айчыны. Але кожная гісторыя больш пераканаўчая і праўдападобная, калі яна абапіраецца на фундамент пабудовы старажытнай закладкі, калі на цудам ацалелых сценах і скляпеннях гэтай пабудовы раптам узнікае цудам захаваны роспіс трохсотгадовай даўніны і анёлы XVIII стагоддзя распасціраюць свае крылы над нашымі галовамі, быццам звязваюць перарваную, здавалася б, нітку часу... І меладычнае перагукванне званочкаў, такое жаданае для слыху анёлаў, зноў абвяшчае пачатак святой Імшы ў касцёле, напоўненым барочнаю радасцю святла, склікаючы да алтара і нябачных нябесных істотаў. Сёння, як і 300 гадоў назад...

І — «хвала на вышынях Богу, а на зямлі супакой людзям добрай волі...»



Фрэска з пінскага катэдральнага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.



Юлія Шэдзько

# Рымская мазаіка

**Юлія Шэдзько —**
супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Нарадзілася 29 ліпеня 1986 года ў Віцебску. У 2003 годзе скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. Піша вершы і прозу, займаецца перакладамі. Друкавалася ў зборніках «In Vilnia veritas» (2007), «Сьвятая праўда ды іншыя казкі» (2010). Пераможца конкурсаў маладых літаратараў да 100-годдзя газеты «Наша Ніва» і памяці Карласа Шэрмана.

I

*Romani tempus* —
Час у Рыме не рушыць.
Не рушыць па лініі:
З Усходу на Захад,
З раніцы ў ноч.
Час у Рыме падобны
На дарычную калону,
Якая расце проста з зямлі,
Нагрэтая сонцам, шурпатая
Ад пацалункаў вятроў.
Што можна прачытаць
На тваёй рысаванай далоні,
Пра што раскажуць расколіны
Твайго мармуровага цела?
Што хаваюць карані,
Якімі ты ўрасла ў зямлю?
Скоціцца кропля крыві
Па мармуровай рабрыне —
Разец Майстра праводзіць па камені,
Адсякаючы лішняе.
Так ствараецца каланада
Ўрослых каранямі ў зямлю,
Галавою — ў неба.

Час у Рыме
Кропляю бурштынавага мёду
Цячэ з пальцаў Скульптара,
Які на хвіліну пакінуў разец.
Ён — празрысты і пахкі,
Настояны на палыне
І голках рымскіх піній,
Час смалісты і вязкі,
У якім застываюць
Святыні, палацы, вуліцы,
Анёл на прыступках Гішпанскай лесвіцы
З каляровым марозівам у руцэ...
Можна ўзяць застылую кроплю пальцамі
І без канца разглядаць
Рым — італійскі бурштын,
Рым — каменную папараць-кветку,
Рым, дзе час
блукае па плошчах, дварах, завулках —
стары *romano*, што забыўся на лаве ля Форуму
свой капялюш,
а сонца сёння так моцна пячэ.

II

На калоне, паваленай набок,
Сядзіць шэрая котка
І намывае гасцей.
Калі спусціцца
Празрысты ружовы рымскі вечар,
Яны прыйдуць — цені
Валадароў і святых,
Ахвяраў і катаў.
Сядуць побач, дастануць гліняныя кубкі
І разліюць віно,
Церпкае, трошкі гаркавае,
Чырвонае, як кроў.
Будуць сядзець да самага ранку,
Узгадваць, уздыхаць,
Чытаць вершы на мове звонкай, як медзь,
Густой і салодкай, нібы мёд.
Будуць пагладжваць котку,
Што разлеглася на цёплым камені.
Знікнуць раніцаю,
Пакінуўшы пасля сябе адно
Ўрачыстае рэха вершаў
На шурпатых сценах.

III

Гэты Рым я забяру з сабою,
Рым пад празрыстым купалам
У шарыку, які я так і не набыла
Ў гандляра-албанца
На *Via del Corso*, у апошні вечар.
У ім велічную *Santa Maria Maggiore*
Ўсё засыпае каляровым бліскучым снегам...

Гэты Рым я забяру з сабою,
Захаваю яго пад тонкім купалам
сваіх успамінаў
Ад гарачыні такой невыноснай,
Што ад яе плавяцца камяні,
Ад смагі, якую немагчыма спатоліць
Нават глыбокай прахалодаю неба.
На яго глядзіш і разумееш,
Што раней і не ведаў, што такое сіні...
Які заўгодна: шэры, блакітны,
колеру выцвілага лёну — але сіні
можа быць толькі тут.

Забяру з сабою той Рым,
Дзе ніколі не здагадаешся, што ўбачыш,
Калі павернеш на рагу вуліцы
І міжволі чакаеш, як малое дзіця:
Як складуцца навакольныя прадметы,
Прастора, час —
Якую мазаіку створаць шкельцы,
Які малюнак пакажа калейдаскоп?
Мне асабліва дарагі адзін:
На паўразваленай сцяне
Сляпая багіня на трэць выступае з каменя,
Узіраючыся на касцёл Святога Імя Марыі,
Што насупраць.

*2009–2010*

# Наш зямляк — Рышард Курыльчык

Рышард Курыльчык — вядомы ў Польшчы пісьменнік, дзяржаўны дзеяч, гаспадарнік. Вядомы найперш сваімі гістарычнымі творамі. Нездарма яго называюць апошнім з магіканаў гістарычнай прозы. А ён, насуперак розным меркаванням, нястомна пашырае ўсё новыя гарызонты адзін раз і на ўсё творчае жыццё абранага абсягу, зноў і зноў заглыбляецца ў далёкія ад нас дні (не толькі польскай гісторыі), каб глыбей і выразней зразумець падзеі сённяшнія, у тым ліку, а мо найперш, сусветныя. І мае ў гэтым поспех. Каб пераканацца ў гэтым, зазірніце хоць бы ў яго гістарычную аповесць «Славянскі світанак», якая ў перастварэнні на беларускую мову ў 2007 годзе выйшла ў мінскім выдавецтве «Чатыры чвэрці» і прысвечана дагэтуль не да канца прасветленай тэме з'яўлення на свеце славянаў.

Аповесць «Нязломны з Назарэта» — адказ на няпростае для кожнага верніка пытанне: кім лічыш ты Сына Чалавечага? Аднак гэта не рэлігійны тэкст. Гэта бачанне тых падзеяў, і найперш самога ўкрыжавання Хрыста, вачыма сённяшняга аўтара.




Ды ўсё ж не пазбаўлена аповесць і палітыкі, бо без яе не тварыліся тыя далёкія падзеі. Палітычная драма дзяржаўных кіраўнікоў скрыжоўвалася з чалавечымі лёсамі. І таму, магчыма, аўтар паказвае віноўнікаў Хрыстовай драмы, якія глыбока ўкручаныя ў палітыку, самі ствараюць палітыку, думаюць і жывуць палітыкай. Палітыка вызначае іхнія паводзіны і дзеянні, не заўсёды апраўданыя і не ўсюды справядлівыя.

Але хто ж тады для іх Хрыстус? Кім яны лічаць Яго? Як ставяцца да Яго? Вядомая рэч — найперш і ў галоўным як да палітыка, аднаго з іх, але адначасна і як да суперніка (хоць і беспадстаўна). А што ж з гэтага вынікае? Як стасуецца гэта з іх уласным лёсам, з лёсам народаў, на чале якіх яны стаяць, як уплывае на лёс самога Хрыста?

Складанае пытанне. Як адказаць на яго, каб не схібіць, не адступіць ад праўды часу і праўды гісторыі, не прынізіць вобраз Збаўцы?

Аўтар сілай свайго ўяўлення і таленту намагаецца як мага праўдзівей і найбольш справядліва паказаць, як імя Хрыста неаспрэчна ўваходзіць у тагачасны свет палітыкі. Але якім чынам? Як крыніца страху для адных і як крыніца веры і надзеі для іншых. Што ж пераможа? Як жыццё і слова Хрыста ў тым разбэрсаным часе (зрэшты, і ў сённяшнім таксама — неспакойным, выбухова небяспечным і мітуслівым) дапамогуць змяніць свет, змяніць сэнс чалавечага існавання? І пра гэта таксама аповесць «Нязломны з Назарэта». Нездарма ж Ён сам, Ягонае вучэнне і Ягоны ўзняты над зямлёю крыж пакутаў, на якім Яго пазбавілі зямнога жыцця, занялі ўвесь небасхіл — увесь Сусвет. А тыя, хто прыніжаў Яго, не прызнаваў, плішчыўся на ўладную вяршыню і быў там, самі апынуліся калі не ў забыцці, дык ў Ягоным цені. Так сцвярджаецца ў аповесці.



Варта дадаць, што Рышард Курыльчык — наш зямляк. Ён нарадзіўся 8 мая 1945 года ў в. Дзедзіна, на Браслаўшчыне. Па прафесіі інжынер-канструктар — будаўнік вялікіх электрастанцый, у тым ліку атамных. У творчасці аддае перавагу насычанаму і выразнаму, пафіласофску напоўненаму зместу, а не аб'ёму сваіх твораў. Таму і чытаюцца яны з нязменнай цікавасцю нават моладдзю, якая не надта прыхільная да шматаб'ёмных кніг.

*Анатоль Бутэвіч*

Рышард КУРЫЛЬЧЫК

# НЯЗЛОМНЫ З НАЗАРЭТА

| | |
|---|---|
| *Horae...* | Гадзіны... |
| *vulnerant omnes* | усе раняць |
| *ultima necat* | апошняя забівае |

| | |
|---|---|
| *Hora octava* | Гадзіна восьмая |

— Я склікаў пасяджэнне Сінедрыёну ў поўным складзе за два дні да свята Пасхі, бо прызнаў, што момант з'яўляецца асаблівым — вырашаюцца лёсы Закона, Права і Ерузалема. У такі момант, як архісвятар, я не магу — а таксама і ўсе вы, дастойныя члены Сінедрыёну, бездапаможна назіраць, як развіваюцца падзеі. Мы павінны тлумачыць гэтыя падзеі і ўплываць на іх так, каб яны адбываліся з найбольшай карысцю для святыні і ўсяго габрэйскага народа. Гэта наш самы святы абавязак!

Я склікаў вас і з іншай прычыны. Нядаўна мы праводзілі пасяджэнне Рады Сінедрыёну, на якім насуперак маёй волі Рада не хацела прызнаць выдадзенага мной прысуду «σκαμματα» на Езуса Галілеяніна...

— Бо трэба, Каяфу, прытрымлівацца патрабаванняў Закона!

— Не перапыняй мяне, Нікадзіме! Будзеш мець свой час, каб выказацца. Сабраў вас і дзеля таго яшчэ, што перастаў верыць некаторым членам Рады, якія не толькі не падпарадкоўваюцца майму кіраўніцтву, але і не выконваюць прынятых рашэнняў, становяцца, не адважваюся гэта прамовіць... здрайцамі!

— Гэта ўжо занадта! Я пратэстую!

— Дай гаварыць мне, Анане!

— Ціха! Ціха!

— Каяф мае слова!

— Ведаю, разумею цяжар папрокаў у здрадзе. Маю, аднак, не толькі намер, але і доказы — каб папракаць! Маўчыце зараз усе, гэта добра! Хачу, каб вы, не перапыняючы, выслухалі мяне, а пасля самі вырашыце, ці маю рацыю. Члены Рады папракалі мяне, што, выдаючы прысуд «skammata», я не выставіў абвінавачанага перад трыбуналам, што не даў яму двух сведкаў абвінавачання. Добра, калі гаворка пойдзе наконт такой патрэбы, магу зрабіць і адно, і другое. Кажуць таксама, што прысуд не быў аб'яўлены ў сінагогах. І гэта магчыма зрабіць пры ўмове, што ўсе мы аднолькава ацэнім абвінавачанага, альбо, калі ацэнцы большасці — згодна з Законам — падпарадкуюцца іншыя. Не хачу сёння закранаць пытанне абгрунтаванасці прысуду, пагодзімся, што ён быў прыняты не ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона, а, значыць, з'яўляецца несапраўдным. Мяне клапоціць наша агульная ацэнка дзейнасці Езуса з Назарэта. Усе пагадзіліся, што Ён здзяйсняе справы, якія дазваляюць прызнаць Яго прарокам, але ж ніхто таксама не запярэчыць, што, калі б быў чаканым Месіяй з роду Давіда, мае святы абавязак выступіць супраць рымлянаў, а не супраць нас. Колькі ж разоў нагаворваў Ён у сінагогах на фарысеяў і нават на садукеяў? Хіба не абвяшчаў святатацкіх навукаў, якія супярэчаць Закону? Вылечваў хворых, але ў шабат! Хіба не казаў пра сябе «Я ёсць», што прызначана, як наказваюць кнігі, для Бога?! Пастаянна, у кожным месяцы абыходзіў Закон і незалежна ад гэтага, насуперак маім загадам, свабодна ходзіць па Ерузалеме, павучае ў святыні. А хто ахоўвае Яго? Фарысеі! Не, не пярэчце — прашу вас. Ведаю, і маю доказы, што рэбе Нагума таемна сустрэўся з Галілеянінам у доме начальніка мытнікаў у Ерыхоне. А мо я памыляюся, што сустрэча была таемнаю? Мо Сінедрыён ці Рада даручылі яму дамовіцца з Назаранінам? Хіба такую недысцыплінаванасць у Сінедрыёне магу назваць я іначай, як здрада?

Калі Езус прамовіў у святыні, пра што ўсе вы ведаеце: «Перш, чым з'явіўся Абрагам, Я ёсць!» — я загадаў затрымаць Яго за гэтае святатацтва. І што атрымалася? Абароненыя латамі, падлеглыя сынам Анана, не выканалі майго загаду. А мо я зноў памыляюся, мо архісвятары не падпарадкоўваюцца воінам Сінедрыёну, можа, змяніўся Закон? Маўчыце? А я лічу гэта здрадай! Тым больш, што не затрыманы, а папярэджаны Назаранін схаваўся над Ярданам, на зямлі, падлеглай Іраду Антыпу, і таму стаў для нас недасягальным. А ў схове меў час падрыхтаваць нешта, што магло б змяніць Ягоную сітуацыю. Разам са сваім прыяцелем Лазарам з Бэтаніі і ягонымі сё-

страмі — Марыяй і Мартай — яны наладзілі імпазантны спектакль. Лазар нібыта памёр і ажно чатыры дні ляжаў у зачыненай каменнай труне. Езус прыйшоў да яго і... Лазар уваскрос! Ці ведае хто з вас выпадак уваскрасення ва ўсёй нашай гісторыі? Магчыма, і быў бы здольны уваскрэснуць з мёртвых Месія, але хто такі той Лазар? Таксама Месія? Просты люд верыць такім паказам, штораз усё больш паспалітага люду выказваецца за Езуса.

Праз некалькі дзён Пасха. Прыйдуць вернікі ў святыню і мне, і вам зададуць пытанне: «З'яўляецца Той, чыімі стараннямі паўстаў з мёртвых Лазар, прарокам і Месіяй, ці не з'яўляецца?» Што адкажам тады? Ужо сёння Яго прызнаюць прарокам, Месіяй не толькі ў асяроддзі простага люду. Ці мо назваць імёны фарысеяў, якія спрыяюць Езусу?! Не маю рацыі, Нікадзіме? Хіба не так, Юзэфе? Некаторыя з вас абараняюць Яго, ад каго? Ад нас. Неразумныя, хочуць пачуць часовае адабрэнне простага натоўпу. Не бачаць ніякай пагрозы для святыні і Закона ў тым, што прамаўляе Галілеянін?! Калі не бачыце і не чуеце, то будзьце асцярожнымі хоць бы цяпер: Езус кажа, што ўсе могуць належаць да Закона, дастаткова, што яны паверацьу нашага Бога. Кажа, што да Закона можа належаць і самаранін, горай — можа належаць паганін араб, яшчэ горай — можа належаць нават рымлянін! Якое слова просіцца на вусны? Абурэнне! Выберыце таго Галілеяніна архісвятаром. Няхай з'едуцца ў Ерузалем усе пагане. Упусціце іх у святыню, фарысеі? Не на дзядзінец паганаў, а ў с в я т ы н ю ?! Найлепш у месца «святое са святых», бо — паводле вучэння Езуса — яны з'яўляюцца роўнымі з вамі ў веры... Негры, арабы, рымляне! Цэлыя табуны «верных паганаў». А мы што? Будзем прадаваць ім з латкоў забаўкі? Наш Закон стане непатрэбным, яны прынясуць нам новы, свой, рымскі! На самай справе хочаце гэтага? Калі ёсць сярод вас тыя, хто не хоча, няхай жа паслухаюць, што сказаў я Радзе: «Для нас лепш, калі адзін чалавек памрэ за свой народ, чым мог бы згінуць цэлы народ праз аднаго чалавека!» Я скончыў.

А цяпер хачу паставіць на тайнае галасаванне пытанне: павінен Езус з Назарэта памерці ці не? Калі так — даверце мне яго затрыманне і сам працэс. Абяцаю, што ўсё будзе найбольш поўна адпавядаць патрабаванням Закона. Калі не — выберыце архісвятаром Езуса! Анане — ты бацька трыбуналу, таму праводзь галасаванне і абвясці, які вердыкт прыме Сінедрыён...

— Нас семдзесят адзін. Усе аддалі свае галасы. За смерць Езуса з Назарэта было шэсцьдзесят восем, трое выказаліся супраць. Абвяшчаю, што прынятая сёння пастанова абавязковая для ўсіх нас, а калі нехта з ёй не згодны, ён павінен быць выключаны з сінагогі. Рэкамендую, каб прысуд Сінедрыёну быў абвешчаны народу!

*Hora nona* Гадзіна дзевятая

— Выбачай, Анане, што знайшлі цябе такой позняй парой, але ж і справа надта пільная, бо да мяне прыйшоў адзін з вучняў Езуса і назваў месца, дзе Ён знаходзіцца.

— Дзе Ён і хто выдаў Яго, Хелкія?

— Разам з вучнямі Ён знаходзіцца ў Гэтсіманскім садзе, непадалёк ад дома сваёй крэўнай Марыі — жонкі Клеопы, якая з'яўляецца маткай Якуба Юды. А выдаў яго Юда з Карыётаў. Згодна з традыцыяй я заплаціў яму з касы Сінедрыёну. Даў яму трыццаць сярэбранікаў, як за наўмыснае забойства нявольніка. Не хацеў вырашаць сам, калі трэба затрымаць абвінавачанага, таму паведаміў кіраўніку воінаў Сінедрыёну, і вось я з тваім сынам — у цябе.

— Ці паведамілі ўжо Каяфу?

— Без тваёй волі?

— Добра зрабілі. Падумаем разам, як будзе лепш. Калі пачакаем да світання, могуць перайсці ў іншае месца. Таму неабходна затрымаць Езуса сярод ночы, на гэта Ён не будзе разлічваць.

— А што, ойча, з іншымі, каторыя з Ім?

— Прысуд Сінедрыёну тычыцца аднаго Езуса, і толькі яго неабходна затрымаць, астатніх трэба разагнаць, хіба што будуць супраціўляцца. Тады ты ведаеш, што рабіць. Нам патрэбны Назаранін. Колькі часу спатрэбіцца табе, сыне, на збор збройных?

— Не больш за гадзіну.

— А можаш звярнуцца да тваіх знаёмых легіянераў, каб некалькі іх было з вамі?

— Але я дам рады і сам са сваімі збройнымі, легіянеры мне не патрэбны!

— Не давай волю амбіцыям. Веру, што ты выдатна справішся сам, аднак гаворка ідзе пра тое, што прысутнасць легіянераў пры затрыманні Езуса дазволіць нам сказаць рымскаму пракуратару, што мы зрабілі гэта разам...

— Акурат пра тое, Анане, я таксама думаў, але што, калі Понцій Пілат не зацвердзіць прысуду Сінедрыёну?

— Гэтая справа і мяне пазбаўляла сну з часу апошняга пасяджэння Сінедрыёну. Але я маю рашэнне, у здзяйсненні якога ты, сыне, адыграеш не апошнюю ролю. Пра гэта, аднак, пазней, цяпер жа абгаворым справу затрымання Езуса. Ты

будзеш гатовы са збройнымі і легіянерамі, скажам, праз больш-менш дзве гадзіны, гэта значыць, каля поўначы. І акурат тады вы затрымаеце Галілеяніна. Ты, Хелкія, адразу ад мяне пайдзі да Каяфы, разбудзі яго і перадай, каб паведаміў пра ўсё прыхільнай нам частцы Сінедрыёну, а таксама паклапаціўся пра сведак і, згодна з Законам, забяспечыў правядзенне допыту Абвінавачанага. Каб ён меў на гэта дастаткова часу, прывядзі, сыне, затрыманага спачатку да мяне, на папярэдні допыт. Хачу сам яшчэ раз пераканацца, што Назаранін не з дому Леві. Пра гэта, Хелкія, не кажы Каяфу. Скажы толькі, што я хачу даць яму дастаткова часу на падрыхтоўку ўсяго належным чынам. Што ж да Пілата, зробім так. Калі пасля працэсу гуртам пойдзем да замка Антонія, ты, сыне, збяры верных табе людзей, і, калі Пілат не будзе мець жадання зацвердзіць прысуду, крычыце на ўвесь голас, што Ён не з'яўляецца прыхільнікам імператара! Паколькі Езус паходзіць з роду Давіда, то, жадаючы стаць Месіяй, хоча быць адразу царом Юдэі і ўсіх нашых земляў. Крычыце, што мы маем аднаго цара, і ім з'яўляецца імператар Тыберый, калі ж Пілат не хоча пакараць Бунтаўшчыка, ён не з'яўляецца прыхільнікам імператара! Гэта павінна напалохаць яго. Бо калі б мы падаліся з такім папрокам са скаргай у Рым, Пілат сапраўды меў бы нямала клопату. Знайдзі, сыне, некалькі чалавек, якія ведаюць іхнюю мову, няхай яны скандзіруюць: «Ты не прыхільнік імператара!» — легіянеры павінны гэта пачуць і зразумець... Пілат не можа не зацвердзіць прысуду! Тады Езус памрэ так, як патрабуе наш Закон. Пілат не можа загадаць забіць Яго, бо Галілеянін не з'яўляецца рымлянінам. Можа толькі пакараць Яго як нявольніка альбо чужаземца, гэта значыць укрыжаваць, хіба ж не сказана ў Законе, што карай за святатацтва з'яўляецца падвешванне на дрэве? Просты люд не будзе мець падставаў шанаваць Езуса пасля смерці, бо ведае Закон і памятае, што давеку будзе пракляты той, каго павесілі на дрэве! Ці я памыляюся, Хелкія?

— Не. Відаць, ты абдумаў справу, калі так добра падрыхтаваны менавіта да гэтага моманту...

— Маеш рацыю, Хелкія. Я ведаў, што рана ці позна такі момант наступіць, і хацеў не даць захапіць сябе знянацку... Ведаеце свае заданні?! Ты, сыне, будзеш мець надзвычай цяжкую ноч сёння і заўтрашні дзень. Пастарайся справіцца добра! Гэта патрэбна мне. Час Каяфы неўзабаве скончыцца, і месца архісвятара будзе вольнае. Думаю, Хелкія, што і ты будзеш галасаваць за майго сына, раз выказаў такую лаяльнасць у цяжкую хвіліну.

— Скажаш, Анане!

— Няхай Аданай правядзе вас...

## *Hora decima* Гадзіна дзесятая

Крыж ляжаў на россыпе камянёў на месцы пакарання. Езус хістаўся ад знямогі пасля допытаў, катаванняў, бічавання і пакутаў доўгай дарогі з нясеннем крыжа, здзекаў, кпінаў, знявагі.

Усё ўзвышша, што нагадвала лысую галаву велікана і, верагодна, таму здаўным-даўна называнае габрэямі Галготай, а рымлянамі Кальварыяй, цалкам было занятае людзьмі. Тут стаялі садукеі і фарысеі, легіянеры і пісары, а таксама просты люд, таму магло здавацца, што сюды прыйшоў увесь Ерузалем. Людскі натоўп, спачатку шумлівы і гаманкі, паступова аціхаў, змаўкаў і станавіўся панурым.

Каты-легіянеры спрытна і энергічна падцягнулі Езуса і паклалі на крыж тварам дагары. Адзін з іх, выпрамляючы Ягоную правую руку на перакладзіне, турзануў за яе так, што ажно затрашчалі парваныя суставы, пасля прыціснуў руку да дрэва і мернымі ўдарамі малатка забіваў у запясце вялікі цвік. Кроў адразу ж запоўніла далонь, а пасля пырснула ўгару, чырвонячы барвай убіванае жалеза. Пальцы Яго то курчыліся, то выпросталіся. Езус стагнаў, а вочы былі шырока і балесна расплюшчаныя, скіраваныя да неба... Калі турзанулі за левую руку, каб пакласці яе на другім канцы перакладзіны, кроў з ранейшай раны па далоні пацякла на дрэва крыжа. Другі цвік захрусцеў у касцях і сухажыллі, крыві было менш, нібы яна ўжо выцекла праз правую далонь. Ад болю Езус ажно страпянуўся і міжволі падкурчыў ногі. Два каты вяроўкай прывязвалі рукі да перакладзіны. Напэўна, рабілі гэта не ўпершыню, ведаючы, што на паднятым крыжы цела не ўтрымаецца на адных цвіках, забітых у рукі. Цяжар падвешанага да крыжа цела мог бы лёгка парваць сухажылле і выкруціць косці рук. Вяроўкі заціскалі моцна, некалькі разоў абвіўшы імі перакладзіну. Той, які прыбіваў рукі, сабраў ногі Езуса, выпрастаў іх і прыціснуў да камля, пасля трохі падкурчыў, паклаў адну на другую і вялікім цвіком стаў прабіваць іх навылёт. Калі жалеза дайшло да дрэва, ступні пачалі курчыцца, а па ўсім целе Езуса прабягала балючая дрыготка. Пальцы рук абдымалі скрываўленыя цвікі. Ён самлеў, таму, магчыма, не адчуваў болю і не чуў удараў малатка і хрусту касцей, калі другі аднацёс (вялікі цвік. — *А.Б.*) забівалі Яму ў верхнюю частку ступняў. Каты яшчэ і прывязалі Ягоныя ногі да камля. Пасля гэтага адразу пасталі каля перакладзіны ў чаканні, калі Ён ачуняе.

Было ціха... Як па дарозе на Галготу яны насміхаліся з Яго і плявалі на Яго, так цяпер панура маўчалі. Чуваць быў толькі пранізлівы енк Маці Езуса...

Ён ачуняў і павёў вачыма па легіянерах, што стаялі над Ім. Тады яны спраўна схапіліся за перакладзіну крыжа, адзін з іх накіроўваў камель у падрыхтаваную неглыбокую ямку.

Яны падымалі крыж хутка, падпіраючы яго рукамі і падпіхваючы ўстаўленае ў ямку дрэва. Па меры падняцця цела Езуса асоўвалася ўздоўж крыжа, развярэджваючы нанесеныя падчас бічавання раны. Галава пачала хістацца. Боль, які нарастаў з кожнай хвілінай узвышэння, станавіўся невыносным. Езус напружыў апошнія сілы і на момант абапёрся на ўцвікаваныя ногі так, што кроў з ранаў пырснула на тых, хто стаяў да Яго бліжэй. А калі, зняможаны болем, Ён абвіс на руках, было бачна, як цвікі, нягледзячы на вяроўкі, балюча рвуць цела. Ён самлеў зноў... Легіянеры выпрасталі крыж і абкладвалі камель каменнем і зямлёй...

Гэты крыж, які, лежачы на зямлі, здаваўся маленькім, пасля ўзнясення раптоўна пабольшаў, распасцёрся на цэлае неба...

Крыж гэты разам са спакутаваным целам маўкліва панаваў над усім узвышшам, над людскім натоўпам, над Ерузалемам.

Здаецца, ён займаў увесь чыста небасхіл...

*Hora undecima* Гадзіна адзінаццатая

I

Ірадзе, дарагі мой прыяцель! Я паслаў да цябе ганца ў Тыберыю, бо мушу патлумачыць табе, чаму, нягледзячы на твой сігнал у выглядзе белага плашча, я змагаўся за жыццё Езуса. Ото ж, калі я ўжо ведаў, як ацаніў Галілеяніна ты, мая жонка прыслала ліст, дзе паведамляла, што Вітэлій накіраваў да мяне, у Цэзарэю, двух тайных пасланцаў, якія ад імя сірыйскага легата жадалі, не — загадвалі мне, каб я прысудзіў Езуса да смерці. Клаўдзія Прокла — жанчына абачлівая, таму ліст прачытала і паведаміла мне пра яго змест, але адначасова і папярэдзіла, што ў тым становішчы Вітэлій мусіць нешта хаваць. Калі легат хоча, каб я пакараў Галілеяніна смерцю, мне стала зразумела, што павінен зрабіць наадварот. Ты ж сам сцвярджаў, што Вітэлій — гэта мой вораг!

Такім чынам я спрабаваў — уласна, з гэтага меркавання, а не з-за ігнаравання твайго сігналу, змагацца за жыццё Падсуднага. Аднак сінедрыёнцы апярэдзілі мяне. Напэўна, ты ўжо ведаеш, што яны прыгразілі мне скаргай да імператара. Разумееш? Габрэі са скаргай у Рым на тое, што пракуратар бароніць Бунтаўшчыка, які хацеў стаць царом габрэяў! Не дарую ім гэтага! Павер мне. Яны прыперлі мяне да сцяны! Таму, на злосць ім, я загадаў змясціць на крыжы надпіс *Iesus Nasarenus Rex Iudaeorum*, нягледзячы на тое, што яны прасілі, каб я не рабіў гэтага. Але паколькі ім так хацелася гэтага, я загадаў, каб надпіс паўтарылі і па-грэцку, і на іхняй мове... «Езус Назаранін, Кароль Юдэйскі»...

Гэта, аднак, была невялікая адплата, пачакаю лепшай нагоды! Пра гэта таксама хацеў бы параіцца з табой, таму маё жаданне, каб ты як мага хутчэй з'явіўся ў Ерузалеме. Тым больш, што настойліва пашыраецца гаворка, быццам той укрыжаваны Езус уваскрос. Ёсць шмат такіх, хто сцвярджае, што пасля ўкрыжавання Яго бачылі і нават размаўлялі з Ім. Сінедрыёнцы ж даказваюць, што Ён быў выкрадзены вучнямі. Я сапраўды не ведаю, што пра гэта думаць. Падкажы, як на самай справе гэта выглядае... За пасланнікамі Вітэлія я загадаў сачыць. Яны заставаліся ў Ерузалеме ажно да ўкрыжавання Езуса, а пасля настойліва шукалі нейкага Юду з Карыёта. Чакаю цябе ў Ерузалеме, каб мы маглі абмеркаваць усе гэтыя справы і пакаштавалі новай партыі віна, якое мне даставілі.

*Hora undecima* Гадзіна адзінаццатая

II

Боскі імператар!

Найдастойны Тыберый! Падрабязны рапарт пра тое, што адбываецца ў падлеглых мне землях, забраў з сабою твой пасланнік. Я ж хачу толькі дадаць, што ў мяне пануюць спакой і парадак, хоць некалькі галілеянаў я мусіў вылаяць, каб стала менавіта так.

Перасылаю табе, дастойны імператар, гэты рапарт з іншай надзвычайнай цяпер нагоды. Менавіта сёння ў Цэзарэі Прыморскай закончана будаўніцтва святыні, на франтоне якой я загадаў выбіць надпіс: CAESARIENSIBUS TIBERIEUM PONTIUS PILATUS PRAEFECTUS IUDAEAE DEDICAVIT.

«Цэзарэйцам гэтую святыню ў гонар Тыберыя Понцій Пілат — пракуратар Юдэі прысвяціў...»

*Пераклад з польскай мовы*
*Анатоля БУТЭВІЧА.*

*Паводле выдання:*
*Ryszard Kurylczyk*
*Niezłomny z Nazaretu.*
*Instytut Wydawniczy*
*ŚWIADECTWO.*
*Warszawa .*

# Геніюшы



У дзень вяселля. З мужам Янкам Геніюшам. 1935 г.

*...Дзіўнай казкай прайшла маладосць*
*і жыццё на цярнёвай дарозе.*
*І я сёння, як быццам бы госць*
*на забытым, на родным парозе...*

Гэтая дзіўная казка пачыналася 9 жніўня 1910 года ў засценку Жлобаўцы каля вёскі Палаўкі, што недалёка ад Воўпы, дзе нарадзілася Ларыса Міклашэвіч, якая па мужу атрымала прозвішча Геніюш, нібы ацэнку яе таленту... Была старэйшай дачкой у бацькоў, за ёю нарадзіліся яшчэ шасцёра дзяцей — трое братоў і тры сястры. Была прыгожаю і разумнаю. Усе хлопцы ў наваколлі былі ў яе закаханыя. Бацькі навучылі яе быць ветліваю з людзьмі. Яна ішла ў царкву, а з наваколля з'язджаліся і сыходзіліся людзі, каб толькі на яе паглядзець. Біліся з-за яе хлопцы, але яна пра гэта ўспамінаць не любіла...

У Зэльве тады быў кірмаш. Па даручэнні бацькоў Ларыса зайшла ў хату да Геніюшаў і ўбачыла Янку, які прыехаў з Прагі на летнія канікулы.Усё здзівіла яе ў гэтым прыгожым, інтэлігентным, адукаваным хлопцу. А найболей здзівіла тое, што ён прыехаў з чэшскай Прагі, а размаўляў на чысцюткай, прыгожай роднай мове. Гаварыла з ім адразу пра ўсё пакрысе, як бывае пры першай сустрэчы. Калі трэба было развітвацца, яна падумала: «Калі выйдзе на ганак, каб мяне правесці, то выйду за яго...»

Янка выбег на ганак і на развітанне пацалаваў яе ў вусны...

...Яна па-жаноцку мне апавядала і пра іншых сваіх хлопцаў, але не напісала пра іх ва ўспамінах, таму я не маю права выдаваць яе таямніцы.

Яе духоўным нашчадкам быў сын Юрка, які жыў у Беластоку, а нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў Зэльве, у доме свайго дзеда Пятра Геніюша.

У 1937 годзе Юрка паехаў з маці ў Прагу. Там яго бацька ў 1936 годзе скончыў медыцынскі факультэт, дыплом Янкі Геніюша аб заканчэнні Карлаўскага універсітэта ў Празе знаходзіцца ў экспазіцыі Музея Максіма Багдановіча ў Гародні. У кватэры, якая мае асобны выхад з ганачкам, ёсць пакой Ларысы Геніюш. Там усе рэчы, сабраныя з дома ў Зэльве, не падробкі, а тыя самыя, што памятаюць яе рукі... І партрэт Ларысы Геніюш работы мастака Сяргея Грыневіча.

Іван Пятровіч Геніюш нарадзіўся ў Крынках, цяпер гэта Беласточчына. Дзень нараджэння яны святкавалі 8 сакавіка. Беларускія даследчыкі Сяргей Чыгрын і Уладзімір Хільмановіч падаюць іншую дату — 24 лютага 1902 года, відаць, па старым стылі. І такая дата пазначана на помніку. Янка скончыў

Думала пра іх — пра паэтку Ларысу, яе мужа Янку, іх сына Юрку, унукаў Міхася і Алеся, праўнукаў, праўнучак... Іх ужо у Геніюшаў васьмёра ці нават болей... У кім іх бессмяроцце! Цешыцца душа паэткі, гледзячы з вечнасці...

У старым нататніку знайшла запіс пра паездку ў Зэльву 22 жніўня 1992 года, у суботу, на адкрыццё надмагільнага помніка Янку і Ларысе Геніюшам. Былі там сябры з Баранавічаў, якія разам з Геніюшамі сядзелі ў няволі, былі археолаг Міхась Чарняўскі з Менска, краязнавец Міхась Вераціла з жонкай і ўнукам з Краснага Сяла, Ірына Тукальская, сваячка Янкі Геніюша, з сынам, унукамі, нявесткай.

...Адразу пасля смерці Ларысы Геніюш, калі была я дужай, лёткай, ездзіла адна спадарожным транспартам, аўтобусам, цягніком, каб прытуліцца да яе магілы. У апошнія гады мяне зрэдку запрашае на дні яе нараджэння моладзь з Гародні. У 2008 годзе святар пасля літургіі паабяцаў арганізаваць у Зэльве фэст духоўнай паэзіі да стагоддзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш... На могілках Гэфман Хромы ад імя чэшскага пасольства папрасіў прабачэння ў прысутных за тое, што чэхаслявацкі ўрад не абараніў Геніюшаў, але акрамя некалькіх дзесяткаў чалавек беларускамоўнай моладзі, ніхто гэтага не пачуў — зальвяне ў гэты дзень нават да сваякоў і блізкіх на могілкі не прыходзяць...



З малым Юркам на шпацыры. Прага, вул. На Пшыкопе, 1940 г.

Гродзенскую гімназію Тармосава. Адмовіўся ўдзельнічаць у кампаніі 1919—1920 гадоў з боку палякаў і за гэта яго не прынялі ў Віленскі універсітэт. Між тым у Вільні Браніслаў Тарашкевіч даваў рэкамендацыі для навучання — сто пяцьдзесят беларускіх хлопцаў прымалі ў інстытуты Чэхіі з умовай, што пасля заканчэння яны напішуць кнігі па абранай прафесіі. Каб трапіць у Карлаўскі універсітэт, Янку Генюша пераводзілі праз «зялёную» мяжу — з Коўна ў Польшчу, з Польшчы ў Чэхію. Вучыўся з акадэмічнымі перапынкамі, зрываўся на заробкі, бо не хапала сродкаў на жыццё. Аднак пасля вучобы ў Беларусь не вярнуўся, бо там працы не было. Працаваў у клініках чэшскіх прафесараў: у доктара Каберца, у скурна-венерычным кабінеце доктара Градзела. У час вайны працаваў у доктара Піпэра.

5 сакавіка 1948 года Янку і Ларысу арыштавалі. Юрка застаўся адзін, сіратою пры жывых бацьках, якія былі аб'яўлены «ворагамі Савецкага Саюза», — з Зэльвы выехалі, калі яна ўваходзіла ў склад Польшчы і 27 ліпеня 1947 года атрымалі чэхаславацкае грамадзянства. Юркам апекаваўся прадстаўнік польскага пасольства. У Польшчы ён атрымаў медыцынскую адукацыю, працаваў дзіцячым лекарам у мястэчку Гарадок.

Бацькоў вызвалілі 10 чэрвеня 1956 года.

Не адразу ім дазволілі сустрэцца з сынам. Калі дазволілі, Юрка вельмі часта прыязджаў у Зэльву. Калі я пазнаёмілася з імі, то і Юрка стаў спыняцца ў Гародні ў маёй кватэры, робячы перасадку з цягніка на аўтобус. Едучы ў Польшчу, пакідаў на маю ахову рэчы, якія не прапускалі на мытні. Так, ён пакінуў партатыўную друкарку з беларускім шрыфтам. (Васіль Быкаў у Маскве ведаў майстэрню, дзе можна было купіць беларускі шрыфт, прывозіў яго з Масквы). Пасля дзён польскай літаратуры ў 1976 годзе госці з Беластока перавезлі гэтую друкарку праз мытню, іх на мяжы не правяралі.

Юрка прывозіў бацькам, іх сябрам і пацыенткам розныя лекі.

У БССР не ўводзілі тады ў вены варыкацыд, не ўмелі лячыць варыкознае расшырэнне венаў. Янка ўводзіў варыкацыд пад сваю адказнасць. Недзе ў другой палове 80-х нашы хірургі пачалі праходзіць практыку за мяжой і навучыліся рабіць уколы, якія ў Чэхіі рабілі яшчэ да вайны.

Янка быў добрым гінеколагам, да яго прыязджалі не толькі з Зэльвенскага раёна, пра яго хадзілі легенды, бо ўмеў лячыць маладыя сем'і ад бяздзетнасці.

У кабінеце лекара замест афіцыйных савецкіх партрэтаў у кутку віселі абраз і партрэт Францішка Скарыны.

Зэльва і наваколле размаўлялі на беларускай мове, бо на ёй размаўляў іх паважаны лекар.

Бацька і сын узаемна абдароўвалі адзін аднаго кнігамі. Напрыклад, кнігу Янкі Купалы «Шляхам жыцця» Пятро Генюш падпісаў сыну Янку, а Янка падпісаў тую ж кнігу сыну Юрку. Янка яднаў маці і сына, іх буйныя творчыя натуры. Паміж імі была вялікая любоў, але часта яны спрачаліся.

У адносінах да Радзімы, у ацэнцы нацыянальнага ў іх не было розных думак. Але знішчалі маміна здароўе выпіванкі сына. Нявестка, якую Юрка сустрэў, калі збіраў грыбы ў лесе каля Зэльвы, была раўнадушнай да беларускай мовы, адпаведна і ўнукаў выхоўвала. Ларыса і Янка ўплывалі на іх выхаванне, але яны рэдка сустракаліся. Старэйшы ўнук Міхась туліўся да беластоцкіх беларусаў, сябраваў з Латушонкамі, пакуль быў жывы Юрка.

Янка Генюш быў вельмі абаяльны. З ім было лёгка размаўляць. Ён быў ідэальным узорам мужа паэткі. Ён з усёй сур'ёзнасцю ставіўся да яе таленту, высока цаніў як паэтку і кахаў як жанчыну, але не ўмешваўся ў далікатную душу яе паэзіі. Паміж імі была поўная гармонія. Янка свядома паводзіў сябе так, каб было відно, што грамадскім чалавекам у доме ёсць яна, паэтка, а ён — пры ёй. Не хварэў ён на мужчынскія амбіцыі. Калі адзначалі сямейныя святы, пераважна дні нараджэння, да іх збіралася беларуская інтэлігенцыя, сярод якой Янка прысутнічаў невідочна. Ён сядзеў збоку і размаўляў паціху з тым, хто сядзеў з ім побач. Ён і тостаў не гаварыў, і не спяваў песняў з сябрынай. Пра вершы Ларысы Янка гаварыў стрымана, нібы гэта і яго вершы. На людзях ён вершаў паэткі не хваліў і не ганіў. Але таму кнігі па прафесіі Янка не напісаў, успамінаў пра іх пакутны крыжовы шлях не пакінуў, бо саступіў гэтую справу ёй, якая была добрай і паэткай, і празаікам, і грамадскім чалавекам, і палітыкам. Невідочнымі струменямі яго мудрасць пералівалася ў яе творчасць.

Кожнаму аўтару цяжка даецца слова. Кожнаму хочацца, каб нехта па-сяброўску ўважліва вычытаў твае тэксты і з густа занесенымі праўкамі пакінуў

на стале. Але ўсе неяк спраўляюцца са сваім заданнем самі. І ён гэта ведаў.

Калі яго ўжо не было, я справакавала Ларысу, спытаўшы, ці раўнавала яна мужа да жанчын, ён жа ў Зэльве працаваў гінеколагам. Яна сказала:

— Ды калі б з іх якая пераступіла парог мае хаты, расцалавала б яе: быў ён вартым, калі не адной мне падабаўся...

Янка Геніюш паміраў ад астмы. Не залічылі яму ні працу ў Чэхіі, ні няволю ў ГУЛАГах. Ён працаваў амаль да смерці, бо не хапала савецкага стажу, каб атрымаць пенсію. Працаваць умеў і любіў, але надта цяжка было яму хадзіць. Хадзіў пад канец жыцця марудна, ледзь перастаўляў ногі. Я прыехала да іх перад яго смерцю. Ён ляжаў у ложку. Падняў уверх свае ногі некалькі разоў. Кажа мне:

— Як ляжу ў ложку, пра дзяўчат думаю, устану — да стала не магу дайсці.

Янка Геніюш памёр 8 лютага 1979 года. На пахаванні Ларыса не плакала. Людзей, якія прыехалі на пахаванне, яна бачыла, усім падзякавала, што не пакінулі яе адну ў горы...

Маці і сын былі беларускімі паэтамі розных пакаленняў і розных літаратурных кірункаў. Маці, як хрысціянка, у творчасці абапіралася на традыцыйную паэзію, будавала рытмічна спакойную, сіметрычную архітэктуру верша. Асновай яе паэзіі была народная песня, па якой яна ткала, як перабіранкі, квяцістыя, далікатныя, мудрыя, самабытныя, смелыя метафары.

Калі творчасць становіцца справай пакаленняў, у сына іншыя погляды на творчасць. Ён, як прадстаўнік новага пакалення, адчуваў закасцянеласць традыцыйнай формы верша, заціснутага ў турму, у рамкі рыфмаў. Лічыў, што чытачы стаміліся ад традыцыйнага рыфмаванага верша, лічыў яго зношаным, абмежаваным. Празрыстасць, гармонія паэзіі маці не прымалася сынам. Ён любіў яе вершы чытаць, але аспрэчваў сам творчы пошук паэтаў яе пакалення, шукаў свой. Насуперак старым добрым вобразам і спакойнай рытмічнасці паэзіі маці ў творы сына ўрываліся мітусня, стракатасць, грымотнасць, асіметрыя, дзе раскоша слова межавалася, супярэчліва перапляталіся з моўнай галечай. Сын разбураў старыя формы неасцярожнымі заўвагамі, кпінамі, пагардай.

*Фабрыка, трактар, верталёт, ракета —*
*цвёрдыя словы сённяшняга дня...*

Там, дзе маці захаплялася, сын смяяўся, здзекаваўся.

У Ларысы Геніюш ёсць прыгожы верш «Зубры». Усе строфы гэтага мудрага класічнага верша раўназначныя, прыводжу адну страфу з сярэдзіны:

*Сваёй пушчаю крочаць, стройныя,*
*цёмна-бурыя, як дымы,*
*неабласканыя, неасвоеныя,*
*першабытныя так, як і мы...*

У сына ёсць апавяданне, у якім ён піша: «Бо ж вядома ўсім, што роднай барады ніводзін зубр пакуль што не згаліў, каб пад вала прыстасавацца...»



Прага, Вышаград, 1943 г.

І маці і сын пішуць пра зуброў, думаюць пра людзей, але надта па-рознаму яны ўкладаюць свае думкі ў беларускія словы. У сынавай творчасці перамешваюцца сарказм і лірыка. Сын праз мастацтва шукае асобу, будуе арытмічную форму, у якой дае зразумець: тысячагадовая маладосць свету ў кожную секунду спальваецца і зноў адраджаецца. І так бясконца... Маці шукае вечных вартасцяў.

Сынаў розум таксама быў запоўнены матчынай песняй— калыханкай, класічным вершам, але насуперак маці, абараняючы сваю дарослаць больш сучаснымі сродкамі, сын быў упэўнены, што яму ўдалося падмануць сябе і маці з бацькам, і ўсіх чытачоў...

*...Бо дзе той Бельск?...*
*А я да вас імкнуся, хлопцы і дзяўчаты.*
*На вашай ноце думкі мне пяюць —*
*спеўку матчыную.*
*Бо не ўдалося піць мне з тых крыніц,*
*дзе кожны дзень купаллем заіскрыцца,*
*дзе летні вечар коласам шуміць,*
*дзе ловіш прагна кожны гук,*
*каб не забыцца — хто ты.*
*І злосць бярэ, і ціснеш у руках паперу,*
*і шчыміць нешта болем пад грудзьмі,*
*і марыш — вось, каб двойку хто паставіў*
*за мову родную, сярод сваіх ў сям'і.*
*І струна брэнкнула... Хацелася быць з вамі.*
*З штодзённай муці плёснуцца ў стругу*
*той плыні беларускай.*
*Гаворкай роднаю заліць тугу...*

Версэт «Смыком па сэрцы»



Пасля вызвалення. 1956 г.

Дзеці ўвогуле не вучацца на памылках сваіх бацькоў. Дзеці не шкадуюць бацькоў за іх памылкі. Дзеці пачынаюць усё з чыстага ліста і калечацца самі на сваіх памылках...

Не быў ён першым. Ад рэалізму стаміліся даўно. Ва ўсіх еўрапейскіх літаратурах працэс стварэння новых кірункаў адбываўся на зломе XIX—XX стагоддзяў. У кожнага літаратурнага кірунку быў свой год, месца нараджэння, быў родны бацька, які яго прыдумаў: ультраізм, экспрэсіянізм... Мой любімы Вісэнта Уідобра і яго крэацыяналізм... Мы — такія дасканалыя маруды, пачыналі разам з усімі, але ў нас гэта і цяпер адбываецца. Вяртаемся. Адступаем. Некуды зноў прарываемся... Да сённяшняга дня нехта сам сябе аб'яўляе першастваральнікам якога-небудзь даўно абжытага дэкадансу... А можа, так усюды? Факт, што ў пошуках ідзе адмаладжэнне метафары, адмаладжэнне мовы.

Мова — гэта сімвал, гэта музыка, пачуццё і захапленне.

Мова — гэта крыніца кожнай людской цывілізацыі...

Беларуская паэзія доўгі час трымалася на магічным музычным памеры слова. Паэты спявалі свае вершы, у кожнага была свая ўласная музыка, свой уласны акампанемент сэрца і ў гэтым чытанні была паэтычная прастата, звычайнасць і прыгажосць.

Беларускія паэты наіўныя і абмежаваныя, як малыя дзеці, у добрым разуменні абмежаванасці і наіўноты...

Да такіх паэтак адносілася Ларыса Геніюш. Яна паддавалася эмоцыям, яна ўмела эмоцыямі кіраваць, апамятаўшыся, яна выходзіла з эмоцый, як акторка...

Нялёгка было яе сыну займацца літаратурай, выбівацца з-пад моцнага крыла маці. Ды яшчэ на беларускай мове ў Польшчы, дзе ў той час быў толькі адзін тыднёвік «Ніва» з абмежаванымі старонкамі на літаратурную творчасць.

Але Юрка выбіўся. Адбыўся як творца. Не мае значэння, колькі ён стварыў, важна, як ён працаваў над словам.

*— Чаму я чорны, чаму я чорны, мама,*
*хоць белы маю твар...*
*— Афрыка навокал, Афрыка...*

Я не так добра ведаю, калі Юрка пачаў пісаць, ведаю, што экспромты прыходзілі да яго ў Празе.У Беластоку беларусы знаходзіліся паміж дзвюма рознымі культурамі, якія адна ад другой паступова аддаляліся, бо палякі не пусцілі саветаў у сваю душу, а беларусы пусцілі і ў душу, і ў песню. Не мелі сілы адбіцца... Надта вялікі вал саветаў каціўся на хлебную чыстую Беларусь.

Найлепшыя людзі Беласточчыны — Віктар Рудчык і Юрка Латышонак — былі сябрамі Юркі Геніюша. З іх дапамогай ён уздымаўся — разбуральнастваральны, у любові і нянавісці. У шчырасці і непрыманні.

Знішчаны развітаннем з бацькамі, раўнадушшам выхавацеляў у дзіцячых прытулках і жорсткасцю беспрытульных. Усё ж вырас. На суседняй зямлі. А якія дзіцячыя канцлагеры былі больш гуманныя — у Польшчы ці ў Саюзе, — хто збіраў статыстыку пра дзіцячыя ахвяры?

Нягледзячы на супярэчнасці лёсу, чалавек стварае сам сваю долю.

Юрка Геніюш быў знойдзены нежывым на вуліцы Беластока ранкам 20 лістапада 1985 года. Было яму пяцьдзесят гадоў і адзін месяц...

Аднойчы я была на яго магіле. Завёз мяне туды журналіст «Нівы» Віктар Рудчык, які памёр таксама рана, у 1989 годзе.

Калі нейкі псіхічна хворы чалавек аднойчы напаў на Юрку ў яго лекарскім кабінеце і нанёс шмат ранаў нажом, маці ў Зэльву праслалі тэлеграму, падпісаную лекарамі. Маці не пусцілі ў Беласток праведаць цяжка зраненага сына. Я хадзіла з ёю ў Гародні па кабінетах, але начальнікі нават не прымалі. Сакратарка ў пашпартным аддзеле «дакарала» яе, што, маўляў, сама вінавата, бо не афарміла савецкае грамадзянства. У Менску яе справай займаўся Максім Танк. Яна тады не выехала ў Беласток.

Але была там адзін раз.

Калі было вельмі самотна, яна думала перабірацца да сына. Смерць спыніла ўсе думкі. Засталася яна тут, дзе сама выбрала месца, пры Янічку. Пакінула нам неацэнны скарб — магілу вялікай беларускай паэткі-пакутніцы, нацыянальную святыню... Калі стамляешся ад жыцця, а дарога дадому бяжыць недалёка ад Зэльвы, можна зайсці і памаліцца: спачатку за іх, за Янку і Ларысу, пасля — да яе, паразмаўляць з ёю, як некалі з жывою, як з маці тваёй душы...

Вершы паэткі пра вялікую тугу па мужу былі такія пакутна-балесныя, што мне было нясцерпна іх чытаць. Дзікунскі пратэст выклікалі ўва мне вершы пра каханне, якое смерць не заглушыла. Я прасіла яе, каб яна іх не друкавала. А яна не разумела мяне. Я і сама сябе не разумела. Мне дрэнна было ад смутнага прадчування, што здарыцца тое самае са мною, і вельмі хутка я сама буду вылічаць такімі ж вершамі...

Але мяне ўзмацняла памяць пра ўсё, што я ад іх атрымала.

...Калі Юрка прыехаў у родную хату, ён убачыў невядомы дагэтуль свет, не савецкі, не фальшывы. Атмасферу іх дома тварылі сямейныя размовы, філасофска-метафізічныя спрэчкі. У правінцыйным, атуленым полем і лесам закутку не было глухаты, тут пульсавала жывая думка, літаратурны дыялог. Да іх прыязджалі людзі не толькі са сталіцы, але і з вёсак і мястэчак, людзі розных поглядаў і нават розных канфесій, там правакаваліся на шчырыя, праўдзівыя гаворкі нават інфарматары, якія «калоліся», не хочучы таго. Дух Святы яе малітвы дапамагаў. Палітычныя размовы не заглушалі літаратурных. Можна было шчыра размаўляць пра вольны верш, метафару, недахопы і адметнасці рыфмаў, абмяркоўваць новую аповесць Васіля Быкава, асаблівасці чэшскай паэзіі і ці змогуць беларускія паэты калі-небудзь сабраць на свае выступленні стадыёны, як збіраюць у Маскве Булат Акуджава і Яўгеній Еўтушэнка, ці патрэбна гэта для самой літаратуры. У асочанай хаце да ўзыходу сонца ўсе мелі поўную свабоду выказвання ўласных думак.

Была ўмова — тут не абгаворвалі, не высмейвалі ўголас нават графаманаў, нават тутэйшых савецкамоўных бяздарных «стукачоў». Усім даваўся шанец паправіцца, вылечыцца. Тут уважліва чыталі ўсё і ведалі: у шматтомных выданнях наменклатурных паэтаў можна знайсці некалькі сапраўдных радкоў...

Янка пры жыцці не ленаваўся перачытваць і вылоўліваць такія радкі, а жонцы-паэтцы і сыну ў вечным пошуку свайго жанру ён іх даваў у гатовым выглядзе...

Рэальныя мужчыны — і муж, і сын — адпавядалі высокаму рамантычнаму і гераічнаму вобразу, які яна стварыла ў сваёй дзявочай паэзіі,— уся яе паэзія была дзявочай, чыстай, роснай, рамантычнай... Як у іхнім агульным драматычным і гераічным жыцці, так і ў паэзіі, хлопец і дзяўчына, каханы і каханая, рыцар і яго жанчына — аднолькава вольныя, смелыя, маральна чыстыя, роўныя між сабою. Вышэй за жыццё, за каханне, за ўсе скарбы свету, на першым месцы ў іх — воля Беларусі.

*Калі цябе, мілы, Краіна пакліча*
*за родны змагацца парог,*
*то суму не будзе ў мяне на аблічы*
*і страху не будзе ў грудзёх...*

*Бо сэрца дзяўчыны пад кужалем тонкім,*
*як сэрца найлепшых сыноў,*
*гарыць тож каханнем да роднай старонкі*
*і спадчыны нашых дзядоў...*

«Беларуска», 1940.

Яна выпрабоўвае сваё каханне ягонай мужнасцю, калі ён загіне ў баі за Радзіму, яна плакаць і наракаць на сваю долю не будзе — «для каханае нашай Радзімы найдарожшых ахвяр не замнога...» Вельмі моцны верш «Спатканне», дзе яна знаходзіць такія цудоўныя метафарычныя параўнанні: калі ён загіне і будзе недзе бледны ляжаць, яна супакоіць сябе чыстым падманам, што гэта над ракою бялее імгла...

Гэты верш — адзін з першых шэдэўраў у паэзіі Ларысы Геніюш і лепшая ў беларускай лірыцы гераічная балада, сатканая з кахання:

*Калі тупат каня я пачую*
*і зазвоніць здалёк ужо стрэмя, —*
*сэрца шчасцем ў грудзёх забушуе,*
*з хаты выйду, цябе я сустрэну.*

*Ды каханнем, як яснай зарою,*
*напаю твае смелыя вочы,*
*як з каня свайго быстрай стралою*
*ты на рукі, на грудзі саскочыш...*

*Пацалунку тады мо не прымеш,*
*цяжка голаў адкінеш на плечы, —*
*я расцвіўшай чырвонай юргіняй*
*твае гордыя грудзі аквечу.*

*А як больш не устанеш ты з бою,*
*і на твар ляжа ціхасць блядая, —*
*буду думаць: імгла над ракою*
*ці палотны бяліць рассцілаю.*

*Буду думаць: не кроў гэта з раны —*
*жменю пацерак нехта раскінуў;*
*буду думаць: румяніцца ранне*
*ды ўзыходзіць зара над Краінай.*

*Не скажу, што ты рана загінуў,*
*не пажалюся людзям, ні Богу!*
*Для каханае нашай Радзімы*
*й найдарожшых ахвяр не замнога.*

Гэты верш адпавядае польскай песні «Wojenko, wojenko...», якую ў нашых засценках са слязою спявалі дзяўчаты. Але хто ведае гэты цудоўны твор нашай паэткі, якія пачуцці, якую глыбу, які вулкан дзявочых гаручых слёзаў павінен выціскаць з сэрцаў гэты верш? А нічога такога пакуль што не было і няма...Але вершы ўмеюць чакаць сваіх дзяўчат.

У Ларысы Геніюш словы «любоў» і «каханне» як бы сумыслу, ці паўсвядома, ці знарок, маюць адно і тое ж значэнне. І гэтая яе, аўтарская ці мясцовая, дыялектная «памылка», узаконена сэнсам, які паэтка ўкладвае ў інтымнае і грамадскае пачуццё — любоў да Радзімы ў яе эстэтыцы вышэй і мацней за


Маці і сын, сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» (Польшча).

інтымнае. Пачуццё кахання ў рамантычнай паэзіі Ларысы Генію́ш не змяшчаецца ў адно цялеснае жыццё, яно сягае ў глыбокае мінулае, дзе яе абраным з'яўляецца Усяслаў Чарадзей, Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі і Уладзімір Караткевіч. Яе каханы — Рыцар на белым кані, які згарае ў агні і каханнем адраджаецца з попелу.

У вершы «Цуд» ажываюць белы конь і вершнік з «Пагоні»:

*Як з паганскіх, курганных часоў*
*ішлі ўдовы на вогнішча смерці,*
*я, найболей пяшчотная з ўдоў,*
*свайму рыцару кінула сэрца...*

*І сярод найцяжэйшых пакут*
*я паверыла сэрцам гаротным,*
*што з ахвяраў нам зродзіцца цуд,*
*што наш Рыцар і Край — несмяротны!*

У шыхты герояў-змагароў, найбольш дарагіх сэрцу паэткі, паўстаюць і яе загінуўшыя на вайне ў чужых краінах за свабоду чалавецтва браты — Аркадзь, які спіць сярод красак цвітучай Італіі (27.07.1944) пад Монтэ-Касіна, Расціслаў, які марыў сеяць збожжа ў родныя нівы, а загінуў пад Берлінам (28.04.1945). Аляксей з арміяй Андэрса застаўся ў Англіі, там пражыў сваё жыццё і там заклаў і пакінуў свой род Міклашэвічаў, дзяцей і ўнукаў.

У пазнейшых вершах пра мужчын паэтка застаецца такой жа экстрэмальнай, гарачай і патрабавальнай, як у маладосці. У вершы «Сустрэча» яе мужчына зноў з канём, ён змагаецца за духоўныя вартасці Краіны, спадчыну продкаў. У вершы «Беларусы» жанчына не спяшае выкідаць сяброву касу на сметнік, каханая не павінна пяшчотай прытупляць у сябра-касца чуйнасць:

*Вокам сябра гляджу на касу,*
*асялок кранаю рукою...*
*Не, на злом яе не панясу,*
*няхай павісіць пад страхою...*

Такой была беларуская паэтка Ларыса Генію́ш, і такія былі яе хлопцы. Яны засталіся ў мінулым, пакінулі па сабе след глыбокі, яны належаць і будучыні, бо яны — хлопцы нашай вялікай паэткі, а кожны чалавек жыве ў мінулым і, калі яшчэ ўсё ўплывае на культурны працэс, належыць будучыні, а мінулае і будучыня ў сукупнасці — сучаснасць і вечнасць.

Тым болей, што старасць яна не прызнавала паражэннем, з якім трэба змірыцца. Не мірылася з адносінамі да старасці як да галоўнай пагрозы для росквіту чалавецтва.

Наша будучыня — непазбежная. Мы з цяперашняга часу, хоць адстаем ад іншых культураў, але гэта даволі павярхоўнае і ілюзорнае адставанне. Мы ў кантэксце сусвету. Мы ўмеем здзіўляцца і здзіўляць, нават умеем тварыць цудоўнае, ці дакладней — тварыць цуды.

У Беларусі мала такіх творцаў, якія здольныя ўгадваць, што адчувае большасць, якая не ўмее выказацца і ўкласці думку ў празрысты змест. Але большасць можа перамяніцца ў адначассе.

Новая метафара — не самамэта, не заўсёды яна мае такое вялікае значэнне, як здаецца маладым паэтам. Метафара выклікае эфект здзіўлення. Здзіўленне — гэта мімалётнае перажыванне. Здзіўляць цудоўным, новым — такая мэта паэта — так, магчыма, падсвядома думаў яе сын, так думалі беларускія маладыя творцы Беласточчыны... Ім трэба было неяк адрозніваццa ад палякаў.

Маці, як сапраўдная беларуска, свядома паставіла перад сабою ад першых ранніх радкоў, вершам, як самым моцным, самым мудрым і пераканаўчым вобразным цудоўным словам, паднімаць з каленяў залежнасці ад суседзяў і ворагаў Краіны свой беларускі народ. Яна сцвярджала ўсёй сваёй паэзіяй і жыццём, што прызначэнне і паэта і народа — трымацца роднага слова і роднага поля, нарадзіцца, жыць і памерці за родную Краіну.

Яна сваёй музай сцвердзіла, што паэт — гэта такі ж чалавек, як усе, але яго прызначэнне ад Бога — быць голасам і душой, і Духам людзей, у яе кантэксце — родных, беларускіх... У шчасці і няшчасці, падсвядома і свядома несці крыж і не ўпасці пад крыжам дзеля беларусаў...

Ларыса Генію́ш палюбіла свой народ спачатку любоўю цнатлівай дзяўчыны, пасля — крыху на адлегласці, з якой усё вялікае відаць выразней... Але нават тых, хто яе крыўдзіў, яна ўспрымала з даверам і павагаю, была яна выбранай Богам дачкой свайго народа.

У Беларусі вельмі вялікая адлегласць ад пісьменніка да чытача, але гэта аднойчы можа змяніцца, і тады яны разгорнуць кнігі такіх паэтак, як Ларыса



З дарагімі гасцямі з Беластока. Справа налева: Ларыса Геніюш, унук Міхась, сын Юрка, Янка Геніюш, нявестка Валянціна, у цэнтры — унук Алесь. Зэльва, 1976 г.

Ларыса Геніюш не дазваляла сабе ні ў маладосці, ні ў сталасці ніякіх паэтычных штукарстваў, гульні са словам, не складала ніякіх планаў, праграмаў, не стварала паэтычных тэорый, не належала ні да якой літаратурнай школы, у Саюз пісьменнікаў не ўступіла, зрэшты, гэта было немагчыма, бо спачатку трэба было б прыняць савецкае грамадзянства...

Кіравалася ідэяй Святога Духа. Яе грамадзянскія погляды цалкам супадалі з эстэтычным зместам яе паэзіі, дыктавалі ёй тое, аб чым яна пісала.

Паэтычнай была кожная хвіліна яе жыцця, яна ператварыла ў паэзію кожную крыжовую стацыю сваёй долі.

Яе муж і сын вартыя павагі і светлай памяці нашчадкаў толькі таму, што яны былі мужам і сынам вялікай беларускай народнай паэткі Ларысы Геніюш.

Яны былі яе невідочнымі сааўтарамі, стваральнікамі настрою яе вершаў, настрою рытмаў яе вершаў, яе духоўнымі натхняльнікамі.

Сапраўдная сям'я ствараецца любоўю як адно цэлае, адна дынамічная істота, якая дыхае адным дыханнем, б'ецца адным сэрцам, аднолькава думае. У сям'і, як у апосталаў Езуса Хрыста, — лепш рабіць меней, але разам, аб'яўляючы Евангелле, чым рабіць шмат, але паасобку...

Няма той незалежнай Краіны, пра якую марыла паэтка. Вырасла новае пакаленне пасля яе адыходу. Незалежныя выдаўцы публікуюць яе творы. Не дзеля заробкаў. Маюць духоўны набытак. Барды спяваюць балады на яе вершы. З праграмаў школы і ВНУ яе творчасць знятая. Але ўсе, хто любіць сваю Краіну, у тым сэнсе, у якім разумеецца любоў, — ведаюць паэтку Ларысу Геніюш. Без такіх ведаў мы не знойдзем Беларусі.

Геніюш, яе сябры, яе духоўныя дзеці і ўнукі, і родны сын. Паэт і чытач стануць блізка, як блізка стаяць словы — рака і час, смерць і сон, дзяўчаты і кветкі, Вільня і Пагоня, вершнік і конь...

Чаму шмат людзей занятыя пошукамі метафары?

Чаму не ўсе людзі занятыя пошукамі метафары? Гэта ж так проста — мовай валодаюць усе людзі!

Ларыса Геніюш знаходзіла метафару не толькі ў мове. Яе хата была ўквечаная, як яе паэма «Куфар»: ручнікі, дываны, паяскі, сурвэткі, драўляныя кубачкі, качалкі, таўкачыкі, сны, куфэркі, лыжкі, статуэткі зуброў — прадметныя метафары іх побыту, якія яны збіралі разам, уцягнуўшы ў гэтыя пошукі сына і ўнукаў, а таксама сяброў.

Гэтым падмацоўваўся дух старасвецкасці, спрадвечнасць карэння роду, несавецкасць.

Кніг там было зашмат, іх немагчыма было ўсе прачытаць, але нейкім містычным чынам яны ведалі свае кнігі. Яны былі працаўнікамі лянівай тэорыі — чым меней маем кніг, тым уважлівей іх чытаем.

У гэтай хаціне не існавала нічога, чаго яны не хацелі мець.

Не існавала палітыканства, прагі да грошай, раскошы, але ў адрозненне ад савецкіх кватэраў, дзе стаялі крышталёвыя вазы без кветак, у гэтай хаціне цвілі духовыя кветкі і жывыя кветкі таксама, а яшчэ надта шчыра частавалі сяброў.

*Данута Бічэль*

---

**Данута БІЧЭЛЬ** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты – гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), а таксама кнігу прозы «Хадзі на мой голас» (2008).



* * *

*Далягляд губляецца ў высях.*
*Удзячнасць да слядоў Тваіх складаю.*
*Горняга і дольняга абшар яднае шчасце.*
*Твая сляза —*
*Ахвяра й ласка свету.*
*О Хрысце, памажы галінцы кволай*
*утрымаць пладоў цяжар жаданы.*

Галіна Тварановіч

# «...І крылы крэсляць ШЛЯХ...»

## Штрыхі да творчага партрэта Галіны Тварановіч

Паэт — абраннік Бога, былі перакананыя ў старажытнасці. Людзі новага часу падкрэслівалі, што паэт — гэта лёс. І сама гісторыя пацвярджае, што ён, лёс гэты, заўсёды няпросты, пазначаны пакутай і выпрабаваннем, аднак здаецца, што толькі так і можа нарадзіцца сапраўднае мастацтва.

«Застаючыся вернай жыццю і лёсу свайму — у яго згушчанай балеснай канкрэтыцы, знешняй несправядлівасці, невытлумачальнасці — паэтэса набыла відушчасць духоўнага кшталту, здольнасць вычуваць і акрэсліваць істоту, сутнасць з'яў і прадметаў, можна сказаць этычныя законы светабудовы. З зярнятка душэўнага паўстаў колас духоўнага, што, згодна з апосталам Паўлам, і чакаецца ад чалавека ў яго зямной хадзе». Так дакладна і пранікнёна пісала Галіна Тварановіч пра незабыўнай памяці Ніну Мацяш, рэцэнзуючы яе паэтычную кнігу «Богава дрэва», выдадзеную, дарэчы, у 2004 годзе ў выдавецтве «Про Хрысто».

Менавіта гэтая «відушчасць духоўнага кшталту» вызначае чалавечую і творчую сутнасць самой Галіны Тварановіч — паэтэсы, навукоўцы, даследчыцы літаратуры, можна сказаць, падзвіжніцы на ніве сучаснай беларускай культуры ў самым шырокім яе значэнні.

Пра лёс Галіны Тварановіч, яе духоўныя набыткі і балючыя страты, каханне і роспач — усё, што ўвасабляе наш няпросты шлях чалавечы, паводле словаў апостала Паўла, яго «зямную хаду», найлепш расказваюць вершы.

*Скрозь маміна акно гляджу*
*Зялёнымі мамінымі вачыма.*
*Стараюся — маміну печ бялю,*
*Маміны грады шчыра вяду,*
*Бялізну ў Пцічы палашчу —*
*Мамы рукамі натруджанымі.*
*Маміны кветкі маме нашу.*
*З мамінай чашы слязу лію.*

Так паэтычна і проста выказваецца ў Галіны Тварановіч найглыбейшая зямная чалавечая любоў — любоў да маці і тыя невымоўныя жаль і скруха пасля яе страты.

З паэмы Алеся Разанава канца васьмідзесятых гадоў «У поцемках з ліхтаром», прысвечанай памяці маці, на ўсё жыццё запомніліся радкі пра снег, пра тое, што *«ён мамаю асаб-*

*лівы*». Яны міжволі ўзгадаліся над старонкамі зборніка Галіны Тварановіч-Сеўрук «Ускраек тысячагоддзя», менавіта таму, што гэтая кніга, яе паэтычны свет, таксама «**мамаю асаблівы**».

*Мы — вечныя*
*пакуль нас сабой засланяюць*
*нашыя мацяркі,* — напіша літаральна на першай старонцы кнігі паэтэса, алегарычна падкрэсліваючы ў вечнай хадзе пакаленняў сваю і ўсіхнюю безабароннасць у свеце і разам з тым адказнасць перад светам. Вобраз маці, светлаўзнёслы і ў той жа час запамінальны зямной жыццёвай канкрэтыкай, у вершах Галіны Тварановіч мае шмат увасабленняў і іпастасяў: ад рэальных правобразаў да высокага абраза ўсеагульнай Маці Божай — Маці Хрыста.

*Сіратлівы лёс галубіць*
*агнявою ласкай сэрца*
*старое маці.*
......................
*«Каго люблю, таго караю»*
*I трэ таўро абранасці*
*з падзякаю прыняць...*

Гэта верш-прысвячэнне старэнькай маці заўчасна памерлай маладой і таленавітай Тамары Чабан. Тут, у радках дваццацігадовай даўнасці, выразна выяўляецца той скразны матыў, з якім прыйшла Галіна Тварановіч у свет паэзіі. Паэтэса спрабуе спазнаць таямніцу быцця і свайго прызначэння ў свеце і знаходзіць яе «ў засені крыжа».

*Маўчанне Госпада —*
*побач,*
*углядаецца ў абрысы мае душы,*
*кінутай Ім аднойчы зернем*
*у раллю жыцця*
*тутэйшага.*
*Благаславёная цішыня прарастае*
*Гасподняю ласкай.*
*Маўчанне Госпада —*
*я заблудзілася,*
*адышлася*
*ад крыніцы далёка.*
*Вусцішна, сцюдзёна.*
*Пазаві мяне,*
*Божа!*

Паводле свайго зместу першая паэтычная кніга Галіны Тварановіч, выдадзеная ў 1996 годзе ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура», — гэта размова чалавечай душы з Богам. На той постсавецкі час такая тэматыка была нязвыклай і смелай, а сама кніга, адчувалася, увабрала ў сябе плён шматгадовых творчых высілкаў. Арыгінальнай была кампазіцыйная структура зборніка: ён складаецца з дзевяці тэматычных цыклаў, кожны з якіх мае сваю адметна-вызначальную назву, а сабраныя ўсе разам гэтыя назвы складаюцца ў верш і выпраменьваюць новыя сэнсы:

*I Крыжа засень*
*II Смутак і тайна*
*III Надзеі парастак*
*IV Ускраек тысячагоддзя*
*V Пяшчоты барвы*
*VI Душы прадонне*
*VII На чырвоным ходніку*
*VIII Святла мігценне*
*IX Цярпення цуд*

Такім чынам, кніга нібы вяртала нас да класічных вытокаў — да славутага «Вянка» Максіма Багдановіча з яго цыклічнай будовай і арганічнай завершанасцю. У анатацыі да сваёй першай кнігі паэзіі (а гэта сапраўды кніга) Галіна Тварановіч удумліва падкрэсліць, што спрабуе выказаць тое, «што выгаворваецца адно цішынёй вачэй, адкрываецца нязмушана, пакрысе спеліцца часам, а ва ўладзе паспешлівай натугі —згасае».

Філасофскі роздум над сэнсам чалавечага жыцця, заглыбленне ў трансцэндэнтнае, пастаяннае імкненне зразумець супрацьстаяннедыялог «горняга» і «дольнага» — ці не асноўны лейтматыў гэтай кнігі і ўвогуле ўсёй паэтычнай творчасці Галіны Тварановіч. I несумненны спадарожнік кожнага духоўнага сталення — пакута, цярпенне, малітоўны настрой. Ці не таму многія яе вершы нагадваюць малітвы, а невялікі зборнічак, выдадзены ў перакладзе Яна Леаньчука на польскую мову ў тым жа 1996 годзе ў Беластоку, носіць сімвалічную назву «W nieba utulenie» («У неба ўтуленне») і пачынаецца эпіграфам з Евангелля паводле Яна: «I святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго».

Навакольную рэчаіснасць, яе беды і радасці паэтка ўспрымае праз прызму Хрыста, Яго крывавай ахвяры, Яго адкуплення і ўваскрасення.

*Апякуюць анёлы калыску*
*Бацькоўскіх надзей і трывог*
*Вялікаснай міласцю*
*дбайна агледжаны*
*лапік Сусвету*

*Хрыстовай крывёю асвечаны*
*у зорную Існасць парог.*

Аднак, што характэрна, скіраванасць у нябёсы, да «горніх» вышыняў, не засланяе ад Галіны Тварановіч «дольны» свет, не прыцямняе відушчасць зямнога зроку. Паэтэса надзвычай назіральная, чуйная ў спасціганні канкрэтных дэталяў, праяваў і зрухаў чалавечай душы ўвогуле. Яна ўмее бачыць красу ў звычайным, будзённым, валодае дарам узвысіць звычайны побыт да Быцця.

*Вечарэла. Акацыя адцвітала.*
*На прыпынку ля кінастудыі*
*мужчына ружы трымаў,*
*як жанчына трымае дзіця —*
*немаўля, загорнутае ў пялюшкі.*
*Клопат пяшчоты, надзею*
*так нясуць у абдымках*
*і горнуць бліжэй да грудзей.*
*Хтосьці ружы чакаў?..*

Гэта верш з другой паэтычнай кнігі Галіны Тварановіч-Сеўрук «Верасы Дараганава» (2000, «Беларускі кнігазбор»), дзе «лірычная гераіня ўспрымае жыццё як найвялікшы дар, у берагах якога кожны спраўджваецца як універсальная духоўная магчымасць у паўсядзённым выбары абставін, узрастаючы ў любові да роднай зямлі, вялікай чалавечай сям'і». І сапраўды, новы паэтычны зборнік засведчыў гэтае духоўнае ўзрастанне ў гарманічнай еднасці малога і вялікага, роднага блізкага і чужога далёкага.

Выпускніца філфака БДУ, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, аўтарка кніг «Маральны свет героя. Беларуская і югаслаўская ваенная проза 60–70-х гадоў» (1986), «Пакутаю здабыты мір. Тыпалогія характару ў беларускай і славенскай прозе» (1991), «Беларуская літаратура: паўднёваславянскі кантэкст. Адзінства генезісу, тыпаў літаратур і характар узаемасувязей» (1996), на працягу дваццаці гадоў навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы — яна выбірае іншыя абставіны: пераязджае на сталае жыхарства ў Польшчу і становіцца прафесарам універсітэта ў Беластоку.

Можа быць, не столькі геаграфічная, колькі моўна-геапалітычная аддаленасць ад Радзімы вызначыла паэтыку і змест яе новай кнігі. Яна ўся прасякнута настальгіяй па роднаму, якое ўвасабляе найперш край маленства — «жніўнае Дараганава, дзе берагі Пцічы дубы трымаюць». Менавіта праз асабістае, сваё, уласнае перажытае Галіна Тварановіч успрымае свет, боль і праблемы іншых людзей. Нябачныя струны духоўных повязей яднаюць яе з вялікімі і славутымі нашымі суайчыннікамі: Алесем Адамовічам і Масеем Сяднёвым, Нінай Мацяш і Алегам Бембелем (Зьнічом), мастакамі Міколам Бушчыкам і Галінай Раманавай. *«У Глен Коў жывяце Вы — / прагны святла й хараства, / замілаваны цудам жыцця. / Хацела б пачаставаць Вас чарніцамі, / што растуць за дарогаю, / зусім побач бацькоўскае хаты / у лясным маім Дарганаве»*,— піша Галіна Тварановіч своеасаблівы ліст у далёкую Амерыку (верш «Чарніцы», прысвечаны Масею Сяднёву, нашаму паэту-эмігранту). А колькі душэўнага цяпла, увагі і сяброўскай падтрымкі было ў яе зносінах са шматпакутнай і мужнай Нінай Мацяш! Пра гэта сведчаць і вершы Галіны Тварановіч, прысвечаныя паэтэсе, і рэцэнзіі на яе зборнікі, што рэгулярна змяшчаліся ў беластоцкім друку, і, безумоўна, шматгадовая перапіска, апублікаваная пасмяротна ў часопісе «Тэрмапілы».

Рэлігійныя, хрысцянскія матывы па-ранейшаму дамінуюць і ў гэтай кнізе, як і ў новым зборніку «Чацвёртая стража», выдадзеным у Беластоку ў 2004 годзе. Многія творы з новай кнігі, пераадольваючы камернае гучанне, уздымаюцца да агульначалавечых, планетарных маштабаў. «*Мой час, пакалечаны стронцыем, атручаны гербецыдамі, час анямелых званоў — няўтульны кокан*», — разважала паэтэса над лёсам свайго пакалення і народу ў першай кнізе. У зборніку «Чацвёртая стража» гэты ж матыў набывае апакаліптычнае адценне.

*Золак, світанне.*
*Чацвёртая стража*
*За плячыма ў свету*
*дзве тысячы год.*
*І крочыць Хрыстос па вадзе,*
*бы мерае польны прасцяг.*
*Змыкае глыбіні, суцішвае вецер*
*не ў Галілеі ўжо —*
*Тыверыадскае мора бурлівае*
*на кожны падворак увайшло.*
*І вераю мосціцца шлях*
*скрозь пространь адчаю*
*і страху смяротнае плоці*
*Чацвёртае стражы пара.*

Разам з тым рэлігійны пачатак з часам набывае ў паэзіі Галіны Тварановіч новае адценне, якое выяўляецца, у прыватнасці, і ў лю-

бові да бліжняга, усведамленні чалавечай і Боскай вартасці кожнага, усяго, што створана Усявышнім. Якраз таму так кранальна ўспрымаюцца простыя радкі мала каму вядомага земляка Галіны Тварановіч Янкі Нечыпаловіча, узятыя за эпіграф да кнігі «Верасы Дараганава»:

*Калі б мог я жыццё пачаць нанова,*
*Зноў сяліўся б ля роднай ракі...*
*Залатое маё Дараганава,*
*Дарагія мае землякі!*

Паэзія Галіны Тварановіч і сама яе асоба сталі своеасаблівымі сімвалічнымі сувязнымі, якія сёння спалучаюць у адно цэлае літаратуру Беласточчыны і Беларусі:

*Цеханавецкі збанок,*
*бельская хата,*
*а верасы — з Дараганава,*
*што ў Пцічы на плячы*
*хваёвае прымасцілася.*

*Ад жніва да жніва —*
*мой абярог,*
*варта нядрэмная,*
*спадчына дрыгавічоў —*
*грамнічнае полымя*
*верасоў.*

Існаванне ў магічным коле сакральнага паняцця «Айчына» — гэта адна з вызначальных тэндэнцый нашай нацыянальнай паэзіі. Беларусь, яе лёс на гістарычных скрыжалях, яе будучыня і дзень сённяшні — спрадвечны пакутлівы роздум беларуса-творцы, дзе б ён ні жыў. Аднак Галіна Тварановіч —не толькі паэт, яна навукоўца і выкладчык. Усімі сіламі імкнецца яна і сама, і ў супрацоўніцтве з літаратурным аб'яднаннем «Белавежжа» сеяць зярняткі беларушчыны і на Беласточчыне, і на Беларусі. Думаецца, што ў многім дзякуючы яе старанням на старонках часопіса «Тэрмапілы» (выдаецца ў Беластоку, галоўны рэдактар Ян Чыквін) прадстаўлены лепшыя аўтары і лепшыя творы сучаснай беларускай літаратуры: Янка Брыль (з якім Галіну ядналі сяброўскія повязі), Анатоль Вярцінскі, Андрэй Кудравец, Васіль Гігевіч, Леанід Дайнека, Ніна Мацяш, Радзім Гарэцкі. Рэцэнзіі і крытычныя агляды гісторыі і сучаснага стану нацыянальнага прыгожага пісьменства прадстаўлены імёнамі нашых лепшых айчынных навукоўцаў: Міколы Мішчанчука, Людмілы Сіньковай, Ігара Жука, Зоі Мельнікавай, Алы Петрушкевіч і інш.

Падзеяй у культурным жыцці не толькі Беларусі, але і Польшчы стала выдадзеная ў 2004 годзе ва універсітэцкім выдавецтве Беластока хрэстаматыя «Старабеларуская літаратура XI–XVIII стст.» пад рэдакцыяй Галіны Тварановіч. Гэта быў першы ў Польшчы універсітэцкі дапаможнік, які, паводле словаў рэцэнзента кнігі, «заслугоўвае выключна станоўчай ацэнкі з увагі на дакументальнае «забеспячэнне найшырэйшага спектру нацыянальнай беларускай ідэі» («Тэрмапілы», 2004, 8, с. 267). Варта згадаць, што гэтае выданне было належным чынам ацэнена ў Польшчы, адзначана спецыяльнай прэміяй. У 2010 годзе Галіна Тварановіч выдала новую кнігу — «Беларуская літаратура XVI–XX стст.», якая пашырае далягляды айчыннай літаратуры для тых, хто цікавіцца нашым прыгожым пісьменствам у Польшчы, і, безумоўна, яна мае вялікае значэнне для развіцця сучаснага беларускага літаратуразнаўства.

Адна з паэтычных кніг Галіны Тварановіч пачынаецца вершам, у якім увасобіўся роздум паэтэсы над складанымі шляхамі творчага ўвасаблення мастакоўскай індвідуальнасці, у тым ліку і ўласнай.

*Марудны той разбег.*
*Вялікай птушцы крылы*
*быццам замінаюць <...>*
*Ды вялікай птушцы знаць:*
*пакрысе спеюць высі*
*і крылы крэсляць ШЛЯХ.*

Шлях Галіны Тварановіч у навуку, у паэзію быў няпросты. Ён пазначаны штодзённай руплівай працай, у тым ліку і працай душы. Яе высі сапраўды выспявалі пакрысе, і ўсё здзейсненае, і тое, што будзе здзяйсняцца, становіцца магчымым дзякуючы яе крылатаму імкненню да горніх вышыняў...

*Галіна Тычко*

**Галіна ТЫЧКО —** доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры БДУ культуры і мастацтваў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў (1993). Даследуе сучасную беларускую літаратуру, займаецца перакладамі з польскай мовы. Аўтар манаграфіі «Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнай і польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя» (2001) і шматлікіх публікацый.

Марыя Вайцяшонак
у сваім доме ў вёсцы Іслач.



# Хрысціянская аснова твораў Марыі Вайцяшонак

Духоўная плынь у сучаснай беларускай літаратуры — адна з самых прадстаўнічых і змястоўных: творы Зьніча (Алега Бембеля), Марыі Вайцяшонак, Дануты Бічэль, Галіны Тварановіч, Крыстыны Лялько, Валянціны Аксак, Галіны Каржанеўскай, Ірыны Багдановіч. Гэтыя пісьменнікі асэнсоўваюць галоўныя, асноватворныя праблемы: для чаго створаны чалавек і на якіх прынцыпах будаваць сваё жыццё.

Пра галоўнае — і ў творах Марыі Вайцяшонак (зборнікі прозы «Сярод блізкіх людзей», «Жанчына перад люстэркам», «Сад нявіннасці», «Кола», зборнік вершаў «Серпень»).

Марыя Вайцяшонак сваёй творчасцю сцвярджае хрысціянскія каштоўнасці. Нездарма яна пастаянна звяртаецца да Усявышняга: «...абы твар павярнуў да сонца, то і малітва, абы толькі ўдалося сцішыць у душы злосць, гнеў — гэта ўжо і ёсць сувязь з Богам» [1, с. 224], «павярнулася круга, пайшла святкаваць, да Бога. Усё тутака навокал Ягонае, што дасць, тое і добра – на ўсё боская воля» [2, с. 46], «жанчыны ўсміхаюцца, ідуць, несучы таямніцы: уваскрашэнне мае быць, яно магчыма ўзапраўду» [3, с. 455], «„Божа, твая воля...”, прамовіла, адчуўшы, нарэшце, над сабой уладу, вышэйшую за сваю» [2, с. 54].

Марыя Вайцяшонак нарадзілася ў сям'і польскага асадніка, высланага ў канцы 1930-х гадоў на Алтай. Там яна страціла бацькоў. Пасля былі дзіцячыя дамы, сіроцтва, здзекі (дачка «ворагаў народа»!). Ці выпадковыя ў творах Марыі Вайцяшонак такія супадзенні: «... цябе мама несла на руках, мы йшлі некуды, без напрамку, як ходзяць па свеце жабракі... галодныя... сібірскія маразы. Зачавалі, забіўшыся ў чужы хлеў, сытна пахла саломай... Морыць сон, бы ты ўжо і павячэраўшы... І зноў – дарога, вочы долу, унікліва, каб падняць што-небудзь з'есці. Да людзей не прасіліся, людзі ссыльных не пускалі... А як у хлеў зачынены трапілі, хіба, павоўчы страху здзёрлі, пачуўшы жывёльнае цяпло?.. І цяпер я ступаю ў хлеў, як у боскія сені... І цяпер люблю раптам, як прыпадак, збеднііўшыся, знайсці капейку... адчуць тую радасць ссыльнага дзіцяці, асалоду ахвяры...» («Ханна Мурза») [1, с. 121].

Хрысціянскасць пісьменніцы — і ў спакойным прыманні свайго лёсу («...ніколі не блытаючы свой лёс з чужым» [2, с. 15]), у сумленнасці, шчырасці, адкрытасці: «...даць чыстай рукой, шчыра, як пакласці на ахвярнік у храме» [2, с. 16].

Сапраўды: «Спазнаеце праўду, а праўда вас вызваліць» (Ян 8, 32). Спазнаўшы Ісціну Даравання, Любові, Марыя Вайцяшонак вучыць спакойна прымаць свой лёс: «Я не адракаюся ад самай маленькай чалавечай ролі, бо нам даецца плоцкае сэрца замест каменнага не толькі дзеля нас саміх» [1, с. 138]. Аўтарытэтны хрысціянскі прапаведнік протаіерэй Аляксандр Шмеман (1921–1983), пісаў: «Веліч толькі ў тым, каб дарэшты і цалкам быць самім сабой!» [4, с. 327]. У адным са сваіх інтэрв'ю Марыя Вайцяшонак сказала: «Лёс, жыццё — гэта школа, навука, ён даецца дзеля развіцця душы» [5, с. 79].

Вядомая хрысціянская ісціна пра тое, што праз пакуты адбываецца духоўны рост чалавека. Хоць і горкая ў пісьменніцы памяць пра вяскоўцаў, якія імгненна разрабавалі маёмасць асадні-

ка («пакуль дазналася маміна сястра, сялянка, усё ўжо было разрабавана, толькі вазоны на вокнах засталіся... Ніхто не паасцярогся, што яна самая бедная ў вёсцы, і асаднік Антэк быў надта хвалёны...» [1, с. 45]), пра людзей у ссылцы («да людзей не прасіліся, людзі ссыльных не пускалі» [1, с. 121]), пра дзіцячыя дамы («„Бей белых поляков!" – крычалі дзеці... Б'юць наўздагон камянямі» [2, с. 150]), але яна не трымае ў сэрцы крыўды. Хрысціянская душа. Нездарма Марыя Вайцяшонак цытуе словы ксяндза Яна Сохана: «Толькі памятай: калі не любіш, спусташаеш свет» [1, с. 35]. І беларуская душа, бо для пісьменніцы родны і дарагі і каталіцкі, і праваслаўны храм.

І, вядома ж, творы Марыі Вайцяшонак – пра Любоў, галоўную хрысціянскую каштоўнасць: «Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адзін аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адзін аднаго» (Ян 13, 34). Пісьменніца сцвярджае: «Любоў дае нам вышэйшае неба, каб выпрастацца ў поўны свой рост, дае нам жыццядайнае святло, без якога не існуе нават трава» [6, с. 171].

Вызначальную ролю ў жыцці Марыі Вайцяшонак, у яе духоўным жыцці адыграла яе родная цётка Марыля, якая, самая бедная ў вёсцы, даведаўшыся, што родныя пляменніцы выжылі ў ссылцы, выхоўваюцца ў дзіцячым доме, выклікала іх да сябе. Цётка Марыля вучыла любові, дабру, спачуванню, вучыла духоўнаму жыццю — як жыць і як маліцца: «Я гадавалася, бы ў Маткі Боскай на вачах, — мая цётка Марыля, сялянка, мовіла каля мяне пацеры і за бацькоў, і за тых, хто здзекаваўся.... І не перад абразамі, то седзячы на ўслоне, то на ложку, і ў полі, і ў лесе, бы раптам адчуе, што Ён недзе блізка. Насупраць, каленцамі ў каленцы, як на бяседзе — самы час і пагаварыць» [6, с. 98]. Пра сваю цётку Марылю пісьменніца скажа: «Душа мая міма зямнога раю не прайшла — я маю дасканалы абраз, менавіта абраз чалавека» [6, с. 79].

Марыя Вайцяшонак сцвярджае важнасць пачуцця радасці: «...радасная істота найбліжэй да Бога» [1, с. 174], «радавацца кожны раз, калі ты проста пераступаеш парог не толькі знадворку, а з аднаго пакоя ў другі, праходзіш побач» [1, с. 174]. І гэта побач з пякельнай памяццю роду: «Бо маю свой, паточаны часам камень, ён мне парогам разбуранага дому маіх бацькоў. І дзе б ні была ў свеце, іду найперш да скляпенняў, руін, падмуркаў — я плакальніца па кожным» [1, с. 207–208]. Радасць — адна з базавых катэгорый у хрысціянстве. У апостала Паўла: «Радуйцеся заўсёды ў Пану; яшчэ радз кажу: радуйцеся!» (Флп 4, 4–7). У А. Шмемана: «Радасць таму мае такое важнае значэнне, што яна ёсць вынік адчування Боскай прысутнасці. Нельга ведаць, што Бог *ёсць*, і не радавацца. І толькі ў адносінах да яе з'яўляюцца сапраўднымі, правільнымі, плённымі і страх Божы, і пакаянне, і пакора» [4, с. 297]. У Марыі Вайцяшонак: «Ці плакаў бы, ужаліўшыся, так шчыра чалавек сам-насам, каб не адчуваў у адчайную хвіліну побач з сабой Бога» [2, с. 50].

Творы Марыі Вайцяшонак — натуральнае спавяданне хрысціянскага. Пісьменніца сцвярджае веру ў лепшае ў чалавеку: «Кожнага на добрае можна павярнуць, не трэба толькі самому благому патураць» [2, с. 37], «пэўна, вера ў Бога не можа існаваць без веры ў чалавека» [2, с. 64]. Марыя Вайцяшонак зберагае, чыстае, сумленнае, сапраўднае. І радуецца, адкрываючы добрае ў людзях: «Адчуванне дасканалага імгнення, калі душа падымаецца над табой, а ты, амаль не дыхаючы, нема азіраешся, нічога не пазнаючы, ідзеш па вясковай дарозе, перабіраеш нагамі, як прывід. Пэўна, у такія хвіліны цябе ўжо ніхто не бачыць, які ты ёсць. І сам не памятаеш аніводнай недарэчнасці ў жыцці ні сваёй, ні чужой. Толькі вось гэта ў чалавеку на тваёй дарозе вартае ўвагі. Якое цудоўнае, якое неспадзяванае жыццё, як бы мы адзін аднаго ні калечылі» («Я сядзела насупраць...») [1, с. 100].

У сваіх апавяданнях Марыя Вайцяшонак пастаянна ўзгадвае хрысціянскія храмы, хрысціянскія святы («Лазня, Чысты Чацвер, Вялікдзень, прыбраная хата — прывіды ўнутранага свету. Святло ад тонкага палатна ручнікоў, настольнікаў, як ад плашчаніцы» [1, с. 25]), імёны святых (найперш Францішка Асізскага), апелюе да іх вопыту. Кранае ўспрыманне пісьменніцай іконы з Маткай Боскай: «Мне ж заўсёды, гледзячы на Матку Боскую, здавалася, што няма ў жыцці жанчыны такой хвіліны, такога спакою: спакой у самой сябе на плячы, спакой над дзіцем» [6, с.70].

Творы Марыі Вайцяшонак сведчаць пра інтэнсіўнасць духоўнага жыцця пісьменніцы, яны — як дапаможнік па катэхізацыі, па хрысціянскай этыцы: «Але душа не заўсёды гатовая да споведзі — да царквы раіла б ісці доўга, доўга рыхтавацца. Шкодзіць чалавеку будзённа мінаць храм з дня ў дзень, тое самае, што павесіць абраз у парозе. Дзе надоўга не спыняешся, не засяроджваешся» [1, с. 12].

Марыя Вайцяшонак піша пра тое, што кожны чалавек пакліканы. Так пра інваліда яна гаворыць наступным чынам: «Ніхто тут не сумняваецца, што ён мае вартасць у боскіх вачах» [1, с. 131]. У апавяданні «Купіць дом у Італіі» чытаем: «Сюды жабракоў Бог пусціў дзеля знаку, напамінку: кожны чалавек мае сэнс — святы Францішак, ходзячы па зямлі, нават на каменне ступаў з страхам і глыбокай пашанай. Адчуваючы любоў да таго, хто назваў сябе каменем» [1, с. 132]. Дарэчы, хрыс-

цiўшыся, пісьменніца ўзяла сабе другое імя — Францішка, у гонар яе заступніка святога Францішка Асізскага: «Святы Францішак будзе суправаджаць маю душу ўсё астатняе жыццё — і ўвесь час горнай дарогай» [1, с. 137].

Марыя Вайцяшонак піша пра важнасць Сустрэчы, сустрэчы чалавека з чалавекам і чалавека з Усявышнім: «Стаім, смяёмся над гэтымі грашыма, абое разумеючы ў жыцці большае за іх і радыя ім як прычыне спаткацца – загаварыць, усміхнуцца, прывітацца...» [1, с. 138]. У апавяданні «Партрэт невядомай» чытаем: «Прыходзіць на Вялікдзень з свянцонай соллю, прыходзіць з дня ў дзень, ідзе, падымаецца з-за пагорка маіх згубаў, майго недаверу. Адкуль, пра каго ёй наказалі і хто ён, каб так дакладна ведаць, што я ў небяспецы? І чым, як мяне ратаваць? ... „Ты быццам паслана нейкім...“ — вымаўляю назгад. „Мы ўсе адзін аднаму пасланыя...“ — адказвае прарочыцай» [1, с. 147].

У сваіх творах Марыя Вайцяшонак сцвярджае, што жыццё само па сабе — Божы дар: «Побач лес, рака, поле, красуе адна прырода, а чалавек тут жыве толькі дзеля карысці, ну і хай сабе! На кожным кроку зямля накшым строем. Квяцісты змрок, вунь пагорак, маладая зяляніна, мяккі авал, амаль пяшчотны, рухомай хваляй ладкуецца на ноч, хочацца ступіць — не адважышся» [1, с. 43].

Разуменне жыцця як дару сцвярджаў у сваіх работах Аляксандр Шмеман: «Страшэнная памылка сучаснага чалавека: атаясамліванне жыцця з дзеяннем, думкай і г. д. і ўжо амаль поўная няздольнасць жыць, гэта значыць адчуваць, успрымаць, „жыць“ жыццё як бесперапынны дар. Ісці на вакзал пад дробным, ужо вясеннім дажджом, бачыць, адчуваць, усведамляць рух сонечнага промня па сцяне — гэта не толькі „таксама“ падзея, гэта і ёсць сама рэальнасць жыцця. Не ўмова для дзеяння і для думкі, не іх безуважны фон, а тое, па сутнасці, дзеля чаго і варта дзейнічаць і асэнсоўваць. І гэта так таму, што толькі ў гэтым дае нам Сябе адчуць і Бог, а не ў дзеянні і не ў думцы» [4, с. 15].

Вынайдзенае, зразуметае Марыяй Вайцяшонак надзвычай сугучнае і думкам А. Шмемана: пра суаднесенасць, праяўленне Божага Валадарства праз свет фарбаў, гукаў, рухаў, «адчуванні жыцця ў яго цялеснасці, увасобленасці, рэальнасці, непаўторнай унікальнасці кожнай хвіліны і яе паўнаты» [4, с. 52]. Скразны ў творах пісьменніцы — вобраз Саду. Сад — сімвал упарадкаванасці, стабільнасці, апрацаванасці, уладкаванасці прасторы, своеасаблівая мадэль Сусвету. Дзмітрый Ліхачоў пісаў: «Сад — аналаг Бібліі, таму што і сам Сусвет – гэта матэрыялізаваная Біблія» [7, с. 19]. Нездарма адно з апавяданняў пісьменніцы мае назву «Рэлігія саду»: «Я бачу работу, чую яе, мяне амаль клічуць да сябе – голас саду, ён патрабавальны. І калі што не ў парадку, у мяне ў самой збіваецца пульс. Сад квітнее. Сад пануе — я слугую яму» [3, с. 458]. У апавяданні «Дом вокнамі ў сад» чытаем: «Трэба жыць, трэба зрушыць ейны „каўчэг“ пасярод маркотнага разводдзя бульбоўніка, ўратаваць кожную зёлку, салодкую яблыню дзеля Спаса, кожны зярнюк заводнай кветкі. Хіба не чулі, што Бог пасе коней апакаліпсіса там, дзе раскашуе дзікая трава...» [1, с. 171].

Сваімі творамі Марыя Вайцяшонак жадае палепшыць свет вакол сябе, узаемаадносіны паміж людзьмі так, як парадкуюць, даглядаюць *Сад* гераіні яе твораў: «Сёстры будавалі дом самі, адрамантаваўшы старую сялянскую хату, і пільна вартавалі ўсіх, хто сяліўся побач: ластаўчына гняздо, шпакоў, нават злодзейку сароку на дзічцы. І кветкі, тут кожная кветка дабывала да пары, красавала на сваім карані, спяліла семя» («Ханна Мурза») [1, с. 119]. Словы Марыі Вайцяшонак: «У яе толькі вось гэты кавалак зямлі пад нагамі, яго трэба ўрабляць, як сад у вёсцы» [1, с. 174] — як жыццёвае і творчае крэда пісьменніцы. «Урабляць» — значыць упрыгожваць, рабіць лепшай і тую жыццёвую прастору, у якой існуеш, і ачалавечваць свет, людзей.

Менавіта пра тую сапраўднасць быцця, якая заключаецца ў адчуванні, перажыванні кожнага імгнення Быцця, «у адным рытме з уздыхамі вечаровай зямлі» [3, с. 459] — творы Марыі Вайцяшонак. Пісьменніца сцвярджае радасць няспешнага быцця: «Нават папалуднаваць на сенакосе ці проста адпачыць на некалькі хвілін вясковец садзіцца, як сонца: павольна, урачыста, прыглядаецца, выбірае месца, куды, у які бок тварам, да чаго спінай, пад вецер ці ўцяньку, каб засяродзіцца, каб паўсвядома супасці з рытмам мясцовасці...» («Сведка») [1, с. 10–11].

Сапраўднасць быцця Марыя Вайцяшонак адчувае толькі ў вясковага чалавека. Адсюль — пастаянны зварот да лёсу вяскоўцаў, асабліва жанчын, чыё жыццё бачыцца пісьменніцы як *жыціе*: «Кожны гук размеркаваны, усё па сваім часе — па сонцы, па зорах, па месяцы. Штодзённае покрыва расхінецца, і мне пакажацца іхняе нібыта марнае жыццё жыціем» [1, с. 28]. Таму так пільна яна ўглядаецца ў вясковыя лёсы, твары, жыцці (апавяданні «Ад халоднага боку сонца», «Каціўся пярсцёнак», «Сухія навальніцы», «Сад нявіннасці»,«Мы з аднаго поля», «Кола», «Знакі на далоні», «Я сядзела насупраць...», «Свет вячэрні», «Чорны саган», «Паядынак», «Месячная камея»). Успрымае вяскоўцаў дэміургамі: «Мне дык і Рыгор з Агатай, і тая Манька, злосніца Стасіна, сядзелі недзе незадалёка ад самога Бога, таксама, можна сказаць, стварыўшы й зямлю і ваду» [2, с. 40].

Гераіня Марыі Вайцяшонак

надзвычай чуйная да ўсяго, найперш безабаронных, да сіратаў («Тэрарыстка»), да жывёлаў, птушак («Ханна Мурза», «Коні»): «Найбліжэй да яе бязгрэшныя звяры, дзеці. І старыя людзі, няўжо толькі таму, што яны ўжо слабыя, бездапаможныя — не маюць сіл зрабіць шкоду ці злачынства!?» [1, с. 169]. Адсюль і боль ад вынішчэння жывога: “Усюды, як на тое, дурныя знакі нічогага чалавека, быццам ён, гэты чалавек, і не тутэйшы, і наогул — не жылец» («Ханна Мурза») [1, с. 122].

І, канешне ж, базавай каштоўнасцю ў сапраўдным існаванні з'яўляецца Дом. Менавіта з вялікай літары. У пісьменніцы Дом — «Храм Быцця» (апавяданні «Купіць дом у Італіі», «Дом вокнамі ў сад», «Дом на захадзе дня», «Дом над лесам»). Дом — цяпло, абарона, адпачынак, утульнасць, еднасць, крэўнасць: «Смачней, калі адна ласуецца? І ёй не гарчыць гэты смак адзіноты, быццам яшчэ не зведана сямейнае, няма тут чалавека, з кім хацелася б падзяліцца» [1, с. 84].

Свет для пісьменніцы — Дом Бога, адсюль і адпаведная этыка паводзін: «...гэтая гатоўнасць усміхнуцца, загаварыць, прывітацца, быццам мы ўсе запрошаныя ў госці і сустрэліся ў доме Гаспадара» [1, с. 137], «ніхто не ўзяўся растлумачыць яму, што не толькі вайной можна ачысціць душу, а дзень у дзень трэба над ёй працаваць, каб яна лепшала, харашэла» [6, с. 122]. Ці ў іншым апавяданні: «Па мне дык Благавешчанне кожны раз, як толькі ўбачу на вуліцы Надзю — век да людзей з дабром» [6, с. 11].

Марыя Вайцяшонак адмаўляецца прымаць каштоўнасці спажывецкага свету, прымаць яго тэмп, логіку і танальнасць. Пісьменніца сцвярджае сваімі творамі: жыць — як рыхтавацца да споведзі, асэнсавана, па-сапраўднаму, не мітусліва: «Цяпер я вылечылася ад пуду, чым бы ні займалася: я гатую каву, я „выхоўваю сад“, і не на французскі манер, — тут ён звычайна нязмушана пераходзіць да самой прыроды. Я распальваю камін — робіш работу, быццам чытаеш вершы. Кожны мой рух адбіваецца ў вечнасці, бы ў люстэрках. Нічога тут не губляецца — ты цяпер звычайная служыцелька свайго Храму Быцця, Дрэва, Каменя» [1, с. 135–136]. Для пісьменніцы важна не растраціць сябе на дробязнае, мітуслівае, захаваць у сабе сутнаснае, Богам дадзенае. Менавіта ў спакоі, цішы і спасцігаецца Сапраўднае. Толькі сцішыўшыся, засяродзіўшыся, адасобіўшыся ад выпадковага, магчыма спасцігнуць, зразумець таямніцу быцця. Марыя Вайцяшонак сцвярджае гэтую думку самой сваёй павольнай манерай пісьма. Вось радкі з інтэрв'ю з пісьменніцай: «Я не магу прыняць жыццё такім, якое яно ёсць, — хаатычным, бы ў непрытомнасці, жорсткім. Я ўвесь час супрацiўляюся гэтаму, хаджу ўборкі, каб выляпіць жыццё, згоднае са сваім тэмпераментам і густам. Сапраўды, я, пэўна, замнога творчасці і энергіі ўкладваю ў сваё жыццё, каб вакол мяне атрымаўся круг чыстай вады...» [5, с. 88].



Куточак веранды ў ісляцкім доме.

А. Шмеман пісаў: «Уся культура і ўсё ў культуры — у рэшце рэшт — пра Божае Валадарства, за ці супраць. Таму што культура складаецца з „рэалізацый“ скарбаў сэрца („дзе скарбы вашы...“)» [4, с. 188]. Творы Марыі Вайцяшонак — за Божае Валадарства. Яны ўзмацняюць маральнае, этычнае гучанне беларускай літаратуры.

*Анжэла Мельнікава*


1. Вайцяшонак, М. Кола. Апавяданні. – Мінск, выдва «Про Хрысто», 2004.
2. Вайцяшонак, М. Сад нявіннасці. Апавяданні. – Мінск, 2002.
3. Вайцяшонак, М. Рэлігія саду // ARCHE. – 2007. – 11. – С.455 – 464.
4. Шмеман, А., прот. Дневники. 1973–1983 // Сост., подгот.текста У. С. Шмеман, Н. А. Струве, Е. Ю. Дорман. – Москва, 2007.
5. Вайцяшонак, М. Творчы партрэт // Крыніца. – 2002. – 7–8. – С. 75–128.
6. Вайцяшонак, М. Жанчына сярод людзей: Апавяданні, нарысы. – Мінск, 1993.
7. Лихачёв, Д.С. Поэзия садов: к семантике садово-парковых стилей. – Санкт-Петербург, 1991.


**Анжэла Мельнікава** — дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Беларуская літаратура XX стагодзя ў еўрапейскім кантэксце» (2007), «Паэтыка твораў Кузьмы Чорнага» (2008).




# ПАЗНАЦЬ УЛАСНАЕ СЭРЦА...

**Хюнерман, В. Нищий из Гранады: Святой Иоанн Божий. — Пер. с нем. И. Бурак. — Минск: Про Христо, 2010.**

Чытаючы гэтую кнігу, я здзівілася сама з сябе: наколькі кволае маё ўяўленне пра любоў у свеце, наколькі вузкі — досвед міласэрнасці і наколькі ўсёабдымнае — імкненне абмежаваць і дыстансаваць ад іншых прастору ўласнага «я». І ў чарговы раз прыйшла да высновы: наіўна баяцца ці саромецца дзівакоў, «шаленцаў» і «вар'ятаў», бо сапраўдная святасць амаль заўсёды знаходзіцца дзесьці на ўзмежку зямной мудрасці, па-за стандартнымі ўяўленнямі пра чалавечую разважлівасць.

«Эль локо! Эль локо! Полоумный! Полоумный!» — гэта бадай найбольш частая фраза ў дыялогах паміж персанажамі кнігі Вільгельма Хюнермана, скіраваная ў адрас яе галоўнага героя, Хуана дэ Дзіяса (у Беларусі ён шануецца як святы Ян Божы). Некалькі разоў лёс прапаноўваў Хуану прыстойны лад жыцця, звязаны з такімі высакароднымі заняткамі як стварэнне і ўтрыманне сям'і, праца на ўласнай гаспадарцы, пасля — вайсковая кар'ера... Можна было б зрабіць выснову, што чалавек, які ў свае амаль трыццаць гадоў адмаўляецца ад усяго гэтага, не робячы ніякіх канкрэтных крокаў у іншых сферах жыцця, проста дзіўнаваты летуценнік, які сам не ведае, чаго ён хоча. «Знаете, вот так я и слышу далёкий, далёкий зов, в котором я теперь ещё не могу ясно разобраться. Но однажды я пойму, что он значит, и последую за ним. Это не саудаде, не смутная тоска зовёт меня. Это что-то иное», — прызнаецца Хуан на пачатку рамана.

У кожнага з нас, чытачоў, ёсць свой «кліч» аднекуль здалёку і сваё «саудаде»... Але бывае, што мы, занадта нецярплівыя ў чаканні таго, калі ж выявіцца Божая воля, часта заглушаем гэты «кліч» сярод штодзённых справаў і клопатаў, прымаем паспешлівыя рашэнні, расчароўваемся і наракаем... Знаходзіцца ў стане бесперапыннага слухання — вось што, аказваецца, найбольш важна на шляху, які так часта пакрываецца цемраю і сумненнямі. Няхай гэтае няяснае слуханне працягваецца нават гады і дзесяцігоддзі, і нам здаецца, што час праходзіць бессэнсоўна, і праца, якую мы робім, нявартая прыкладзеных да яе намаганняў. «Бог позволяет нам иногда долго оставаться во тьме сомнений, но однажды даёт нам познать Свою волю, словно вспыхивает яркий свет. И тогда делайте, что Он вам велит!» — разважае Хуан дэ Дзіяс ужо напрыканцы кнігі.

Такім чынам, можна сказаць, што кніга В. Хюнермана «Жабрак з Гранады» з'яўляецца аповедам пра ўслухоўванне ў Божы покліч і распазнанне Божага плана адносна кожнага чалавека ў шчыльнай павуціне нашых асабістых планаў.

Нягледзячы на тое, што гэта твор мастацкі, эмацыйна насычаны, месцамі вельмі экспрэсіўны, несумненна, ён мае біяграфічны характар. У яго аснову пакладзены жыццяпіс святога Яна Божага (1495–1550), які нарадзіўся ў Партугаліі, але ў 8-гадовым узросце трапіў у Іспанію, дзе і пражыў амаль усё сваё жыццё, даўшы першы прыклад рэалізацыі харызмы баніфратраў.

Вільгельм Хюнерман з насычанага жыццяпісу святога адбірае здарэнні, якія выяўляюць кантрастнасць жыцця наогул, падкрэсліваюць частую неадпаведнасць зямной мудрасці і мудрасці нябеснай. Можна нават сцвярджаць, што кампазіцыя рамана пабудаваная па прынцыпе антыномій, якія могуць праяўляцца ў хрысціянскім светаадчуванні: з аднаго боку, чалавек па-

вінен адчуваць сябе ўсыноўленым дзіцем Божым, дзіцем Валадара і Збаўцы, з другога боку, ён павінен быць гатовым да таго, каб стаць самым убогім і апляваным іншымі «вар'ятам»; з аднаго боку, яго могуць прымаць у каралеўскім палацы, з другога — ён павінен умець задавольвацца «гасцініцай на сямі ветрах», або проста куточкам пад аркаю брамы, пад навесамі каля ўваходу у касцёл, каля прыступкаў раскошных палацаў; з аднаго боку, чалавек павінен прамяніцца ціхаю пакораю перад жыццём і людзьмі, з другога — быць здольным да дзёрзкасці ў справах, якія датычацца абароны любові... Гэты ланцужок супастаўленняў на аснове твора В. Хюнермана можна працягваць вельмі доўга. Надзвычай красамоўна пра неспасцігальнасць Божай мудрасці і міласэрнасці гаворыць сам галоўны герой твора, Хуан дэ Дзіяс: «Они будут бить по рукам, несущим им помощь. Они будут оскорблять вас и оплёвывать за сделанное им добро. Насмешки, издевательства и злословие вы будете пожинать там, где посеете милосердие. И всё же вам надо видеть за всеми этими убогими, искалеченными, больными, отвратительными людьми лик терпящего нужду Господа». Здавалася б, як можна ўбачыць аблічча Бога ў ненавісных вачах злодзея або забойцы, які пры выпадку і на ваша жыццё гатовы ўчыніць замах? Урэшце, як можна паверыць у тое, што ідзеш па правільным шляху, калі пад прытулкам тваёй шчырай любові кучкуецца і квітнее «эліта» вулічных злачынцаў? Увесь свет, здаецца, спрабуе расплюшчыць твае вочы на гэта. Але ты ім верыш, гэтым прайдзісветам і п'яніцам... Ты іх зноў і зноў прытуляеш, корміш і ідзеш на вялікую рызыку дзеля таго, каб даць ім усё неабходнае для пражыцця. Ці ёсць у гэтым рацыя? Сэнс? Ці не з'яўляецца гэта апраўданнем гультайства і нядбайнасці ў тых, каму ты дорыш сваю міласэрнасць? Так ці інакш гэтыя пытанні гучаць у галасах тых, хто атачае Хуана дэ Дзіяса. Адказ на іх, паводле сюжэта твора, дае сам Бог праз учыненыя Ім цуды.

Сапраўды, цуды як традыцыйны элемент жыццяпісаў святых, пачынаючы ад старажытных жыцій, прысутнічаюць і ў творы Вільгельма Хюнермана. Пры гэтым аўтару ўдалося аб'яднаць трансцэндэнтны характар апісаных цудоўных здарэнняў з іх псіхалагічным абгрунтаваннем у жыцці персанажаў: асноўнай думкай пісьменніка з'яўляецца тая, што да цуду чалавек павінен быць падрыхтаваны ў сваім сэрцы, у цуд ён павінен паверыць, павінен чакаць яго, каб распазнаць, калі ён урэшце здарыцца. «Мы окружены чудесами, и их гораздо больше, чем мы вообще представляем, больше, чем распознают их наши притуплённые чувства. Бог оберегает каждого человека до его последнего часа, который определён Его святой волей», — тлумачыць сваім памочнікам Хуан.

Каб паказаць выйсце чалавека насустрач цуду, В. Хюнерман скрозь насычае свой твор пафасам гeроікі, якая таксама знаходзіцца на мяжы «шаленства» і святасці. Хуан неаднаразова дазваляе свайму сэрцу, а дакладней, веры, узняцца над розумам: сапраўды, толькі ў «шаленца» можа быць бясстрашша перад ахопленым полымем шпіталем, перад бязлітасным водным патокам або перад смяротнаю заразаю. «Вы не знаете собственного сердца!» — гаворыць Хуан тым, хто спрабуе кіравацца выключна здароваю логікаю і патрабуе ад жыцця таго, што яму нібыта па праву належыць. І, як заўсёды, ён дапамагае чалавеку здзіўляцца ад гэтага пазнання, захапляцца і распазнаваць цуд...

Нібы дзеля таго, каб выявілася бессмяротнасць падобных чалавечых сэрцаў і справаў, раман «Жабрак з Гранады» ў дадзеным выданні дапоўнены сціслымі гістарычнымі звесткамі пра ўзнікненне і развіццё ордэна баніфратраў, біяграфіяй святога Яна Божага і многіх яго паслядоўнікаў, якія працягвалі па прыкладзе свайго настаўніка лячыць целы і душы хворых, бяздомных, пакінутых і жабракоў.

Чытацкую асалоду прыносіць натуральнасць і лёгкасць стылю, характэрнага для перакладу кнігі В. Хюнермана, зробленага з нямецкай мовы Ірынай Бурак. Насычанасць рамана гістарычнымі звесткамі і яскравым каларытам сярэднявечнай Іспаніі не абцяжарвае чытача дзякуючы іх эмацыйнай перадачы і ўмелым перакладчыцкім каментарам. Уяўленне пра жыццяздольнасць і актыўнасць ордэна баніфратраў дадаюць фотаздымкі і выявы абразоў, якімі аздобленая кніга.

І яшчэ... Чамусьці менавіта гэтая кніга — як вынік дасканалага аўтарства Бога ў жыцці святога Яна Божага — дапамагла мне пераканацца ў тым, што кожны з нас павінен пражыць сваю ўласную «кнігу», і кожнаму з нас не абысціся без дапамогі «перакладчыкаў» і «каментатараў» Божае мовы любові. І ў кожнага ў душы ёсць тое месца, тая маленькая «Гранада», дзе ён з'яўляецца жабраком, слабым і безабаронным. Але ці не гэта павінна стаць вытокам патэнцыяльнае моцы і багацця бясконцых дароў, «шалёнае» веры і пільнасці ў распазнаванні цудаў?..

*Ганна Серэхан*

---

**Ганна Серэхан** — магістрантка філалагічнага факультэта БДУ, супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo». Нарадзілася ў в. Багушы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Закончыла філфак БДУ (2007). Займаецца даследаваннем польскамоўнай плыні беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010).

Юры Лаўрык

# КНІГАЗБОРЫ МІНСКІХ БЭРНАРДЫНАЎ У 1796 ГОДЗЕ



Разгортка кнігі А. Стэфановіча з панегірыкам на герб вялікіх князёў літоўскіх (кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі). Фота А. Крапіўкі.

Заснаванне бэрнардынскага канвента ў Мінску сягае дваццатых гадоў XVII ст. Гэтым жа часам мы можам датаваць і ўзнікненне ягоных кнігазбораў: законнікі мусілі цэлебраваць набажэнствы і прадпісаныя статутам малітвы, мусілі чытаць літаратуру як для ўласнага духоўнага станаўлення, так і для павучання свецкіх, бо выконвалі функцыі прапаведнікаў. Кляштары ў той час нярэдка гарэлі[1], і на пачатку 1640-х гг. — праз няпоўныя 20 гадоў пасля заснавання — згарэў і бэрнардынскі канвент)[2]. Пра некалькі пажараў, што нішчылі кляштар у сярэдзіне XVIII ст., згадвае ў сваёй кнізе «Площадь Свободы в Минске» даследчык архітэктурнай гісторыі сталіцы Уладзімір Дзянісаў[3]. Падчас пажараў разам з канвентам нярэдка згараў і ягоны кнігазбор, таму пра бібліятэку таго ці іншага кляштара заўсёды трэба гаварыць з прывязкай да пэўнага перыяду часу, і сёння мы засяродзім нашую ўвагу на 1796 годзе.

### Літургічны кнігазбор мінскіх бэрнардынаў

Кніжныя зборы ў мінскім канвенце бэрнардынаў, як і ў іншых каталіцкіх кляштарах, падзяляліся на дзве часткі: літургічную бібліятэчку, прызначаную для багаслужбы, і ўласна манастырскую бібліятэку, арыентаваную на чытанне, вучобу ды выкананне законнікамі душпастырскіх абавязкаў.

Дакументы візітацыі канвента мінскіх дамініканаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, уключаны ў візітацыйныя матэрыялы касцёлаў і кляштараў Мінскага дэканата за 1796 — 1797 гады. З іх мы ведаем, што кнігі, неабходныя для набажэнства, збіраліся ў сакрыстыі касцёла. Літургічны збор мінскіх бэрнардынаў у гэты час меў склад досыць характэрны — працытуем сам дакумент: «Xiążki znajdujące się w Zakrystyi są te: Mszały, Rytuały, Graduały, Antyfonarze, Agentki, Ewangeliczki, Brewiarze, y inne służące ku chwale Bożej»[4]. Такім чынам, у касцёльным кнігазборы былі ўсе неабходныя выданні.

На жаль, пра аб'ём гэтай бібліятэчкі нічога пэўнага мы сказаць не можам, бо колькасць паасобнікаў не ўказаная і нават не ўсе кнігі пералічаныя. Тым не менш, паколькі кнігі названыя ў множным ліку, а значыць былі, прынамсі, у двух паасобніках кожная, можна сцвярджаць, што ў касцёльным кнігазборы захоўвалася не менш за паўтары дзесяткі тамоў.

### Бібліятэка мінскага бэрнардынскага канвента

Што датычыць уласна кляштарнай бібліятэкі, дык у 1796 г. яе вопіс змяшчае 450 пазіцый у, прыкладна, 858 тамах[5]. Апісанне друкаваных выданняў у гэтым інвентары даволі падрабязнае: указваецца імя аўтара (з

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

пазначэннем яго прыналежнасці да закону), назва, фармат, а нярэдка і выходныя дадзеныя, што дае магчымасць даволі дакладна ідэнтыфікаваць выданне.

Кнігі ў інвентары размеркаваныя паводле тэматычных раздзелаў. Усярэдзіне больш шматлікіх паводле колькасці тамоў раздзелаў пазіцыі згрупаваныя пад адпаведнымі літарамі альфабету. Кожны раздзел, названы «Titulus», мае ў загалоўку свой парадкавы нумар і акрэсленне тэматыкі змешчаных у ім кніг. Напрыклад, першы з іх азначаны: «Titulus 1mus Ascetae», што даслоўна перакладаецца як: «Раздзел 1: аскеты» (кнігі па аскетыцы і духоўным дасканаленні). У ім пералічана ўсяго 63 пазіцыі ў, прыкладна, 102 тамах; некаторыя кнігі налічваюць ад двух да пяці паасобнікаў. Прысутнічае і адзін манускрыпт, месца і дата паходжання якога не паказаныя, — «Liber Asceticus scriptus, seu Meditationes. In 8vo».

З найбольш вядомых твораў гэтага раздзелу назавём такія, як «Soliloquia» Аўгустына, «Speculum Novitiorum» Бонавентуры, «Actus virtutum» Мараўскага, а таксама «Exercitia Spiritualia» Ігнацыя Лаёлы, якія далі пачатак новаму шляху духоўнага самаўдасканалення. Кажучы пра падручнікі ды дапаможнікі, згадаем трактат Дабрасельскага «Teologia Ascetica», які захоўваўся ў бібліятэцы ў двух паасобніках. Сярод разнастайных медытацый, развažанняў, рэкалекцый і да т. п., але разам з літаратурай па самадасканаленні, былі і рознага роду малітоўнікі, а нават адна кніга, якую можна аднесці да духоўнай паэзіі — «Carmina Ascetica Polono-Latina» Квяткевіча, выдадзеная ў Вільні ў 1762 годзе.

Наступныя раздзелы ўключаюць выданні Бібліі, працы па катэхетыцы, крыніцы для падрыхтоўкі казанняў, зборнікі прапаведніцкіх твораў ды іншыя творы. Другі раздзел мае загаловак *«Titulus 2dus Biblia»* і змяшчае 6 выданняў Святога Пісання, а таксама паасобныя кнігі Бібліі — Псалтыр, Выслоўі Саламона, Эклезіяст, Мудрасць, Эклезіястык (Мудрасць Сіраха) і кнігу Тобія, перакладзеную па-польску вершам. Апрача таго, сюды ж уваходзіць і падраздзел «Bibliorum Concordantiae». Не надта вялікі і раздзел трэці — «Titulus 3tius Catechistae». Ён змяшчае некалькі выданняў каталіцкіх катэхізмаў (у т.л. 8 паасобнікаў кананічнага посттрыдэнцкага «Рымскага катэхізму»), а таксама досыць пашыраныя ў кляштарных бібліятэках кнігі: «Nauki dla ludu pospolitego» Паўлоўскага ды «Zbiór powinności chrześciańskich» Вітвіцкага.

Затое наступны раздзел ужо значна больш абшырны і мае вымоўную назву: «Titulus 4tius Concionatorum fontes» — «Раздзел 4: прапаведніцкія крыніцы». Сюды ўваходзяць творы айцоў Касцёла, экзегетычныя працы, дапаможнікі па гамілетыцы і іншыя. На першым месцы ў гэтым раздзеле знаходзяцца творы св. Аўгустына ў 2-х тамах, 3-тамовы каментар Ле-Бланка на Кнігу псальмаў, каментар Адама Концэра на Чацвёраевангелле, 10-тамовы збор каментараў на кнігі Святога Пісання Карнэля з Ляпіды і іншыя кнігі. У гэтым раздзеле шматтомнікі пераважаюць над аднатомнымі выданнямі. З найбольш папулярных у кляштарных бібліятэках XVIII ст. можна назваць «Discursus Morales» Дрэкселіуса, «Bibliotheca Concionatoria» Гудрыя, «Moralis Encyclopedia» Марцэліні, «Poliathea Sacra» Спанера.



Тытульны аркуш зборніка казанняў бэрнардына Антона Стэфановіча (кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі). Фота А. Крапіўкі.

«Titulus 5tus Conciones» («Казанні») блізкі да папярэдняга раздзелу паводле свайго зместу: у ім пералічаюцца як падручнікі і дапаможнікі па гамілетыцы ды царкоўным красамоўстве («Arnoldi Bojoscensis Capucini Eloquentia [E]xt[e]rna», «Picinelli Can[onici]. Later[anensi]. Labores Apostolici in Dom[inicis].»), так і зборнікі рознага роду казанняў ды прамоваў («Benedykta od Sw. Józefa S[cholarum]. P[iarum]. kazania różne», «Godlewskiego Bernar[dyna]. Kaz[anie]. Pogrzebowe Oskerczyney Mar[szalkowey]. Mozyr[skiey].», «Zbior Kazan, Mów, Panegiryków, tudzież Konstytucij o sejmu 1726»). Усяго прысутнічае 102 пазіцыі ў 159 тамах, і, такім чынам, гэты раздзел з'яўляецца найбольш шматлікім з усіх (у чым і яскрава праявіўся казнадзейскі характар закону, да канвенту якога належаў кнігазбор). З найбольш папулярных у той час аўтараў назавем Бальзама, Біркоўскага, Галамбёўскага, Вайніловіча, Венгрыновіча, Высоцкага, Карпінскага, Мухноўскага, Нарамоўскага, Пашкевіча, Сеньеры, Скаргу, Стэфановіча, Трухновіча (названага тут Трухноўскім, але гаворка ідзе пра вядомыя «Exhorty postne»), Фабера, Шырму — карацей кажучы, у бібліятэцы мінскіх бэрнардынаў былі сабраныя творы ці не


EXHORTY
POSTNE
O
Męce Panay Zbawiciela Naszego
JEZUSA
CHRYSTUSA,
Niegdyś
MIANE
Przez Wielebnego Xiędza
PIOTRA TRUCHONOWICZA
Soc: JESU,
Zá Stàraniem Tegoż
Ná pożytek Dusz, y Serdeczna kompassya nad Cierpiącym Zbawicielem, Krolem bolow,
Do Druku
PODANE.
W Wilnie w Drukarni J. K. M. Akad: Soc: JESU,
Roku 1729.

Тытульны аркуш «Эксгортаў посных» аўтарства езуіта Пятра Трухновіча (кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі). Фота А. Крапіўкі.

ўсіх найбольш вядомых айчынных (а таксама і некаторых замежных) казнадзеяў.

У шостым раздзеле — «Titulus 6tus Grammatici» («Граматыкі») — сабраныя рознага роду слоўнікі (папулярныя ў той час дыкцыянары Кнапскага і Шырвіда — «Cnapij Dictionarium Latino-Polonum», «Szyrwid S[ocietatis]. I[esu]. Dictionarium Polono-Lithuano-Latinum» і інш.), а таксама граматыкі («Grammatica Latino-Gallica», «Gramatyka Graecka»), дапаможнікі па прыгожым пісанні («Gradus ad Parnasum») і да т.п. Зрэшты, кніг тут няшмат — усяго 11 пазіцый у 22 тамах.

Гістарычныя творы ў бібліятэцы мінскіх бэрнардынаў былі падзеленыя паміж двума раздзеламі: «Titulus 7mus Historici Profani» і «Titulus 8tus Historici Sacri». Кнігі ў іх апісаныя не вельмі падрабязна — відаць, яны не выклікалі вялікай цікавасці ў складальніка інвентара. Першы з раздзелаў ахоплівае 24 пазіцыі ў 54 тамах і прэзентуе як класічныя, так і сучасныя для той эпохі творы па свецкай гісторыі ды геаграфіі («Kurciusza Życie Alexandra W[ielkieg]o Łacinsko-Polskie Tomy 3», «Plutarchi Historia», «Procopij Geographia», «Salustij Historia», «Stradae S[ocietatis]. I[esu]. Historia Belgica», «Taciti descriptio Germaniae»), а таксама па роднасных дысцыплінах — як, напрыклад, па генеалогіі («Niesieckiego S[ocietatis]. I[esu]. Herbarz Kor[ony] Pol[skiey]. y W[ielkieg]o X[ięs]tt[w]a L[i]t-t[ewskieg]o Tomy 4»). Раздзел жа «Titulus 8tus Historici Sacri» змяшчае, пераважна, працы па Святой Гісторыі ды гісторыі Царквы («Historia Swięta wierszem», «Kuleszy S[ocietatis]. I[esu]. Wiara Praewosławna, czyli Historia Koscielna», «Epithome Historiae Ecclesiasticae»), апісанні жыццяў святых, папаў ды законнікаў («Skargi S[ocietatis]. I[esu]. Żywoty SS[wię]tych Panskich», «Vita et Gloria S[ancti]. Clementis M[agni]. atq[ue] Pont[ifici].», «Żywoty niåktorych BB[łogosłowionych] Jezuitow»), а таксама літаратуру, звязаную з гісторыяй лацінскіх законаў — перадусім, саміх францішканаў, але не толькі («Kroniki 3 Zakonow Braci Mnieyszych», «Leguil O[rdo]. M[inorum]. Hierarchia Franciscana — tomi 2», «Poszakowskiego Kalkdarz Jezuicki. Exem[plarzy]: 4») і да т.п. У раздзеле ахоплена 33 пазіцыі ў 39 тамах.

Літаратура юрыдычная змешчана ў раздзеле «Titulus 9nus Jurisperici», які названы тут крыху нязвыкла: бо хоць «peritus», як і «prudens», азначае на лаціне «мудры, дасведчаны», аднак мы, зазвычай, для азначэння веды аб праве ўжываем усё ж тэрмін «Juris**prudentia**», а пра знаўцаў права гаворым — «Juris**prudenti**». Раздзел змяшчае 31 пазіцыю ў 52 тамах; у ім сабраныя як трактаты па кананічным, цывільным і крымінальным праве, так і разнастайныя дэкрэты, пастановы сінодаў і іншыя працы. Шмат увагі было нададзена падбору літаратуры па кананічных пытаннях жыцця ў законе і ўвогуле ў Касцёле: тут мы бачым ордэнскія статуты, рознага роду кампендыумы і зборнікі звязаных з правам або са статутамі парадаў і іншыя. Пералічым некалькі найбольш папулярных сярод кляштарных бібліятэк пазіцый: «Didaci ab Aragonia O[rdo]. M[inorum]. O[bservantium]. Privilegia Regularium Mendicantium», «Statuta FF[ratrum]. Minor[um]. Exem[plari]: 3», «Roderici O[rdo]. M[inorum]. O[bservantium]. Compendium Questionum Regularium», «Marchantij Hortus Pastorum pro omni Materia ecclesiastica». Гэты раздзел амаль выключна лацінамоўны — ёсць толькі адна польская назва: «Ustawy Panien Zakonnych Exem[plari]: 2».

Раздзел «Titulus 10mus Medici» — найменшы з усіх, бо змяшчае ўсяго чатыры аднатомныя пазіцыі (у тым ліку адну кухарскую!). З увагі на невялікую колькасць мы можам іх пералічыць: «Apteka Szkoły Solernitanskiey dla tych, co lekarza nie mają», «Crolij Oswaldi Chimia», «Czernieckiego Książka Kucharska» і «Mullori Chimia et Medicina».

Значна больш пазіцый змяшчае «Titulus 11mus Oratores et Rhetores», які прысвечаны класічнай рыторыцы і змяшчае 28 пазіцый у 42 тамах. Тым не менш, гэты раздзел таксама не пазбаўлены казнадзейскіх выданняў — (напр., «Avancini S[ocietatis]. I[esu]. Orationes Sacrae. Exem[plari]: 2», «Ferrarij S[ocietatis]. I[esu]. 37 Orationes de Beata [Virgine Maria]. Exem[plari]: 2», «Kwiatkiewicz S[ocietatis]. I[esu]. Sermones de Beata [Virgine Maria]»). Шырока прад-

стаўлены падручнікі, дапаможнікі і рукапісныя «скрыпты» па рыторыцы («Becher. Rhetorica», «De Colonia S[ocietatis]. I[esu]. Rhetorica», «Juventii S[ocietatis]. I[esu]. Rhetorica. Exem[plari]: 2», «Rhetoricae scriptae — 4»), а таксама творы, прызнаныя ўзорамі красамоўства і пекнага пісьменства («Ciceronis Orationes: Partes 3», «Epistola Ciceronis. Exem[plari]: 2», «Jay S[ocietatis]. I[esu]. Bibliotheca Rhetorica. Tomi 8»). Сярод лацінскіх кніг названая толькі адна польскамоўная — «Wieruszewskiego S[ocietatis]. I[esu]. Fama Polska, abo Listy różne».

Навучальнай літаратуры па філасофіі, матэматыцы і прыродазнаўстве быў прысвечаны раздзел «Titulus 12mus Plilosophi, Arithmetici, Geometrae», раздзел, які ахоплівае 47 пазіцый у 92 тамах. Тут можна бачыць падручнікі, дапаможнікі і рукапісныя «скрыпты» з поўнымі курсамі па філасофіі і матэматыцы. Вельмі шырока прадстаўлены розныя філасофскія школы — усутыч да найноўшых на той час плыняў («Kraus O[rdo]. M[inorum]. O[bservantium]. Ph[ilosoph]ia Scotistica», «Maijr S[ocietatis]. I[esu]. Philosophia Peripatetica», «Krisper O[rdo]. M[inorum]. O[bservantium]. Ph[ilosoph]ia Recentiorum»).

Паэзіі і паэтыцы прысвечаны раздзел «Titulus 13tius Poetae», які змяшчае 21 пазіцыю ў 26 тамах. Сярод разнастайных паэтычных і драматычных твораў антычных аўтараў («Ovidij Tristitium. Lib[ri] — 5», «Martialij Carmina», «Virgilij Carmina in 8vo», «Senecae Tragediae») сустракаем нешматлікія кнігі па тэорыі і гісторыі вершаскладання («Buchleri Poetica», «Historia Poeticae»). Твораў айчынных пісьменнікаў сустракаецца мала (напрыклад, «Sarbiewski S[ocietatis]. I[esu]. Carmina»); па-польску — усяго толькі адна кніга: «Kotfickiego [?] Bernard[yna]: Wiersze o Królewstwie Polskim».



Скрыпт выкладаў філасофіі лектара генеральнага Мар'яна Дамашэвіча ў гродзенскім канвенце бэрнардынаў (кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі). Фота А. Крапіўкі.

У асобны раздзел «Titulus 14tus Politici» (20 пазіцый у 34 тамах) вылучаны і кнігі па палітыцы — ад твораў антычных аўтараў («Seneki Księg — 14») да сучасных для той эпохі разважанняў на палітычныя тэмы (напрыклад, «Rudominy S[ocietatis]. I[esu]. O Rządach Panstw» або «Zawisza Cap[itaneus] Minscen[sis] Propositiones Christiano-Politicae»); з пашыраных у той час твораў назавем: «Ens liber Politicus» і «Tympij Quaestiones de varijs rebus per alphabetum». Пераважае літаратура на лацінскай мове.

Раздзел «Titulus 15tus Rubricistae» прысвечаны літургіцы, а больш дакладна, пытанням цэлебравання святой Імшы і штодзённага набажэнства. Ён — адзін з найменшых у інвентары і змяшчае 2 запісаныя цалкам аднатомныя пазіцыі: «Gavanti Tesaurus Sacror[um]: Rituum, seu Commentarium in Rubricas Missalis» ды «Pedemontani de Missa et Ritibus Ecclesiastis», а таксама адсылку па трох аўтарах да раздзелу юрыдычнай літаратуры («NB Ferraris, Marchantium, Mathaeuci vidi sub Titulo Jurisperiti»).

І, урэшце, уласна багаслоўская літаратура прадстаўленая двума раздзеламі — «Titulus 16tus Theologi Morales» і «Titulus 17tus Theologi Speculativi» — прысвечанымі працам па маральнай і дагматычнай тэалогіі (яны завяршаюць сабой вопіс бібліятэкі). У першым з іх паказана 21 пазіцыя ў 34 тамах. Гэта, галоўным чынам, працы, што асвятляюць маральную тэалогію ў цэлым («Bartolt S[ocietatis]. I[esu]. Theologia Moralis», «Biesmann S[ocietatis]. I[esu]. Doctrina Moralis. Exem[plari]: 2», «Hertzig S[ocietatis]. I[esu]. Theologia Moralis. Exem[plari]: 3», «Holtzmann O[rdo]. M[inorum]. O[bservantium]. Theologia Moralis. Tomi — 5»), хаця некаторыя прысвечаны больш дробным пытанням («Examen Conscientiae»). Паасобныя кнігі, хутчэй, варта аднесці да кананічнага права (напрыклад, «Colett Congr[egatio] Mission[is] De impedimentis Matrimonii»). Гэты раздзел выключна лацінамоўны; сярод аўтараў пераважаюць езуіты і бэрнардыны.

У другім раздзеле змешчана 26 пазіцый у 33 тамах. Кнігі тут прысвечаны як увогуле агульнай і дагматычнай тэалогіі («Anastasii a Cruce Carm[elitae] Teologia Dogmatica», «Framolini S[ocietatis]. I[esu]. Compendium Teologiae Universae»), так і паасобным дысцыплінам («Wilkanowicz S[ocietatis]. I[esu]. Theologia de Deo uno et Trino») ды багаслоўскім школам («Duparquier Teologia Scottistica. Tomi — 8»). Ёсць таксама некалькі працаў (як лацінскіх, так і польска-

моўных), якія належаць да апалагетыкі («Owczarski Defensio Immaculate Conceptionis», некалькі твораў Пашакоўскага — напрыклад, «Kontrowerssje z Dissedentami»). Наяўнасць падручнікаў (такіх, як «Tournelij Cursus Theologiensis de Deo et Divinis attributis») і адносна вялікая колькасць рукапісных нататак («Theologiae scriptae — 17») ускосна сведчаць пра тое, што ў Мінску бэрнардынамі, верагодна, выкладалася не толькі філасофія, але й тэалогія, а гэта сведчыць пра больш высокі статус тутэйшай канвентуальнай школы.

Не надта пашанотна адгукаецца пра стаўленне бэрнардынаў да сваёй бібліятэкі ў сярэдзіне XIX ст. Уладзіслаў Сыракомля (які, праўда, «меў зуб» на законнікаў за тое, што ягонаму сябру, які хацеў сабраць матэрыялы пра кляштар, не дазволілі гэтага зрабіць)[6].



Скрыпт выкладаў філасофіі ў мінскім канвенце бэрнардынаў (кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі). Фота А. Крапіўкі.

### Ацалелыя кнігі мінскіх бэрнардынаў

На сённяшні час удалося расшукаць тры кнігі, што належалі ў канцы XVIII ст. мінскім бэрнардынам. Дзве з іх я ўжо згадваў пры апісанні «studium philosophicum» у сваім папярэднім артыкуле, прысвечаным мінскаму канвенту: гэта рукапісныя скрыпты па філасофіі, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі пад нумарамі КП 523 і КП 13624. У абодвух скрыптах змешчаны матэрыялы па курсе філасофіі, які выкладаўся ў школах мінскага і гарадзенскага канвентаў. Паколькі ў згаданым артыкуле гэтыя рукапісы разглядаліся з увагі на іх навучальны змест, паспрабуем зірнуць на іх з кнігазнаўчага гледзішча.

*Скрыпт па філасофіі школы гарадзенскага канвета (КП 523)* — гэта зборнік тэкстаў лектара генеральнага Мар'яна Дамашэвіча, у якім змяшчаюцца чатыры раздзелы філасофіі, падзеленыя на 5 тамоў — згодна з аб'ёмам матэрыялу і паслядоўнасцю выкладання за 1786–1788 гады.

Гэтая кніга мае шмуцтытул з супольнай назвай для ўсяго канвалюта, зроблены, відаць, пры шыташанні нататак у адзін том — «Labor Triennalis» («Трохгадовая праца»). У той самы час (пра што сведчыць колер атраманту) быў выкананы і тытульны аркуш першага алігата, які, змяшчаючы загаловак, больш поўны за астатнія часткі, выконвае ролю тытульнага аркуша да ўсяго выдання: «Institutionis Philosophiae Ad Rationis Et Experientiae Dictum Conscriptae Atq[ue] In praelectionibus Scholasticis Juxta Dispositionibus Capituli Provincialis Aº 1783 Vilnae Celebrati Explicari caeptae. In Conventu S[anct]ae Crucis Inventae Grodnensi Per Patrem Marjanum Domaszewicz Lectorem Philosophiae Generalem Anno D[omi]ni 1786». З гэтага загалоўку мы і атрымліваем большую частку інфармацыі пра дадзены курс — кім, дзе і калі ён чытаўся, а таксама на падставе якіх дырэктыўных пастановаў ён быў укладзены. Змест першага алігату — гэта, уласна, і ёсць «Уводзіны ў філасофію» («Praeliminaria in Philosophiam»). Ён уключае ў сябе агульныя звесткі па філасофіі, асновы логікі («Philosophiae Rationalis sive Logicae Prolegomena») і школьныя практыкаванні па логіцы («Exertationes Scholastica Ex Logicae»).

Другі алігат мае назву «Institutiones Methaphisicae, Ontologiam, Cosmologiam, Psychologiam et Theologiam Naturalem Complexae In Conventu Grodnensi ad S[anctam]. Crucem inventam Tradite A[nn]o D[omi]ni 1787 seu Tomus 2dus Philosophiae» і змяшчае комплекс ведаў па названых дысцыплінах (у тэксце яны вылучаныя ў асобныя раздзелы).

Трэці алігат прысвечаны этыцы, што відаць з загалоўку: «Institutiones Philosophiae seu Aethicae Anno 1788 Grodnae Traditae». Як бачым, ён і паводле храналогіі, і згодна з логікай выкладання, быў памылкова сшытаваны ў сярэдзіне канвалюта — хоць павінен знаходзіцца ў канцы кнігі і мець пазначэнне «Tomus 5us». Магчыма, адсутнасць парадкавага нумару тома і прывяла да памылкі шытара.

Заключную частку канвалюта складае курс натуральнай філасофіі (або фізікі ў шырокім яе разуменні — разам з астраноміяй, геаграфіяй і іншымі да т.п. навукамі). Ён падчас выкладання быў падзелены на дзве часткі: «Institutiones Philosophiae Naturalis sive Phisica. Tomus 3us Philisophiae. A[nn]o 1787 Die 10 7bris» і «Institutio[n]um Philosophiae Naturalis Pars Posterior. sive Phisica Specialis Philisophiae Tomus 4us».

Як бачым, высвятленне месца і часу стварэння рукапісаў не складае значнай праблемы. Што ж датычыць асобы пісальніка, дык яе можна вылічыць на падставе інскрыпцый. У прыватнасці, на форзацы ёсць надпіс, зроблены брунатным атрамантам: «Fortuito Casa, reperi mea propria Manuscripta singularis Facultatis Philosophiae ac laboris mei Cursus Scholastici, adeoq[ue] applico illa illi, cui digna legendi videbuntur in Conventu Minscensi. — Amice Lector Errata corrige Omissa suple. — Vale» («Дом майго часовага прыстанку, прымі мае ўласныя рукапісы паасобных курсаў філасофіі, а таксама маёй працай падрыхтаваны школьны курс, сшытаваныя разам, якія знойдуць дастойнае чытанне ў мінскім канвенце. — Сябра чытач, памылкі папраў, а прапушчанае дапоўні. — Майся добра!»). А на адвароце тытульнага аркуша, па-за цытатамі з твораў Тамаша Кэмпійскага і цыстэрскага абата Гвілельма, зроблены надпіс атрамантам, тоесным атраманту шмуцтытула і тытульнага аркуша: «Utitur his Manuscriptis propriis Fr. Francicus Pramnitz Minor. Obser».

Паразважаем над гэтымі інскрыпцыямі. 1) Паколькі ўладальніцкі надпіс на кнізе належыць Францішку Прамніцу, можна меркаваць, што менавіта ён з'яўляецца таксама і аўтарам дароўнага надпісу, адрасаванага мінскаму канвенту — тым болей, што ў абодвух выпадках выступае адзін і той жа выраз: «propria Manuscripta». 2) У дароўным надпісе пазначана, што рукапіс створаны працаю аўтара інскрыпцыі. 3) Паколькі мы ведаем, што інскрыптар не з'яўляецца аўтарам тэксту (як відаць з загалоўку, ім ёсць Мар'ян Дамашэвіч), значыць ён быў тым, хто гэты тэкст запісваў. Такім чынам, манускрыпт быў напісаны (у фізічным сэнсе) бэрнардынам Францішкам Прамніцам.



Дароўны надпіс мінскаму канвенту бэрнардынаў на скрыпце выкладаў філасофіі М. Дамашэвіча. Фота А. Крапіўкі.

Яшчэ адзін цікавы запіс, які можа даць нам матэрыял для далейшых разважанняў над лёсам гэтай кнігі, знаходзіцца на адвароце форзацнага аркуша. Там занатаваны спіс студэнтаў курса філасофіі: «Scholastici Philosophi. / P[ate]r. Franciscus Pramnitz / P[ate]r. Aurelianus Bucontt. / P[ate]r. Felix Babinski. / P[ate]r. Laurentius Okuniewicz. / P[ate]r. Laurentius Kurowicz. / P[ate]r. Conradus Tarnowicz. / P[ate]r. Anastasius Niewiarowski. / F[rate]r. Felix Sawicki. / F[rate]r. Franciscus Pikiett». У спісах законнікаў мінскага бэрнардынскага канвента не ўдалося знайсці імя Францішка Прамніца. Гэта цалкам зразумела, бо ў дароўным надпісе ён называе кляштар «домам часовага прыстанку», а значыць ён быў там нядоўга — магчыма, наведаў свайго калегу па гродзенскім «студыюме» Фелікса Савіцкага, імя якога сустракаецца ў спісах насельнікаў кляштара ў 1796 годзе[7]. Такім чынам, вельмі верагодна, што манускрыпт трапіў у Мінск каля 1796 г. і пазначаны ў вопісе бібліятэкі побач з 10 іншымі рукапіснымі кнігамі па філасофіі («Philosophia scripta libri — 11»). Але якім жа быў яго далейшы лёс? Прыгледзімся да іншых інскрыпцый.

Так, надпіс брунатным атрамантам на адвароце форзацнага аркуша паведамляе, што ў 1865 г. канвалют ужо належаў пэўнаму кс. Ляснеўскаму («1865 r. d. 4 julii (x. Leśniewski)»). Ведаючы, што пасля падаўлення паўстання Кастуся Каліноўскага ў 1864 г. мінскі канвент быў скасаваны, а таксама прыняўшы да ўвагі інфармацыю, якую дае нам гэты запіс ды правіненцыі на іншых кнігах з бібліятэкі мінскіх бэрнардынаў, мы можам выказаць меркаванне, што пасля ліквідацыі кляштара кнігі са збору разышліся сярод святароў і законнікаў (частка з іх апынулася ў бэрнардынскім канвенце ў Будславе). Што ж датычыць гэтага канкрэтнага манускрыпта, дык далейшы лёс яго невядомы ажно да пачатку XX ст., калі кніга трапіла ў фонды Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта. Пасля рэвалюцыі рукапіс перайшоў ва ўладанне інстытуцыі, якая, змяніўшы некалькі назваў, сёння завецца Нацыянальным гістарычным музеем Беларусі.

*Скрыпт па філасофіі школы мінскага канвента (КП 13624)* не так ахвотна раскрывае свае



Пачатак курсу «Preliminaria in Philosophiam» М. Дамашэвіча з уладальніцкім надпісам Ф. Прамніца. Фота А. Крапіўкі.

таямніцы, як гарадзенскі, і пра яго мы ведаем значна менш. Гэта звязана з тым, што тытульныя аркушы некаторых ягоных алігатаў страчаныя, дый і правіненцыі на кнізе не такія інфарматыўныя, як на разгледжаным намі манускрыпце.

Гэты скрыпт таксама ўяўляе з сябе канвалют і складаецца з 5-ці алігатаў — як бачым, бэрнардыны традыцыйна падзялялі курс філасофіі пры выкладанні на такую колькасць частак. Гэтым разам, аднак, кніга змяшчае тэксты матэрыялаў не аднаго, а розных лектараў: Дамініка Эйдымонта, Даміцыя Булгароўскага (імёны якіх дайшлі да нас у загалоўках ацалелых тытульных аркушаў), а таксама, магчыма, некаторых іншых. Захаваліся тытульныя аркушы толькі двух алігатаў, а менавіта логікі і метафізікі: «Philosophia Rationalis veterum recentior[u]$^{m}$q[ue] Sententiis ACCOMMODATA et a M.V.P. Dominico Eydim[on]tt Philosophiae Lectori Generali Ord[inis]: Minor[itu]m Observan[tiae]: Regular[is]: Religiosae Juventuti in Conventu Minscensi ad Sanctum Josephu[m] Nutritium EXTRADITA. Pars 1ma seu Logica» і «Philosophia Mentis sive Metaphysica Methodo Clarissimi Fortunati A BRIXIA ADORNATA et in Conventu Mniscensi[sic!] ad S[anctum]. Josephum Spon[sorem]. B[eatae]. V[irginis]. M[ariae]. Per me Fratrem Domitium Buiharowski Lectorem Philosophiae Generalem Religiosis Seraphici institute Alumnis. TRADITA. Inchoata vero Anno D[omi]ni 1781. D[ie]. 7. Men[sis]: 7bris. Scripta autem a Fratre Sixto Freydiffertt». Тыя ж раздзелы, што не маюць тытульных аркушаў, змяшчаюць такія прадметы, як «Elementa Algebrae», «Prolegomenon in Phisicam» ды «Phisica Particularis».

Загалоўкі на ацалелых тытульных аркушах даюць нам шэраг важных дадзеных: папершае, як мінімум два з нашых алігатаў былі створаныя ў Мінску (а хутчэй — усе, пра што сведчыць падабенства почырку і паперы); па-другое, яны былі напісаныя на пачатку 1780-х гг. (што пацвярджаецца і датаваннем філіграняў), і, урэшце, трэцяе — іх пісальнікам быў брат Сікстус Фрэйдыферт, які на той час з'яўляўся клерыкам і слухаў у Мінску курс па філасофіі. Невядома, ці доўга ён яшчэ заставаўся ў канвенце пасля заканчэння вучобы і ці пакінуў манускрыпт у бібліятэцы або забраў яго з сабой. У 1796 г. гэтае імя сярод насельнікаў кляштара не значыцца, а кніга «ўсплывае» толькі ў будслаўскім кляштары, адкуль яна трапляе ў 1960-я гады ў бібліятэку Беларускага дзяржаўнага музея. Пазней манускрыпт быў пераведзены ў калекцыю «Старадрукаваныя і рукапісныя кнігі» музея (сёння — Нацыянальны гістарычны музей Беларусі), у якой і захоўваецца дагэтуль.

*«Chwała Chwalebnego w Swiętych Swoich Boga...»* аўтарства піяра Самуэля Высоцкага, выдадзеная ў Варшаве ў 1747 г. — вось трэцяя кніга, звязаная з гісторыяй мінскага бэрнардынскага канвента, праўда, крыху больш ранняй — сярэдзіны XVIII ст. Гэтае выданне, магчыма, ацалела да нашага часу таму, што трапіла ў 1762 г. у бібліятэку будслаўскага кляштара, але сёння яно знаходзіцца ў прыватных руках, і я даведаўся пра яго выпадкова — кніга была прапанаваная музею для закупкі.

На тытульным аркушы гэтага папулярнага ў XVIII ст. зборніка казанняў ёсць надпіс, які



CHWAŁA
Chwalebnego w Swiętych swoich Boga, y Swiętych w Bogu uwielbionych,
Kazaniami na wszystkie w Roku całym dni Swięte, y niektore Akty publiczne po rożnych Katedrach Chrześciańskiey dla naśladowania Pobożności
OGŁOSZONA.
J. W. Jmci PANU
P. JERZEMU AUGUSTOWI
S. P. R. Hrabi z Wielkich Końcżyc, y Ossownicy
WANDALINOWI
MNISZCHOWI
MARSZAŁKOWI Nadwornemu Koronnemu, Sanockiemu, Lubaczowskiemu, Grudziądzkiemu &c. Starościc S. Jędrzeia, y białego Orła Kawalerowi
Na dowod uprzeymey Imieniowi Temu życzliwości przyszłych dla pamięci wiekow
ZAPISANA.
Przez X. Samuela od S. Floryana Scholarum Piarum Prowincyi Polskiey Konsultora
Roku Pańskiego 1747.
TOM PIERWSZY
W WARSZAWIE
w Drukarni J. K. M. y Rzpltey XX. Scholarum Piarum.

Тытульны аркуш зборніка казанняў піяра а. Самуэля Высоцкага (Варшава, 1747), які пэўны час належаў мінскаму бэрнардынскаму канвенту.

паведамляе, што дадзены пасобнік пэўны час знаходзіўся ў мінскім бэрнардынскім канвенце: «Utitur hoc libro cum licentia Superiorum Fr. Josephus Czarkowski Minorita». Даслоўна гэта інскрыпцыя азначае, што кнігай з дазволу кіраўніцтва канвента карыстаўся брат Язэп Чаркоўскі — формула досыць характэрная, бо мендыканты не мелі права набываць нешта ва ўласнасць, а таму ў надпісах на сваіх кнігах падкрэслівалі, што валодаюць імі толькі часова. На іншай старонцы стадрука ёсць і дароўны запіс, які сведчыць аб перадачы выдання Чаркоўскім у бібліятэку мінскага бэрнардынскага канвента: «Hunc librum Praedicabilem ad C[onve]ntum Minscensem PP. Bernardinorum applicavit Pr. Josephus Czarkowski Minorita». Здаецца, аднак, што гэта ўсё было толькі фармальнасцю — найпазнейшая з інскрыпцый паведамляе нам, што пасля смерці Язэпа Чаркоўскага кніга была перададзеная будслаўскаму кляштару, дзе, напэўна, законнік дажываў свае апошнія гады і памёр. У бібліятэцы мінскага бэрнардынскага канвента ў 1796 г. такое выданне не значылася, хаця была іншая кніга Высоцкага: «Wysockiego Piara Kaz[ania]: Niedzielne, Adwentowe, y Pogrzebowe» (наша, нават калі б апісвалася згодна са сваім падзагалоўкам, была б пазначаная як «Kazania na dni Świąteczne»).


Teraz w Kazaniach Swiętych zasięgnie y Nieba,
Wraz się złączy z wiecznością, w tym wątpić nie trzeba.
Jan Tuchołka Podkomorzyc Malborski.
XXIII. Że pod czarnym kolorem Piór Tych skryte cnoty,
Nie dziw, bo lepiey w cieniu świecą się kleynoty.
Jan Russocki Skarbnik Zatorski.
XXIV. Siedm Piór Mniszchow, tak trzeba, bo iednym ich męstwa,
Drugim woyny, y rady, trzecim zaś zwycięstwa,
Czwartym honory, piątym mądrość, szostym księgi,
Siodmym pisać potrzeba Familij szczęgi.
Wincenty Zawisza Stolnikiewicz Mielnicki.
XXV. Inszych skrzydlasta zwykła sława wgorę wznosić,
Wam Mniszchowie, gdy własne Piora wznoszą, dosyć.
Jan Stadnicki Chorążyc Lubaczewski.
XXVI. Czarne Piora, to prawda, ale czyny złote
Wandalinow rysuią, dzielność, męstwo, cnotę.
Tadeusz Jordan Podczaszyc Krakowski.
XXVII. Dwiema inszych piorami w gorę wznosi sława,
Siedm Pior Mniszchom do lotu w własnym Domu sława,
Więc że wiele wyprzedzą w sławie, iuż Oyczyzna
Jawnie widzi, wiek przyszły obaczy, y przyzna.
Jan Krasiński Cześnikowicz Płocki.
Gradu-lis quasi Struthio Jeremia c. 4.
XXVIII. Jeśli się te Kazania komu ostre zdadzą,
Piora Mniszchow niechay to pokryią, pogładzą,
Niech pomnią (ieśli którzy będą Zoilowie)
Że y Strusia okrutnym Pismo Swięte zowie.
Wiktoryn Księżyński Podstolic Drohicki.
XXIX. W potomne czasy Dom Ten będzie znakomity,
Ktorego dzieła pisze zaszczyt Rodowity.
Adam Łasicki Podstol. Sochaczewski.
XXX. Kończy się wiek za wiekiem, lecz Kończyc bez końca
Wolności Polskiey będzie na zawsze obrońca.
Tadeusz Rej Łowczyc Pilzneński.
XXXI. Jaki Dom Mniszchow, nie wiesz? wpatrzże się w te Piora,
A doyrzysz, iaka dzielność, męstwo, cnota, ktora
Zostawne na Oyczyznę stalowe Orszaki
Stawiwszy, wieczne tego widzieć daie znaki.
XXXII. Stefan Siemieński Sędzic Sieradzki.
Siedm pior na zaszczyt Dom Ten ma w swoim kleynocie,
Przyzwoita to liczba niezmienney cnocie,
Bo gdyby siedmiu Mędrcow chwalić Dom Ten, czyli
Spisać chcieli, trzeba, by siedm Pior zastąpili.
Adam Węgrecki Pisarz Zakroczymski.
XXXIII. Zgodzisz się na tę prawdę Wielki Wandalinie,
Że ten świat, y to co ma, wszystko z nim wraz zginie,
Twoia chwała na wieki z Swiętych będzie chwałą
Nie skończysz się Kończycu y wiecznością całą.
Antoni Węgrecki Pisarz Zakrocz.
XXXIV. Prawda Kończyc od końca swe zabiera Imie,
Lecz końca nie zna w chwale, w honorze, w estymie.
Michał Cieszkowski Pisarz Liwski.
XXXV. Już to lat blisko tysiąc Kroniki rachuią,
Jak w ludzkiey Mniszchow dzieła pamięci wiekuią,
Żeby w dalsze szli wieki z sławą bez zawodu,
Niech to piory podpisze Bog bez periodu.
Xawery Patrowski Regent Stężycki.

Hunc librum Praedicabilem ad C[onve]ntum Minscensem PP. Bernardinorum applicavit Fr. Josephus Czarkowski.

Do JASNIE

Старонка з кнігі а. Самуэля Высоцкага з надпісам аб перадачы яе ў бібліятэку мінскага бэрнардынскага канвента.

Такім чынам, склад кнігазбору мінскага канвента з'яўляецца дастаткова характэрным для бэрнардынскай і ўвогуле для кляштарнай бібліятэкі таго часу. Сярод выданняў захоўваліся творы такіх сусветна вядомых аўтараў, як Аўгустын, Карнэль з Ляпіды, Ліпсіюс, Бальсама і Дрэксэліус; натуральна не абыдзены ўвагаю і Тамаш Кэмпійскі — ягоная кніга мелася і на лаціне, і ў польскім вершаваным перакладзе. Паводле прыналежнасці да законнай фармацыі сярод аўтараў кніг былі прадстаўнікі розных ордэнаў — капуцыны, кармэліты, аўгустыяне, цыстэрсы, піяры і інш. Тым не менш, пераважалі бэрнардыны (ёсць творы Харкевіча, Дзялоўскага, Пашкевіча і вельмі папулярнага ў XVIII ст. аўтара, нашага суайчынніка з Полаччыны, Францішка Прылуцкага), а таксама езуіты (кнігі Ігнацыя Лаёлы, Францішка Ксавэрыя, Яна Мараўскага).

Нетэалагічная літаратура прадстаўлена працамі і падручнікамі па граматыцы, рыторыцы, свецкай гісторыі, юрыспрудэнцыі, медыцыне, матэматыцы, паэтыцы, фізыцы і філасофіі. У інвентарах запісаныя кнігі Цыцэрона, Тацыта, Лейбніца і шэрагу іншых вядомых аўтараў як старажытнасці, так і новага часу. У вялікай колькасці прысутнічаюць падручнікі: напрыклад, навучальны дапаможнік «Arithmetica et Geomeria» аўтарства яшчэ аднаго нашага суайчынніка — езуіта Якуба Накцыяновіча, налічваўся ў 13-ці паасобніках.

Такім чынам, у 1796 г. бібліятэка мінскага канвента была скіраваная на адукацыйную і прапаведніцкую дзейнасць бэрнардынаў, а таксама на задавальненне патрэбаў штодзённага жыцця кляштара.

---

[1] Бабкова В. Звесткі аб мінскіх касцёлах на старонках актавых кніг Мінскага гродскага суда за 1600–1649 гг. // Нашыя святыні: Матэрыялы міжнар. навук. канферэнцыі (Мінск, 7 чэрвеня 2008 г.) . С. 151–156.

[2] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1727, воп. 1, спр. 3, арк. 600 — 601 адв.; Бабкова В. Тамсама. С. 156.

[3] Гл.: Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске. Мінск, 1985. С. 49.

4 Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich... // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 24 адв. Тут і далей у цытатах захоўваецца правапіс (а ў т.л. і граматычныя памылкі) арыгінала, аўтар якога недасканала ведаў як лацінскую, так і польскую мовы.

[5] Regestra Bibliotek po Klasztorach w Guberny Mińskiey leżących Znaydujących się 1796 rok // НГАБ: ф. 1781, воп. 32, спр. 186, арк. 7 — 18 адв. (Лічба тамоў падаецца прыкладна, бо ў інвентары не заўсёды ўказана колькасць паасобнікаў — нават у некаторых тых пазіцыях, дзе ў апісанні ёсць запіс «Exemp:» («экзэмпляраў» — то бо, падразумяваецца, што захоўваўся больш, чым адзін паасобнік). Іншая складанасць пры падліку заключаецца ў тым, што слова «libri» ў апісанні выдання можа азначаць як колькасць частак («кніг») у дадзеным выданні (параўн., напрыклад, «Libri 3 in tomo uno» пры назве выдання ў вопісе бібліятэкі менскага дамініканскага кляштара 1709 г.), так і колькасць тамоў або паасобнікаў. Сыходзячы з меркавання, што ў разгляданым інвентары слову «libri» некалькі разоў спадарожнічае лічба, вынесеная за падсумавальную вертыкальную рысу, у дадзеным артыкуле пры падліках гэтае слова заўсёды трактавалася як колькасць тамоў / паасобнікаў.

[6] Syrokomla Wł. Mińsk // Teka Wileńska. Wilno, 1857. N 2. S. 192. Беларускі пераклад паводле выд.:

[7] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znadujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ, ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 26 адв.

## CONTENTS

Article by Valery Buival *Lukas Cranach the Elder. Paradise* opens this issue of the magazine, in which the author tells us about one of the masterpieces of the German Renaissance (p. 2-3).

Readers are invited to read the report of Archbishop Tadeusz Kondrusiewicz *Declaration "Nostra aetate" and the development of Christian-Jewish dialogue*, which was read at an international conference (p. 4-6).

We continue to publish translation of *The Flowers of St. Francis*, done by Aksana Danilchik (p. 7-10).

In column *Ad fontes* we place continuation of the famous work of Thomas ŕ Kempis *The Imitation of Christ* (p. 11-13).

In this issue we offer to the readers an extract from the book *Defending Faith* dedicated to priest Stanislau Zhuk (p. 14-19).

In column *Faith and Culture* we published the second part of the article by Piotra Rudkouski OP *Language as a Cultural and Ethical Issue* (p. 20-24).

Publications by Vital Taras *Under the Cross of Katyn*, Irina Zharnasek *Drifting of Ice Nowadays*, and poem by Danuta Bichel *Pilgrimage to Katyn* dedicated to the tragic events that occurred in Katyn on April 10 this year and 70 years ago (p. 25-29).

In column *Poetry* we publish verses by famous Belarusian poet Yan Chykvin from his book *A Handful of Sand* and by young poetess Yulia Shedzko (p. 30-31, 40-41).

Article by literary critic Irina Bagdanovich *Send down, O Lord, Your Truth...* is dedicated to the 170th anniversary of Frantsishak Bagushevich's birth (p. 32-35).

Arkadz Shpunt offers to the readers regular notes of the restorer called *Angels* (p. 36-39).

In column *Prose* we print an extract from the novel by Ryshard Kurylchik *The Unbroken from Nazareth* translated from the Polish language by Anatol Butevich (p. 42-46).

Danuta Bichel in her essay called *The Geniyushs* writes about husband and son of Belarusian poetess Larisa Geniyush (p. 47-53).

Article by Galina Tychka *...And the Wings Draw the PATH* is dedicated to the works by Belarusian poetess and literary critic Galina Tvaranovich (p. 54-57).

In column *Literature* we print article by Angela Melnikava which deals with Christian foundation of prose by Maria Vaytsyashonak (p. 58-61).

*Know Your Own Heart* by Hanna Serehan is the title of review of the book *Beggar from Grenada* by German priest and writer V. Hunerman, which has been recently published in "Pro Christo" Publishing House (p. 62-63).

Researcher Yury Lauryk in column *Book Treasure* prints his material about book collection of the Minsk Bernardines in 1796 (p. 64-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel von Walery Bujwal „Lukas Kranach der Ältere. Das Paradies", wo der Autor über eines der Meisterwerke der Renaissance in Deutschland erzählt (S. 2-3).

Wir bieten den LeserInnen den Vortrag des Erzbischofs Tadeusz Kondrusiewicz „Die Deklaration 'Nostra aetate' und die Entwicklung des christlich-jüdischen Dialogs", der von ihm auf einer der internationalen Konferenzen gehalten wurde (S. 4-6).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung der „Blümchen des heiligen Franziskus", die von Aksana Daniltschyk ausgeführt wurde (S. 7-10).

In der Rubrik *Ad fontes* wird die Fortsetzung der belarussischen Übersetzung des bekannten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" veröffentlicht (S. 11-13).

In dieser Nummer wird den LeserInnen ein Auszug aus dem Buch „Auf der Wache des Glaubens" angeboten, welcher der Person von Priester Stanislau Shuk gewidmet ist (S. 14-19).

In der Rubrik „Glaube und Kultur" wird der zweite Teil des Artikels von Pjotr Rudkouski OP „Sprache als kulturelles und ethisches Problem" veröffentlicht (S. 20-24).

Den tragischen Ereignissen, die am 10. April des laufenden Jahres und vor 70 Jahren in Katynj passiert sind, sind die Publikationen von Witalj Taras „Unter dem Kreuz von Katynj", von Iryna Sharnasek „Der Kreuzesweg unserer Tage" und das Gedicht von Danuta Bitschel „Die Pilgerfahrt nach Katynj" gewidmet (S. 25-29).

Die Rubrik „Poesie" enthält die Gedichte des bekannten belarussischen Poeten Jan Tschykwin aus dem Buch „Eine Handvoll Sand" und die Gedichte der jungen Poetin Julia Schedjko (S. 30-31, 40-41).

Dem 170. Geburtstag von Franzischak Baguschewitsch ist der Artikel der Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch „Gott, schicke Deine Wahrheit…" gewidmet (S. 32-35).

Arkadzj Spunt bietet den LeserInnen seine Notizen eines Restaurators unter dem Titel „Die Engel" (S. 36-39).

In der Rubrik „Prosa" befindet sich ein Auszug aus der Erzählung von Ryschard Kuryltschyk „Der Unbeugsame aus Nazareth" in der belarussischen Übersetzung aus dem Polnischen von Anatol Butewitsch (S. 42-46).

Danuta Bitschel schreibt in ihrem Essay unter dem Titel „Die Genijuschs" über den Ehemann und den Sohn der bekannten Poetin Larysa Genijusch (S. 47-53).

Der Artikel von Galina Tyschko „…Und die Flügel kreuzen den WEG" ist dem Schaffen der belarussischen Poetin und Literaturwissenschaftlerin Galina Twaranowitsch gewidmet (S. 54-57).

In der Rubrik „Literatur" wird der Artikel von Anshela Melnikawa über die christliche Grundlage der Prosa von Maria Wajzjaschonak veröffentlicht (S. 58-61).

„Das eigene Herz erkennen" heißt die Rezension von Ganna Serehan über das Buch des deutschen Priesters und Schriftstellers W. Hünermann „Der Bettler von Granada", das vor kurzem im Verlag „Pro Christo" erschienen ist (S. 62-63).

Die Rubrik „Bücherschätze" enthält den Artikel des Forschers Jury Lauruk über die Büchersammlungen der Minsker Bernhardiner im Jahr 1796 (S. 64-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma rozpoczyna artykuł Waleryja Bujwała pt. „Lucas Cranach Starszy. Adam i Ewa w Rajskim Ogrodzie", w którym autor opowiada o jednym z arcydzieł niemieckiej sztuki renesansu (s. 2-3).

Czytelnikom proponuje się referat arcybiskupa Tadeusza Kondrusiewicza „Deklaracja *Nostra aetate* i rozwój dialogu judeo-chrześcijańskiego", wygłoszony podczas międzynarodowej konferencji religijnej (s. 4-6).

Kontynuuje się publikacja tłumaczenia „Kwiatków św. Franciszka" dokonanego przez Aksanę Danilczyk (s. 7-10).

W rubryce *„Ad fontes"* drukuje się ciąg dalszy tłumaczenia na język białoruski słynnej pracy Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa" (s. 11-13).

W niniejszym numerze czasopisma Czytelnikom proponuje się fragment książki „Na straży wiary" poświęconej osobie księdza Stanisława Żuka (s. 14-19).

W rubryce *„Wiara & kultura"* proponuje się część druga artykułu Piotra Rudkouskiego OP „Mowa jako problem kulturowy i etyczny" (s. 20-24).

Tragicznym wydarzeniom, które miały miejsce w Katyniu 10 kwietnia bieżącego roku, jak również i tym sprzed 70 lat, poświęcone są artykuły Witala Tarasa „Pod krzyżem katyńskim" i Iryny Żarnasiek „Dni naszych spływ lodowy" oraz wiersz Danuty Biczel „Pielgrzymka do Katynia" (s. 25-29).

W rubryce *„Poezja"* drukują się wiersze znanego białoruskiego poety Jana Czykwina z książki „Garść piasku", oraz młodej poetki Julii Szedźko (s. 30-31, 40-41).

Z okazji 170-lecia z dnia urodzin Franciszka Bohuszewicza ukazuje się artykuł znawcy literatury Iryny Bahdanowicz „Poślij więc, Boże, Prawdę swoją..." (s. 32-35).

Arkadź Szpunt proponuje czytelnikom kolejne notatki restauratora pt. „Anioły" (s. 36-39).

W rubryce *„Proza"* drukuje się fragment opowieści Ryszarda Kurylczyka „Niezłomny z Nazaretu" w tłumaczeniu z języka polskiego Anatola Butewicza (s. 42-46).

Danuta Biczel w eseju pt. „Geniuszowie" opowiada o białoruskiej poetce Łarysie Geniusz i jej mężu (s. 47-53).

Artykuł Haliny Tyczko „...I skszydła kreślą SZLAK" poświęcony został twórczości białoruskiej poetki i znawcy literatury Haliny Twaranowicz (s. 54-57).

W rubryce *„Literatura"* drukuje się artykuł Anżeły Mielnikawaj na temat podstaw chrześcijańskich prozy Marii Wajciaszonak (s. 58-61).

„Poznać własne serce" — taki tytuł nosi recenzja Hanny Serechan na książkę niemieckiego księdza i pisarza Wilhelma Hünermanna „Żebrak z Grenady", która niedawno ukazała się w mińskim wydawnictwie „Pro Christo" (s. 62-63).

Badacz Jury Łauryk w rubryce *„Skarby książkowe"* proponuje artykuł o księgozbiorze bernardynów mińskich w 1796 roku (s. 64-71).

## SOMMARIO

Questo numero di "Naša vera" inizia con la pubblicazione dell'articolo del critico d'arte Valery Bujval "Lucas Cranach detto il Vecchio. Il Paradiso", nel quale l'autore presenta il capolavoro della pittura del Rinascimento tedesco (p. 2-3).

All'attenzione dei lettori si sottopone l'intervento dell'Arcivescovo Tadeusz Kandrusevič "La dichiarazione „Nostra aetate" e lo svolgimento del dialogo cristiano-giudaico" ad una conferenza internazionale (p. 4-6).

Sotto la rubrica *Traduzioni* continua la pubblicazione dei *Fioretti* di San Francesco tradotti da Aksana Danilchyk (p. 7-10).

Nella rubrica *Ad fontes* all'attenzione dei lettori si sottopone la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo* tradotto in bielorusso (p. 11-13).

In questo numero si pubblica anche un brano del libro "A guardia della fede" dedicato alla persona del sacerdote Stanislau Zuk (p. 14-19).

Sotto la rubrica *Fede e cultura* si pubblica la seconda parte dell'articolo di Piotr Rudkouski OP "La lingua come problema culturale ed etico" (p. 20-24).

Ai tragici eventi avvenuti a Katyn' il 10 aprile dell'anno corrente e 70 anni fa sono dedicati gli articoli di Vital Taras "Sotto la croce di Katyn" e di Irina Žarnasek "Disgelo del fiume dei nostri giorni" e la poesia di Danuta Bicel "Il pellegrinaggio a Katyn'" (p. 25-29).

Le opere del famoso poeta bielorusso Jan Čykvin dal libro "Una manciata di sabbia" e della giovane poetessa Julia Šedzko sono pubblicate sotto la rubrica *Poesia* (p. 30-31, 40-41).

L'articolo del critico letterario Iryna Bagdanovič è dedicato al $170^0$ anniversario della nascita di Franziszak Bagušević (p. 32-35).

Arkadz Špunt propone di nuovo ai lettori i suoi appunti del restauratore intitolati "Gli angeli" (p. 36-39).

Sotto la rubrica *Narrativa* si pubblica un brano della novella di Ryszczard Kapuszinski "Uomo ferreo di Nazaret" tradotto dal polacco da Anatol Bytevič (p. 42-46).

Danuta Bičel nel saggio "I Gheniuš" racconta del marito e del figlio della poetessa bielorussa Laryssa Gheniuš (p. 47-53).

L'articolo di Halina Tyčko "…E le ali tracciano il CAMMINO" è dedicato all'attività letteraria della poetessa e ricercatrice bielorussa Halina Tvaranovič (p. 54-57).

Sotto la rubrica *Letteratura* si pubblica l'articolo di Angela Melnikava dedicato alle fondamenta cristiane della narrativa di Marya Vayziašonak (p. 58-61).

La recensione di Hanna Serekhan del libro del sacerdote e scrittore tedesco V. Khiunerman "Il misero di Granada" da poco stampato presso la casa editrice "Pro Cristo" si chiama "Riconoscere il proprio cuore" (p. 62-63).

Nella rubrica *I tesori della libreria* Jury Lauryk pubblica l'articolo dedicato alla raccolta dei libri dei monaci bernardini a Minsk nel 1796 (p. 64-71).

---

На 1-й старонцы вокладкі — скульптура анёла з алтара св. Антонія ў пінскім катэдральным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Фота М. Мельнікава.

*Часопіс «**НАША ВЕРА**», № 2 (52)/2010.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацы за № 903.*

*Падпісаны да друку 28.05.2010 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №*

*Надрукавана ў друкарні ТАА «Прамкомплекс» ЛП № 02330/0494121 ад 25.02.2009.*

*вул. Бехцерава, 10-402, 220021 г. Мінск.*

# Анелы

## Нататкі рэстаўратара

(артыкул А. Шпунта чытайце на старонках 36–39)











Фрэска і скульптуры
анёлаў з пінскай катэдры
Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.
Фота М. Мельнікава і М. Новікава.



Арханёл Міхал
Скульптура над амбонай у пінскім катэдральным касцёле
Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.
Фота М. Мельнікава.